Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 33 (4977) 20 жніўня 2010 г.

## У нумары:





Высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі і ганаровымі званнямі адзначаюцца нашы лепшыя суайчыннікі, якія вылучыліся ў розных сферах дзейнасці выдатнымі дасягненнямі і сваёй працай спрыяюць росквіту Радзімы. Сярод сапраўдных герояў дня, якім Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў нядаўна высокія знакі ўсеагульнага прызнання, — вядомы творца і педагог, загадчык кафедры малюнка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Тоўсцік. Указам кіраўніка дзяржавы яму нададзена ганаровае званне “Народны мастак Беларусі”.



# Карані і крылы таленту



“Мне вельмі прыемна, што краіна адзначыла маю працу. Лічу, што мастак павінен жыць для грамадства, і не веру тым, хто кажа, што піша палотны для сябе. Калі мастак жыве ў сваёй краіне і ў коле блізкіх людзей, творчасць, як мне падаецца, павінна зыходзіць з яго каранёў, ад вытокаў, каб ягоныя землякі разумелі яе. Трэба толькі шчыра працаваць, бо без шчырасці мастацтва не бывае”. Вось такім прызнаннем адрэагаваў Уладзімір Тоўсцік на свой новы статус, міжволі акрэсліўшы пазіцыю сапраўды народнага творцы — народнага паводле існасці свайго таленту, крылы якога сілкуюцца ад глыбінных вытокаў загадкавай беларускай ментальнасці, магутных каранёў роднай гісторыі, унікальнасці спаконвечных культурных традыцый.

Нарадзіўся ён у Мінску, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер БДАМ) і ў творчых майстэрнях АМ СССР у Баку. Разнажанравыя работы беларускага жывапісца-станкавіста захоўваюцца ў мастацкіх зборах Беларусі, Азербайджана, Расіі, Нідэрландаў, ЗША, Італіі... Амаль 40 гадоў таму У. Тоўсцік пачаў удзельнічаць у айчынных і замежных выстаўках. Сёння яго можна сустрэць на многіх сталічных вернісажах, аднак часцей — у якасці не экспанента, а кампетэнтнага гледача-эксперта, які прыйшоў добрым словам падтрымаць калег, пакланіцца няўрымсліваму духу і працавітасці патрыярхаў айчыннага жывапісу, павіншаваць равеснікаў, адзначыць поспехі моладзі.

Зрэшты, маладое пакаленне можа ўжо і самога У. Тоўсціка ўспрымаць як сучаснага класіка, чыя творчасць — як сплаў сапраўдных залацінак. У розны час ён увасобіў на палотнах рамантычны дух дарэвалюцыйнай пецярбургскай прэм’еры Купалавай “Паўлінкі”, вобраз беларускага светача — Уладзіміра Караткевіча, партрэты калег-мастакоў; выступіў чуйным сааўтарам пісьменніцы Таісы Бондар, асэнсаваўшы паэтычную прастору яе кнігі “Рагнеда” праз глыбіню жывапісных выяў. Ён пакінуў свой творчы след у афармленні інтэр’ераў Мінскай ратушы і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Разам са сваімі калегамі В. Даўгалам і Г. Жарыным працаваў над маштабнымі габеленамі для аздаблення інтэр’ераў Мірскага замка. Напаўняў жыццесцвярджальнай музыкай унутраны свет сваіх метафарычных нацюрмортаў і жанравых сюжэтаў. Саграваў аптымістычным позіркам люстрункі мінуўшчыны. Надаваў мудрую беларускую самадастатковасць, годнасць і гожасць узноўленым абліччам асоб, знакавых для нашай гісторыі...

Летась у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прайшла персанальная, прымеркаваная да яго 60-годдзя, выстаўка У. Тоўсціка: “Падарожжа па прамінулым стагоддзі”. Экспанаваліся палотны, створаныя жывапісцам за апошнія тры дзесяткі гадоў, — маляўнічыя выразнікі яго індывідуальнага (хоць і ўгрунтаванага ў рэчышча пэўных, карэнных і сусветных, традыцый) погляду на свет, на плынь жыцця, насычаную імправізаванымі спалучэннямі з’яў, нечаканых абагульненняў, асабістых асацыяцый, алюзій...

Мне тады прыгадалася кранальная падзея з фестывалю “Музы Нясвіжа-2008”, прысвечанага адраджэнню гукавога кантэксту шасці стагоддзяў беларускай музыкі. Дык вось, у музычны кантэкст фэсту арганічна ўвайшоў камерны вернісаж У. Тоўсціка, які прапанаваў гледачам жывапіснае падарожжа па мінулых часах — праз падборку сваіх карцін таго, 2008-га, года. Атмасфера фэсту акрыліла Уладзіміра Антонавіча: “Прыемна, што ў Нясвіжы адраджаецца культура. Гонар для мастака — тут пабываць. І выбар твораў для фестывальнай выстаўкі я зрабіў адмысловы. Гэта быццам адыход у рамантызаванае мінулае, перададзенае ў серыі з чатырох партрэтаў-тыпажоў колішняга мястэчка: “Прыказчык”, “Мадыстка”, “Афіцэр”, “Гадзіншчык”, — і дапоўненае больш светлым каларытам жанравых карцін. Я зрабіў для інтэр’ера адрэстаўраванай Нясвіжскай ратушы партрэт Радзівіла Сіроткі. А цяпер замак Радзівілаў дасць магчымасць мастакам далучацца да вялікага працэсу адраджэння нашай культурнай спадчыны і гістарычнай памяці. Сам Нясвіж — энергетычная мясціна, і многае, што звязана з гэтым горадам, легендарным замкам, просіцца на палатно”.

Магчыма, наступны вернісаж Уладзіміра Тоўсціка парадуе нас нясвіжскімі матывамі?

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка віншуе прафесара Уладзіміра Тоўсціка з высокім званнем народнага мастака Беларусі; палотны майстра — “Гадзіншчык” і “Мадыстка”.

Фота БелТА і Віктара Кавалёва



## Пунктірам

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Людмілу Хіцяеву з юбілеем, мастацкага кіраўніка Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра імя А. П. Чэхава, народнага артыста СССР Алега Табакова — з 75-годдзем.

• У Віцебску аб'яўлены адкрыты конкурс на лепшы гімн горада. Для ўдзелу ў конкурсе неабходна да 30 верасня прадставіць тэкст гімна на беларускай мове (не больш як чатыры страфы, адна з якіх прыпеў) і ноты, а таксама асабістыя дадзеныя.

• Мастак і літаратар Артур Клінаў па прапанове кінастудыі "Беларусьфільм" працуе над сцэнарыем для экранізацыі кнігі Яна Баршчэўскага "Шляхціц Завальня". Здымкі плануецца распачаць напрыканцы года.

• Фільм Аляксандра Колбышава "Ваўкі", зняты летась кінастудыяй "Беларусьфільм", атрымаў Гран-пры XIII Бярдзянскага міжнароднага кінафестывалю. Апроч галоўнай узнагароды прэстыжнага ўкраінскага кінафоруму, "Ваўкі" ўзялі таксама прыз у намінацыі "Лепшая апаратарская праца".

• Выйшла аўдыёкніга "Паслание сябрам", якая змяшчае 19 вершаў Ларысы Геніюш у выкананні самой аўтаркі. Запіс быў зроблены ў маі 1981 года ў Зэльве. На дыску таксама сабраныя фотаздымкі сяброў суполкі "Паддашкаўцы", сярод якіх Ларыса Геніюш, Язэп Кулік, Мікола Ермаловіч, Міхась Ткачоў.

• Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова "Гомельскі палацава-паркавы ансамбль" прэзентавала новы праект пад назвай "Музычныя асамблеі". Цяпер ля сцен палаца будуць ладзіцца канцэрты класічнай музыкі, на якія плануецца запрашаць не толькі беларускіх музыкаў, але і замежных гасцей.

• Калектыўная выстава друскінінкайскіх мастакоў, арганізаваная пры падтрымцы Генеральнага консульства Літвы ў Гродне, будзе працаваць у Гродзенскай выставачнай зале да 28 жніўня. Выстава дэманструе жывапіс, графіку, скульптуру, тэкстыль, батык больш як 20 літоўскіх майстроў.

• У гарадскім пасёлку Жалудок Гродзенскай вобласці ў трэці раз адбыўся фестываль кветак, які сёлета праходзіў пры падтрымцы Еўрасаюза і Праграмы развіцця ААН. Удзельнікі спаборнічалі ў майстэрстве складання букетаў, ландшафтным дызайне, стварэнні кветкавых кампазіцый.

• Беларускі жаночы хор "Чароўныя лілеі" атрымаў некалькі ўзнагарод VI Міжнароднага фестывалю харавога мастацтва "Поющий мир" імя Юрыя Фалікава, які прайшоў нядаўна ў Санкт-Пецярбургу. Калектыў атрымаў дыпломы другой ступені ў намінацыях "Духоўная музыка" і "Аднародныя хоры" і першую ўзнагароду ў намінацыі "Сучасная музыка".

• Выстаўка "Усмешкі беларусаў. Вядомых і розных" дзейнічае ў Нацыянальным мастацкім музеі. Экспазіцыю склалі 50 фотаздымкаў усмешлівых беларусаў, што былі адабраныя падчас спецыяльнага конкурсу.

• Выстава "Традыцыі і культура Японіі" адкрылася ў карціннай галерэі Рыгора Вашчанкі ў Гомелі. Экспанаты прадаставіла амбасада Японіі ў Беларусі. Калекцыя знаёміць наведвальнікаў з асноўнымі традыцыямі і побытам жыхароў Краіны ўзыходзячага сонца.

Падрыхтавалі Саша ДОРСКАЯ і Бажэна СТРОК

## Памяць

# "Ён проста ў вечнасці знайшоў начлег"

Грамадскасць адзначыла 56-я ўгодкі з дня смерці класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. На Вайсковых могілках у Мінску адбылося ўскладанне кветак да помніка паэту.



Калі паглядзець на ступень увагі нашчадкаў да пісьменніцкай спадчыны, дык песняру тут, безумоўна, належыць адно з першых, пачэсных месцаў. Акрамя мастацкай значнасці самой яго творчасці, істотную ролю адыгрывае самаахвярная праца шэрага даследчыкаў, якія гуртуюцца вакол Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Менавіта супрацоўнікі ўстановы на чале з яе дырэктарам Зінаідай Камароўскай сталі ініцыятарамі штогадовай традыцыйнай акцыі ўшанавання памяці паэта.

Пасля ўскладання сынам песняра Міхасём Міцкевічам і літаратуразнаўцам Міхасём Мушынскім вянка, а іншымі прысутнымі — кветак да помніка Коласа, адбыўся невялікі мітынг. Зінаіда Камароўская, якая вяла рэй, па чарзе прадставіла слова старшыні мінскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасю Пазнякову, старшыні Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталлі Аўдзеевай, паэтам Міколу Маляўку і Навуму Гальпяровічу, былому шматгадоваму загадчыку аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатолю Грэкаву, Міхасю Міцкевічу і Міхасю Мушынскаму.

З вуснаў Камароўскай і сына пісьменніка гучалі вершы самога Коласа, ад Міхася Пазнякова, Міколы Маляўкі — вершаваныя прысвячэнні. "Ён проста ў вечнасці знайшоў начлег" — менавіта гэты радок з верша Міколы Маляўкі настроіў прысутных на самотна-светлы лад.

Анатоль Грэкаў распавёў прысутным пра цэлую праграму мерапрыемстваў ушанавання памяці Коласа, якія праводзяцца цяпер і плануюцца ў перспектыве. Як вядома, на Стаўбцоўскай зямлі ладзяцца два фэсты: юных музыкантаў "Сымон-музыка" і беларускай песні "Альбуцкая крынічка". У планах — стварэнне драўлянага комплексу скульптур "Шлях Коласа", сцяжыны валуноў у Альбуці, дзе прайшло дзяцінства пісьменніка, а таксама трох помнікаў — самому песняру на тэрыторыі музея, Коласу і Купалу ў Смольні, дзе адбылася іх першая сустрэча, і дзядзьку Антосю ў Стоўбцах. Галоўнай жа падзеяй стане стварэнне папячыцельскага савета для падтрымкі дзейнасці літаратурна-мемарыяльнага музея.

Напрыканцы Міхась Мушынскі нагадаў, што пачалася ўжо падрыхтоўка да святкавання 130-гадовага юбілею Якуба Коласа, і заклікаў да сумеснай працы. Тым больш, што да гэтага юбілею засталося ўсяго два гады.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымку: ускладанне кветак да помніка Якубу Коласу.

Фота Кастуся Дробава

## За падзеяй

# З Нацыянальнай — у вясковую

Днямі па ініцыятыве міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі адбылася перадача кніг з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў Ждановіцкую сельскую бібліятэку. Кожны чалавек нашай краіны, незалежна ад таго, жыве ён у вёсцы альбо ў сталіцы, павінен мець магчымасць знаёміцца з усім, што ствараецца ў культуры і літаратуры.

Паводле слоў загадчыка бібліятэкі Галіны Атрасевіч, сёння да іх запісана 1810 чытачоў, 500 з іх — дзеці. Кніжны фонд налічвае 19525 экзэмпляраў. Кнігавыдача ў мінулым годзе склала 32605 асобнікаў. На паліцах прадстаўлены багаты выбар перыядычных выданняў: да ўвагі наведвальнікаў 20 газет і 30 часопісаў.

У мясцовую бібліятэку заходзяць не толькі для таго, каб узяць альбо здаць кнігу. Для вёскі бібліятэка — гэта інтэлектуальны і культурны цэнтр. Тут праходзяць сустрэчы з творчымі людзьмі, адбываюцца лекторыі на розныя тэмы. Акрамя таго, на базе Ждановіцкай сельскай бібліятэкі працуюць два клубы для дзяцей і падлеткаў. Прававы клуб "Суразмоўца" накіроўвае сваю дзейнасць на работу з дзецьмі, якія стаяць на ўліку ў міліцыі. Творчы клуб "ЛІМОН" аб'ядноўвае юных літаратараў і журналістаў Ждановіцкай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы. Дзякуючы такому супрацоўніцтву школы і бібліятэкі павялічваецца колькасць юных чытачоў. Асаблівую ўвагу супрацоўнікі бібліятэкі надаюць ветэранам, інвалідам і адзінокім пажылым людзям.

Павел Латушка падкрэсліў, што важна захоўваць у людзей, асабліва ў дзяцей і моладзі, цікавасць да чытання. Гэтую мэту ставіць перад сабой і акцыя перадачы ў фонд Ждановіцкай сельскай бібліятэкі камплектаў кніг. Новыя выданні, што з'явяцца на паліцах, абавязкова будуць запатрабаваныя чытачамі. Спадар Латушка дадаў, што і сам як чытач запісаны ў гэтую бібліятэку і мае магчымасць браць неабходныя кнігі.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

## Ад відавочцы

# Зацемкі з радзімы паэта

"Хрыстос прызямліўся ў Гародні", а ў Клецку, 14 жніўня, каля раённага цэнтра культуры, ЛеГал выбраўся з аўтобуса, вывцягнуўшы ўслед важкую валізу з кніжкамі... Першыя крокі былі асцярожнымі, хоць каму як не яму ісці гаспадаром тут, дзе на пытанне: "Хто твой найбольш знакаміты зямляк?" — школьнікі, зважаючы на ўладную інтанацыю настаўніка, хуценька адказваюць: "Л-л-леанід Г-г-галубовіч... П-правільна?"



Правільна! Ды чаго хацець ад дзяцей, добра што ведаюць, а разбяруцца ў сваіх сапраўдных прыхільнасцях пазней, калі навучацца чытаць вершы. Тады і даведаюцца, і асэнсуюць усе здзяйсненні гэтага чалавека, які здолеў захавацца як асоба і як паэт, колькі б ён ні называў сябе "былым"...

Мерапрыемства, як зазначыў сам юбіляр, адгуло ў акадэмічным фармаце. Ён адзначыў і тое, што вельмі расчулены прыёмам: дзяўчаты-выдатніцы чыталі ягоныя вершы розных гадоў (амаль з усіх зборнікаў), вядучая звыкла-мядовым тонам запаўняла пераходы паміж нумарамі.

Хто ўмеў вылучыцца — у песні, прамове, дэкламацыі — вылучыўся, хто не ўмеў, той, прынамсі, пастараўся.

Кніжкі са згаданай валізы разышліся на "ўра". Дзіва што! Купрэеў і Гадулька. Калі не ўся аўдыторыя іх ведае, то пазнаёміцца, учытаецца, зразумее і палюбіць. І нельга не згадзіцца: юбіляр — адзін з нешматлікіх заступнікаў тых, хто і пры жыцці не вельмі ўмеў "прасунуць" сваю творчую прадукцыю.

Паўсотні своеасаблівых абраннікаў (мясцовая інтэлігенцыя у поўным узроставым дыяпазоне) пакідалі мерапрыемства зусім не стомленымі дзвюма гадзінамі духаты: як не прыглядайся — пахмурных твараў не заўважыш.

Не так шмат "зорак" выходзіць з асобна ўзятай, перыферыйнай мясцовасці. Таму тут ганарацца нават тымі, хто дасягнуў абласнога узроўню. А што ўжо казаць пра творчыя аўтарытэты рэспублікі!

А юбіляр усё-такі прызнаўся, што неўзабаве зноў наведае Клечыну, каб у родным Вароніне акрыяць ды набрацца сіл. Чакаем, Леанід Міхайлавіч!

Ігар КАНАНОВІЧ

На здымку: паэт, крытык Лявон Галубовіч падчас святкавання яго юбілею на малой радзіме.

Фота Ліліі Мялешкі

## З нагоды

# Падарунак школьнікам

У хуткім часе ў выдавецтве "Пачатковая школа" пабачыць свет кніга "Полацк — бацька гарадоў беларускіх" — першае выданне серыі для школьнікаў "Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі", у якой пазней выйдуць кнігі пра Мінск, Віцебск, іншыя мясціны. Аўтарамі кнігі пра Полацк, заканамерна, з'яўляюцца людзі, чые жыццё і творчасць цесна знітаваны з гэтым горадам — пісьменнік Навум Гальпяровіч і дырэктар выдавецтва "Пачатковая школа" Наталля Ваніна.

"Полацк — бацька гарадоў беларускіх" — выданне шматграннае. Яно ўключае ў сябе гістарычны нарыс пра Полацк з першых згадак пра яго ў летапісе і да нашых дзён. Гэта ў той жа час і аповед пра слаўных ураджэнцаў горада, ад Еўфрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага да вучонага, выпускніка Полацкага кадэцкага корпуса Дзмітрыя Кайгародава, Героя Савецкага Саюза Сцяпана Пашкевіча. У выданні ёсць і раздзел "Літаратурная Полаччына": гэты рэгіён Беларусі, як вядома, займае асаблівае месца ў гісторыі айчыннай літаратуры. Маленькі чытач тут зможа прачытаць таксама пра музеі сучаснага Полацка.

Пісаць гісторыю самага старажытнага горада Беларусі — справа адказная. Таму кнігу ўважліва прачытаў Юрый Бохан, доктар гістарычных навук, рэцэнзентам выдання стаў археолаг з Полацка Дзяніс Дук, загадчык кафедры Полацкага дзяржаўнага універсітэта.

"Полацк бацька гарадоў беларускіх" — кніга, багата ілюстраваная, аформленая фотаздымкамі, выявамі археалагічных знаходак, дзіцячымі малюнкамі. Да таго ж, да кожнага раздзела пададзены пытанні, на якія юныя чытачы павінны адказаць. Як адзначае Навум Гальпяровіч, гэта першае выданне, што носіць адначасова і літаратурны, і метадычны, вучэбны характар.

Першая прэзентацыя кнігі пра Полацк пройдзе ў Маскве, на XXIII Міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы, пасля гэтага аўтары наведаюць Дзень беларускага пісьменства ў Хойніках. Навум Якаўлевіч выказаў спадзяванне, што кніга стане настольнай не толькі для маленькіх палачан, але і для ўсіх школьнікаў Беларусі, якія знаёмяцца з гісторыяй роднага краю.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Літ-абсягі

# Фотакніга як жанр

**У год 65-годдзя Перамогі выйшла ў свет кніга “Брестская крепость. Война и мир”. Аўтар канцэпцыі і тэксту Аляксандр Сувораў вядомы ў колах краязнаўцаў Брэста і сярод чытачоў. Прынамсі, па папярэдняй кнізе “Брэсцкая крэпасць. На вятрах гісторыі”, якая стала пераможцай на Нацыянальным конкурсе “Мастацтва кнігі” ў 2005 годзе. Сёлетняя кніга абсалютна новая. Як па змесце, так і па самой канцэпцыі.**




Кніга надзвычай маляўнічая, у ёй шмат фотаздымкаў і дакументаў. Аўтары правялі агромністую даследчую працу. Тут выкарыстаны матэрыялы з розных гістарычных крыніц, у тым ліку — ваенна-гістарычнага архіва ў Фрайбургу, прыватных асоб. Адзін з буйнейшых калекцыянераў па тэматыцы Брэсцкай крэпасці Аляксандр Вярбіцкі, які жыве ў Германіі, прадаставіў для выкарыстання свае зборы. Акрамя ўсяго, ён з'яўляецца адным з кансультантаў гэтай кнігі.

— Я прытрымліваюся той думкі, што сярод моладзі расце пакаленне візуалістаў, — распавядае Аляксандр Сувораў. Мы вынайшлі як асобны і самастойны новы жанр гістарычных выданняў, які назвалі “фотакніга”. Не альбом і не гістарычная кніга. А менавіта — фотакніга. Яе звышзадача: напачатку прыцягнуць да сябе ўвагу. А калі чалавек захопіцца, увойдзе ў тэму, ён прачытае не толькі подпісы пад здымкамі, а і ўвесь тэкст. Вось тады мы і выконваем сваю місію — вяртаем гістарычную памяць пакаленню маладых.

Неяк так павялося, што пераважная большасць насельніцтва думае і асацыіруе Брэсцкую крэпасць з падзеямі 1941 года. “А я лічу, што гэта — вельмі важная вяха, але — толькі адзін з эпізодаў жыцця Цытадэлі”, — заўважае Аляксандр Сувораў. На самай справе сама крэпасць — захаваны праз стагоддзі помнік гісторыі. І гэта выразна разумееш, калі чытаеш кнігу. Крэпасць — сімвал загінуўшага горада, які існаваў здаўна — Бярэсця. Яму больш васьмі вякоў. “Мы згадваем перыяд, які звыкла называюць расійскім, тыя 120 гадоў, калі Беларусь як гістарычная частка ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Але не трэба забывацца і на тое, што было да гэтага і да 1941 года, — распавядае даследчык. — Брэст пяць разоў пераходзіў з рук у рукі, і над ім былі розныя сцягі. Ён быў пад украінскай адміністрацыяй, пад нямецкай, польскай... Я спрабаваў зрабіць поўную гістарычную панараму за ўсе 176 гадоў, якія існуе крэпасць. Спадзяюся, што гэта будзе лепшае выданне агляднага характару за апошнія паўстагоддзя. А можа, хто-небудзь апярэдзіць мяне і напіша яшчэ лепш”.

Пра Брэсцкую крэпасць найперш згадваюцца два выданні: кніга Сяргея Смірнова, якая была створана ў савецкую эпоху. Грамадзянскі подзвіг аўтара ў тым, што ён вярнуў добрае імя людзям, якія ўдзельнічалі ў першых баях. Смірноў сваімі нарысамі надаў крэпасці і міжнародную вядомасць.

А яшчэ ў 1961 годзе выйшаў зборнік успамінаў удзельнікаў абароны Брэсцкай крэпасці — “Гераічная абарона”. Першы выпуск — найбольш шчыры і праўдзівы. Успаміны непасрэдных відавочцаў падзей. Затым былі зборнікі нарысаў, публікацыі ў прэсе. І вось — слаўная дата — 65-годдзе Перамогі — прынесла новае асэнсаванне цяпер далёкіх ад нас падзей.

Ірына ТУЛУПАВА

## Арт-лінія

# Таямнічае сугучча фарбаў

**У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрылася мастацкая выстава Мікалая Мішчанкі пад назвай “Эксперымент”. Увазе гледачоў прадстаўлены нацюрморты, эцюды і пейзажы, выкананыя акварэллю падчас паездак са студэнтамі на пленэры. Гэты праект адлюстроўвае яшчэ адзін бок творчасці мастака, які на працягу жыцця спалучае працоўную дзейнасць з творчай працай.**



Выстава з'яўляецца значнай у біяграфіі мастака, бо яна сведчыць пра наяўнасць творчага, мастацкага запалу, які не губляецца, а дазваляе па-новаму адгукацца на тое, што адбываецца навокал.

— Спачатку планаваўся зусім іншы праект, але потым я вырашыў прадставіць гэты свой эксперымент з акварэльным жывапісам, паперай, — паведаміў Мікалай Яўгенавіч. — І нездарма выбраў такую назву, бо “эксперымент” — гэта тое слова, якое аб'ядноўвае ўсе аркушы маёй выстаўкі. Тое, што адлюстравана тут, гэта тыя рэчы, якія чалавек любіць, якія знаходзяцца побач з ім.

У палотнах Мікалая Мішчанкі захаваны светлы, шчымлівы погляд на жыццё. Тут усё звычнае нашаму воку набывае магічнае гучанне, а потым адгукаецца асацыяцыямі, вобразамі і думкамі. Пейзажы і нацюрморты мастака быццам прадастаўляюць шыкоўную магчымасць спыніць час і прыслухацца да вечнасці.

Досыць сімвалічным падалося наведвальнікам палатно “Снежная зіма”. Снег за акном, на падаконні стаяць кісці мастака, і, здаецца, глянеш на такое хараство — народзіцца шэдэўр. А ў карціне “Ля плаціны” адчуваецца неўтаймоўная сіла гучання фарбаў і адценняў. Тут усё, што не выкажаш словамі: замілаванне наваколлем, прага яднання з прыродай, яе спакой, прахалода і хараство. Успамінам пра блізкую восень прасякнуты “Нацюрморт з калінай”…

Наведалі выставу, падзяліліся сваімі ўражаннямі і павіншавалі мастака начальнік упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Міхаіл Казловіч, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў і мастакі-калегі, сярод якіх былі Уладзімір Кожух, Георгій Паплаўскі, Юрый Кілько. Як заўважылі прысутныя, каб на такім узроўні валодаць тэхнікай акварэлі, трэба працаваць вельмі ўважліва, бо гэта праца ў пастаянным напружанні. І калі звычайна паняцце “эксперымент” звязваюць з нейкімі авангарднымі пошукамі незвычайных рашэнняў, то ў палотнах Мікалая Яўгенавіча мы маем магчымасць назіраць эксперымент унутранага зместу, а менавіта: унутранай барацьбы. У яго пейзажах і нацюрмортах глядач мае магчымасць спасцігнуць творчую пазіцыю, душэўны стан мастака. І гэта немалаважна. “Мастацтва выхоўвае чалавека. Тое, што мы прапануем яму, азначае, што такім мы хочам яго бачыць, — кажа Мікалай Яўгенавіч. — Мы нясём адказнасць перад гледачом”.

Выстаўка будзе доўжыцца да 25 жніўня.

Алена ДРАПКО

На здымку: Мікалай Мішчанка.

Фота Кастуся Дробава

## Повязі

# “Хай Кітай усміхаецца ў Мінску…”

**Правінцыю Сінцзян, што месціцца на поўначы Кітая, і Беларусь аддзяляюць тысячы кіламетраў. Аднак яны не сталі перашкодай для цесных стасункаў паміж народамі. У Доме таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася беларуска-кітайская вечарына “Масты сяброўства” з удзелам дэлегацыі Сінцзянскага народнага таварыства дружбы з замежжам КНР. Таварыству дружбы і культурных сувязей “Беларусь — Кітай”, якое ўзначальвае былы пасол Рэспублікі Беларусь у КНР Уладзімір Русакевіч, сёлета спаўняецца 50 гадоў.**



Таварыства праводзіць вельмі эфектыўную працу, найбольш актыўна супрацоўнічае з цэнтральным Пекінскім і рэгіянальным Шанхайскім аддзяленнямі адпаведнай кітайскай арганізацыі. Паводле слоў Ніны Іванаўны, старшыні прэзідыума Беларускага таварыства, сяброўскія повязі праяўляюцца ў папулярызацыі літаратуры і культуры Кітая, выступленнях у Беларусі аматарскіх творчых калектываў (прафесійныя калектывы маюць магчымасць паказаць сябе падчас афіцыйных дзён КНР у Беларусі), паказу відэафільмаў.

Жнівеньская сустрэча стала не толькі спатканнем сяброў з Паднябеснай, але і магчымасцю пазнаёміць іх з дасягненнямі беларускага мастацтва. Лаўрэат міжнародных конкурсаў Настасся Насачова выканала на цымбалах беларускую музыку, ансамбль народнай песні “Світанак” прадставіў яркае харэаграфічна-песеннае выступленне, якое ўключыла ў сябе песні “Добры вечар, госці”, “Ад панядзелка да панядзелка”, “Вяселле” ды іншыя. А ў выкананні салісткі філармоніі Вікторыі Казакевіч і Наталлі Мамыкі, якія спецыяльна дзеля гэтага выйшлі з адпачынку, прагучаў гімн беларуска-кітайскага сяброўства “Паднябесная песня”, створаны на словы Сяргея Панізніка кампазітарам Эдуардам Зарыцкім, які сам знаходзіўся за фартэпіяна.

Афіцыйны статус мерапрыемству дадаў удзел у ім кіраўніка дэлегацыі Лю Сундона, саветніка па палітычных пытаннях Ван Сяньцзюя, а таксама старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Аляксандра Юшкевіча.

Дэлегацыя з Сінцзяна ў складзе прадстаўнікоў мясцовага кіравання і бізнесменаў знаходзілася ў Мінску толькі тры дні. За гэты час яны пазнаёміліся з беларускай сталіцай, а таксама прадставілі прапановы па далейшым супрацоўніцтве паміж краінамі.

У выпадку паглыблення ўзаемаадносін можна спадзявацца, што радкі гімна сяброўства (“Хай Кітай усміхаецца ў Мінску, а ў Пекіне пяе Беларусь”), якія сталі сімваламі вечарыны, пераўтворацца са слоў у справу.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымку: кіраўнік дэлегацыі Лю Сундон уручае сувенір Ніне Іванаўне.

Фота Кастуся ДРОБАВА

## З-пад пяра

**Напярэдадні свята горада** беларускіх энергетыкаў, якому споўнілася 46 гадоў, на цэнтральнай плошчы Навалукомля на пляцоўцы пад адкрытым небам адбыўся першы гарадскі конкурс выканаўцаў эстраднай песні “Зорны дождж-2010”. Гэта стала адметнай падзеяй у самым буйным населеным пункце Чашніччыны. Удзел у мерапрыемстве бралі 25 спевакоў у пяці ўзроставых групах. Самаму малодшаму выканаўцу споўнілася пяць, старэйшаму — пяцьдзесят шэсць. Выступіць на навалукомскай сцэне пажадалі вакальная група “Слаган” з Віцебска, а таксама васьмігадовая лепельчанка Яна Стрэльчанка, якая ў гэтым годзе стала лаўрэатам міжнароднага конкурса “Кубак Еўропы”. Галоўную ўзнагароду атрымаў Андрэй Дашко, 35-гадовы жыхар Навалукомля.

Ірына ТОРБІНА

**Прайшлі гастролі** беларускай балетнай трупы ў Італіі. Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь прадставіў спектаклі “Спартак” Арама Хачатурана і “Жызель” Адольфа Адана. Паказы адбыліся на сцэне грэка-рымскага тэатра пад адкрытым небам “Театро Антіко” ў рамках фестывалю мастацтваў Taormina arte. У жніўні ў грэка-рымскім тэатры выступілі сусветна вядомыя танцоры і музыканты.

Вольга САВІЦКАЯ

**25 жніўня** ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Палац мастацтва адкрыецца выстава Гродзенскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў “Мастакі Прынямоння”. У арганізацыю ўваходзяць 48 мастакоў. Такая калектыўная выстава для іх далёка не першая. Толькі за апошнія тры гады члены абласной арганізацыі экспаніравалі свае карціны на 46 выставах не толькі ў Беларусі, але і ў Галандыі, Швецыі, Італіі, Францыі, Кіпры, Грэцыі, Польшчы, Літве, Украіне, Расіі і ЗША, а таксама ўдзельнічалі ў шматлікіх міжнародных пленэрах. Гэтая выстава збярэ творы такіх мастакоў Гродзеншчыны, як Н. Бандарчук, Ф. Собалеў, В. Казакоў, С. Кічко, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь А. Захараў, а таксама С. Грыневіч, А. Анціпін, В. Ільіна і многія іншыя.

С. Д.

**“ЛіМ” у свой час** паведамляў аб першай кнізе лірыкі ўнучатай пляменніцы Алеся Гаруна Браніславы Лапкоўскай (Прушынскай). Сёння мы ўжо маем тры яе выданні, напрыканцы мінулага года пабачыў свет зборнік дзіцячых вершаў “Чырвоны чараўнік”. У паэтычны свет яе настаўніца са школы ў Падстарынных Баранавіцкага раёна Анастасія Жук прыйшла значна пазней і за кароткі час апублікавала зборнікі паэзіі “Дарогай жыцця”, “Золотая осень”, “Белыя крылы”, “След на земле”. А днямі ў Брэсце выйшла яе кніга вершаў “Гронка рабіны”. Відавочна, гэта выданне будзе падзеяй для ўсіх аматараў прыгожага пісьменства.

Міхась МАЛІНОЎСКІ

**Урачыстае адкрыццё** персанальнай выставы Уладзіміра Капшая, прымеркаванай да 70-годдзя мастака, адбудзецца 25 жніўня ў Рэспубліканскай галерэі “Палац мастацтва”. Уладзімір Міхайлавіч, ураджэнец Рэчыцы, працуе ў афармленчым мастацтве, а таксама ў жывапісе і графіцы. Узначальвае секцыю мастацкага праектавання Беларускага саюза мастакоў. Апошнім часам працуе над стварэннем музейнага комплексу Напалеона Орды ў Іванаўскім раёне. Творы Капшая знаходзяцца ў Мотальскім музеі народнай творчасці, Музеі Хаіма Вейцмана ў Ізраілі, прыватных калекцыях ЗША, Канады, Германіі, Італіі ды інш. Выстава мастака працягнецца да 5 верасня.

С. Д.

Сёлета Міколу Калінковічу споўнілася б 60 год. Перад самым Новым годам. "Нарадзіўся я ў вёсачцы Цна, якая раскінула свае хаты ўздоўж правага берага цудоўнай, ласкавай, панадна-серабрыстай рачулкі з аднайменнай назвай каля 15 км на ўсход ад Лунінца, — піша ён у сваёй аўтабіяграфіі "Кароткі погляд на пражытае", надрукаванай у кнізе "З росных сцяжын".— Нарадзіўся ў завею і траскучы мароз — 18 снежня 1950 года. Запісалі ў метрыку 15 студзеня 1951. І зусім не ад таго, што хацелі "падмаладзіць", а з той прычыны, што сельсавет знаходзіўся ў суседняй вёсцы… Паспрабуй у разгул зімовай сцюжы па шматпавярховых гурбах дабярыся. Да таго ж — цяжкія роды…"

# АШХАБАДСКІЯ ДНІ МІКОЛЫ КАЛІНКОВІЧА

Мікола закончыў СШ № 2 у Лунінцы, выкладаў у вясковай школе нямецкую мову, служыў у войску, вучыўся на журфаку БДУ, працаваў у газетах, стаў афіцэрам…

Ашхабадская двухпакаёўка ў мяне была ў самым цэнтры горада — побач з "круглячком" ЦК партыі. Першы паверх. Вінаграднік. Мангал. Альтанка. І сонца. Жорсткае ўлетку, белае, як соль на спінах людзей, і пяшчотнае, ласкавае ўвесну і восенню. Пяць год на адрас гэтай кватэры прыходзілі пісьмы і паштоўкі ад родных, сяброў і з рэдакцый. Прыходзілі таксама газеты і часопісы. З Мінска. Атрымліваў (там у бібліятэцы не пагартаеш) тыднёвік "Літаратура і мастацтва", "Чырвоную змену", "Бярозку" і "Вясёлку". Аднойчы ў паштовай скрынцы ўзяў я "Звязду", што трапіла туды, як адразу я здагадаўся, выпадкова, паштары — з кім не бывае?— памыліліся, дык краем вока зірнуў на адрас, па якім газета павінна была быць дастаўлена, на прозвішча падпісчыка: М. Калінковіч. Хто такі? Вядома ж, зямляк. Праз колькі дзён я адчыніў дзверы амаль што круглатвараму, прыгожаму і моцна скроенаму хлопцу вышэй сярэдняга росту. Па ўсмешцы на твары адразу здагадаўся: зямляк! Тут, у далёкай Туркменіі, сустрэць земляка — падзея! Шчаслівая, радасная, незабыўная. Госць назваўся: гэта быў ён, гаспадар "блуднага" нумара "Звязды". Парукаліся. Прайшлі ў пакой.

— Мне Мікола Федзюковіч твой адрас даў, — сказаў Калінковіч. — Калі даведаўся, што еду ў Ашхабад, адразу ўспомніў пра цябе: "Там жа, — кажа, — і Васіль… Запішы, запішы адрасок. Мо і спатрэбіцца". Вось я і завітаў.

Мы абодва былі рады гэтай сустрэчы. Гаманілі доўга, а потым я правёў Міколу на тралейбус, на прыпынку яшчэ раз дамовіліся сустракацца як мага часцей. Слова потым трымалі.

Вядома, калі б я вучыўся ці нават жыў апошнім часам у Беларусі, Міколу Калінковіча абавязкова ведаў бы — альбо асабіста, альбо па газетных публікацыях. Але да сваёй першай сустрэчы мы выходзілі з розных "кропак": я з Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча, Мікола — з Белдзяржуніверсітэта. А, бачыце, сустрэцца ніколі не позна, тым больш пасябраваць некалі зусім невядомым людзям. Хоць сяброўству таму наканавана было быць нядоўгім… Даволі хутка прозвішча Міколы з'явілася на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў, у гарадской газеце "Вечерний Ашхабад". Дакументальныя аповесці друкаваліся з нумара ў нумар, мелі рэзананс. Крыху пазней надрукавала аповесць "Там, дзе цвіце тамарыск" і наша рэспубліканская газета "Знамя юности", чым Мікола асабліва ганарыўся: напомніў сябрам, землякам, усім тым, хто ведаў яго, што ён — піша, хоць і знаходзіцца далёка ад дому, што як творца жыве.

Пра што ж пісаў М. Калінковіч? Трэба заўважыць, ён вызначаўся надзвычайнай працавітасцю за пісьмовым сталом, пісаў хутка і, на першы погляд, быццам бы лёгка, забаўляючыся. Але толькі на першы погляд. Недзе ў глыбіні душы, несумненна, матэрыял спярша фарміраваўся, выспяваў, а ўжо потым — як вада з перакуленага глячка— выплёскваўся на паперу. Спярша Мікола пакутаваў. Безумоўна. Як і кожны творца. Той жа страх перад чыстым аркушам паперы. Тая ж радасць, калі хораша працуецца, і той жа знаёмы смутак, калі матэрыял адляжыцца і ты зноў прабяжыш вачыма па напісаных радках.

Праз усё гэта М. Калінковіч праходзіў. У час стварэння ім сваіх аповесцей, а потым і радыёп'ес "Камісар Закаспія" і "Ліпеньскае зарыва", што былі пастаўлены на туркменскім радыё, я быў побач з ім усюды. Нам хапала месца ў Ашхабадзе. Іншы раз, праходзячы па праспекце Свабоды, бачыў я недзе каля апоўначы святло ў акне кабінета Калінковіча. Я ведаў: Мікола піша, корпаецца ў архівах, занатоўвае нешта ў сшытак. Трэба спяшацца выпісаць усё, што зацікавіць, што павінна праліць святло на жыццёвы лёс людзей, якія былі тут яшчэ з часоў царскай Расіі. У першую чаргу яго цікавілі беларусы — такія, як Сяргей Малібожка, Барыс Тузін, Андрэй Фралоў і іншыя землякі, якія і сталі пазней героямі ягоных твораў.

У прадмове да першай кнігі М. Калінковіча "Не обрывается земная связь", якая пабачыла свет у выдавецтве "Туркменистан" у 1982 годзе накладам 30 000 асобнікаў, вядомы ў сонечнай рэспубліцы і за яе межамі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ТССР імя Махтумкулі Валянцін Рыбін вельмі шчыра і цёпла пісаў: "Мы ўсе з чаго-небудзь пачынаем. У адных, напрыклад, пачатак гэты найбольш яскрава выяўляецца ў паэзіі, мастацкім бачанні і адлюстраванні жыцця, у іншых — у багацці мовы, у трэціх — у фантазіі, аналітычнасці, іншы раз нават дэтэктыўнасці паказу падзей. Аднак почырк, манера, выбар творчага шляху — індывідуальнае. А індывідуальнасць дасягаецца перш-наперш карпатлівай працай над сабой і, вядома ж, дадзеным дарам.

Многае, калі не ўсё, у Калінковіча пачыналася з журналістыкі. (Па прафесіі ён — журналіст.) Яму добра знаёма беларускае Палессе — родны край. Спасціжэнне жыцця пашыралася па меры



працы ў Лунінцы, Брэсце і Мінску. З-пад пяра журналіста выйшла нямала газетных і часопісных публікацый.

Пошук забытых імёнаў і фактаў, падзей…Так з'явіліся цікавыя нарысы пра салдат Вялікай Айчыннай вайны, радыёпастаноўка "Ліпеньскае зарыва", даследаванне пра беларускі перыяд жыцця і дзейнасці Аляксандра Блока, пра рэвалюцыйныя падзеі на Палессі, пра Якуба Коласа… Так з'явілася кніга "Лунінец" — пра раённы цэнтр на Брэстчыне.

Праца і жыццё Міколы Калінковіча ў Ашхабадзе вызначылі яго выбар тэмы.

У дакументальных аповесцях "Памяць далёкая і блізкая", "Рэха ліпеньскага дня", "Там, дзе цвіце тамарыск", "Сустрэчны вецер", "Камісар Закаспія" і ў іншых М. Калінковіч узнаўляе, абапіраючыся на багаты і грунтоўны матэрыял, падзеі першых гадоў барацьбы за Савецкую ўладу ў Сярэдняй Азіі. Ашхабад, Ташкент, Бухара, Мары, Краснаводск, Байрам-Алі, Кізыл-Арват… Там змагаліся з класавымі ворагамі, і ў першую чаргу з басмачамі, героі твораў пісьменніка".

"Камісар Закаспія" — найбольш "беларуская" аповесць. Яна — пра Барыса Ільіча Тузіна, ураджэнца вёскі Загорная Клецкага раёна. Аўтар вядзе нас не толькі па барханах, дзе праляглі шляхі-дарогі унтэр-афіцэра, але нярэдка вяртае на Беларусь, у дарагія сэрцу героя мясціны.

Барыс Тузін, дарэчы, адным з першых прыняў вестку пра расстрэл 26-ці бакінскіх камісараў уначы на 20 верасня паміж станцыямі Перавал і Ахча-Куйма, за Краснаводскам…

Мы, беларускія ашхабадцы, часта збіраліся разам. Ашхабад — не Гомель, да бацькоў на выхадныя не шуганеш, на прысядзібны ўчастак таксама не трэба, іх проста ў нас не было, бо ўсе разумелі, што жывём тут часова, і карані глыбока не пускалі. Таму ў выхадныя робіш, што хочаш. Канцэрты, кіно, шашлыкі, горы, возера. І яшчэ быў футбол. Прыязджалі на сустрэчу з мясцовым "Будаўніком" (пазней — "Калхазчы") каманды з Расіі, Украіны, Малдавіі, нават мінскае "Дынама", калі вылятала з вышэйшай лігі, з трэнерам-іграком Эдуардам Малафеевым. Гэта былі не проста паходы на футбол. Гэта было нешта большае. Сустрэча з Бацькаўшчынай.

Аднойчы мы сабраліся ўчатырох: я, Мікола і жонкі. Сядзелі на маёй кухні, піліелі і слухалі мае апавяданні, якія потым складуць першую дарослую кнігу прозы "Дзень у горадзе". Святлана, жонка Міколы, падахвочвала, і я адчуў, што тут, у Ашхабадзе, яна таксама засумавала па родным беларускім слове. Ёй, як прызналася тады, найбольш спадабалася апавяданне "Шапка".

Неўзабаве, у жніўні 1980 года, я паехаў з Ашхабада. Назаўсёды. Праводзілі мяне ўсе беларусы, акрамя Міколы. Ён не быў у Туркменіі.

Далей былі пісьмы ад Міколы з Масквы, дзе абараніў потым дысертацыю, стаў кандыдам гістарычных навук; з Тбілісі.

Па выдавецкіх і пісьменніцкіх справах Мікола (а ў Саюз пісьменнікаў СССР ён быў прыняты ў 1984 годзе) часта наведваў Ашхабад. Рос па службе, рос і стосік выдадзеных у Ашхабадзе кніжак: "Имя мое — Свобода" (1984), "Возвращение рассветной рани" (1987), "Не должен неизвестным быть солдат" (1987). Што яшчэ, здавалася б, трэба? Яшчэ Міколу патрэбна была Беларусь! Ён вельмі сумаваў па роднай старонцы і калі атрымаў размеркаванне ў Тбілісі, напісаў мне з болем, што "усюды гэтыя валасатыя рукі робяць сваё надвор'е, таму сумна і балюча назіраць за ўсім гэтым".

Пра смерць Міколы я даведаўся з "ЛіМа". Загінуў у Тбілісі. Трагічна. Прайшоў па жыццёвым полі ён шырокім, размашыстым крокам. Спяшаўся жыць. Спяшаўся пісаць. Але хіба ж паспееш усё зрабіць, маючы такую шырокую натуру, якой усяго мала?.. Не паспеў і Мікола. Яму падабалася жыць, як ісці па прыступках: паставіў нагу на першую — станаві на другую, на трэцюю, на… дваццатую.

Прыступкі паднялі яго на неба. На якіх там аблоках жывеш, сябра? Што робіш? Якую думу думаеш?

Землякі свята захоўваюць памяць пра Міколу Калінковіча. У Лунінцы — якраз перад бібліятэкай — яму пастаўлены бюст. У раённым цэнтры і на радзіме пісьменніка ў вёсцы Цна адчынены мемарыяльныя дошкі. У раёне праводзяцца шахматныя і футбольныя турніры імя Міколы Калінковіча. Традыцыйнымі сталі літаратурныя дні Аляксандра Блока і Міколы Калінковіча. А ў 2005 годзе была праведзена першая літаратурна-краязнаўчая навукова-практычная канферэнцыя памяці пісьменніка Міколы Калінковіча, на якой давялося прысутнічаць і мне.

Васіль ТКАЧОЎ

На здымку: бюст Міколу Калінковічу ў горадзе Лунінец.

## Анкета пісьменніка

# Ісці за праўдай жыцця

У мінулым выпуску "ЛіМа" (№ 32 за 13 жніўня 2010 г.) мы прапанавалі літаратарам паразважаць над тым, якое месца пісьменнік займае ў сучасным жыцці. Сёння на пытанні штотыднёвіка адказвае пісьменнік Валянцін ЛУКША.

1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў – міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?



1. Помню тыя гады, калі я працаваў галоўным рэдактарам галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё. Не магу назваць ніводнага з агульнага спісу — а было тады 200 членаў Саюза пісьменнікаў, хто б не выступаў на тэмы дня, на тэмы нашай сённяшняй рэчаіснасці. Гэта Былі Броўка і Шамякін, Адамовіч і Панчанка, Макаёнак, ды і ўсе творцы. Цяперашнія пакаленні не заспелі той час, а ўявіце: увечары, асабліва ў вёсцы, збіраліся ля рэпрадуктараў людзі і слухалі кожны вечар літаратурныя чытанні, слухалі геніяльныя творы, да прыкладу, Івана Мележа ў выкананні Віктара Тарасава, Марыі Захарэвіч, Лііі Давідовіч і іншых нашых майстроў мастацкага слова. Апошнімі гадамі ажывілася тэлебачанне, і па два разы на тыдні і "Лад", і іншыя праграмы давалі выступленні пісьменнікаў, не ўсе яны былі ўдалыя, але былі.

Сёлета як бы ўсё падмянілі. Я не згадаю, каб нехта з літаратараў прагучаў на адным з каналаў. Гэта недапушчальны промах! А ў свой час мне вельмі пашанцавала на пісьменнікаў-настаўнікаў. Гэта былі мае слаўныя землякі: Пятрусь Броўка, Тарас Хадкевіч, Алесь Савіцкі. Яны былі настаўнікамі ў жыцці і ў творчасці. Адкрывалі яны дарогу ў шырокі свет тысячам будаўнікоў і нафтахімікаў як сваімі творамі, так і сустрэчамі ў рабочых калектывах. Час быў вельмі багаты на адкрыцці. Падборкі вершаў і цыклы нарысаў пра "Нафтабуд" стварылі Сяргей Грахоўскі, Рыгор Барадулін, Мікалай Матукоўскі, Рыгор Няхай. А пісьменнік Тарас Хадкевіч напісаў раман "Песні Дзвіны". Пісьменнік Алесь Савіцкі — аповесць "Самы высокі паверх", за якую атрымаў прэмію Ленінскага камсамола Беларусі.

2. Роля кнігі ў выхаванні чалавека не змяншалася ніколі. Ёй не можа перашкодзіць ні тэлебачанне, ні Інтэрнет. Трэба толькі з дзіцячага садка прывіваць моладзі любоў да друкаванага слова, альтэрнатывы якому няма. На вялікі жаль, цяперашні час змяніў і нашы норавы, і нашы густы. І ў дадатак да гэтага абмялела і кніжная плынь. Калі 15-20 гадоў таму выдавалася ў год больш 200 назваў кніг для дзяцей розных узроставых катэгорый у выдавецтве "Юнацтва", то цяпер значна менш і да слёз малымі тыражамі. Хутка і "вучыць жыць" не будзе каму.

3. Грамадска-актыўны літаратар — ён і ў творчасці грамадска-актыўны. Прыгадайце славутую трылогію Івана Мележа "Людзі на балоце". Каб ён не быў з тых самых мясцін, адкуль выбіраўся і дэпутатам, дзе быў знітаваны з людзьмі, ці з'явілася б гэта трылогія? Наўрад ці. Прыгадайце лепшыя творы Івана Шамякіна, герояў п'ес Андрэя Макаёнка ці Анатоля Дзялендзіка — гэта ўсё ад жыцця. Літаратура і жыццё моцна знітаваныя. Са свайго ўласнага творчага вопыту нагадаю паэму-хроніку "Белыя берагі", якую я не змог бы стварыць, не папрацаваўшы камсоргам на Полацкім нафтабудзе, потым кантрольным майстрам будоўлі, а потым урэшце і журналістам.

4. Адказаў бы словамі папярэдняга аўтара анкеты "ЛіМа" Васіля Ткачова: няпроста сказаць. Ва ўсе часы характэрнымі рысамі нарыса былі праўдзівасць і дакладнасць, аналітычнасць і шчырасць. Менавіта гэтаму вучылі нас Ігнат Дуброўскі, Барыс Стральцоў, Іван Новікаў і іншыя. Менавіта гэта і павінна быць асноватворным у нялёгкіх творчых пошуках сённяшніх майстроў пяра. Гэтага мы ім і зычым.

# Паход у незвычайны музей

**Метал, бетон плюс дружба — гэта тры галоўныя складальнікі формулы будаўніцтва новага горада. Горада Наваполацка. Здаецца, было гэта не так і даўно, аднак дадзеная падзея адышла ў гісторыю, ды акунуцца ў яе заўжды дапамагае музей. У нашым выпадку — Музей гісторыі і культуры горада Наваполацка. Але гэта ўстанова культуры не падобная да іншых. Тут усё незвычайнае… Паход у музей доўга адкладваўся на потым таму, што ў мяне чамусьці загадзя склалася меркаванне, што там будзе нецікава.**



"Ну што там можна экспанаваць? — думалася мне. — Адны фотаздымкі, дакументы з іх афіцыйнай мовай і нічога цікавага і, безумоўна, нічога старажытнага". Аднак думкі, з якімі я заходзіла ў музей і з якімі выходзіла, былі вельмі адрозныя. Мяне ўразіла экспазіцыя, афармленне, сама атмасфера музея, энтузіязм і самаадданасць працоўных, якія ўзвялі за кароткі час цэлы горад з яго прамысловымі і жылымі пабудовамі, шпіталямі, дзіцячымі садкамі.

Удала выкананы дызайн дапамагае лепш адчуць подых тых гадоў. Ідзе расказ пра пачатак будаўніцтва — і музей быццамператвараецца ў вялікую будоўлю: тут і недакладзеная цэгла, і вітрыны з металічных канструкцый, якія нагадваюць пад'ёмныя краны, і нават столь у выглядзе блакітнага неба з аблокамі! Ідзе аповед пра маладых працаўнікоў — і тут жа стылізаваны пакойчык таго часу, дзе і жыла моладзь. Здаецца, што зараз скончыцца працоўны дзень, і пакой напоўніцца звонкім смехам і галасамі. Усё тут сапраўды так, як было на той час": шпалеры шэра-зялёнага колеру, на іх — выразаныя карцінкі з тагачасных часопісаў, плакаты; адзенне простага пакрою, ложак з металічных трубак са слядамі іржы… Можа ўзнікнуць заўвага: маглі б ужо хоць ложак пафарбаваць! А я так разумею: стваральнікі музея імкнуліся зрабіць не як мага прыгажэй, а як мага дакладней. І гэта ў іх атрымалася!

Вось так удала спалучыў экспанаты музея і яго дызайн мясцовы мастак Ігар Куржалаў. Дзякуючы яго натхнёнай працы было створана цудоўнае асяроддзе для атрымання не толькі ведаў, але і моцных уражанняў, эмоцый. Ён жа зрабіў і план-макет сённяшняга Наваполацка памерам у вялікі пакой.

У музеі няма старажытных экспанатаў з археалагічных раскопак ці экспедыцый. І гэта зразумела, бо гісторыя горада налічвае ўсяго толькі 51 год. Музей дэманструе не толькі гісторыю, але і сучаснасць. Вялікія залы прысвечаны дасягненням навапалачан у спорце, медыцыне, адукацыі і, вядома, прамысловасці. Тут адмысловыя вырабы мясцовых майстроў-рамеснікаў і прадукцыя прадпрыемстваў, заводаў-гігантаў…

Своеасаблівыя экспанаты — першы наваполацкі бензін, першы поліэтылен, атрыманы ў 1968 годзе, вялікі арыфмометр (тое, што сёння для нас калькулятар, толькі большы разоў у сто і не такі зручны), макеты пад'ёмнага крана, бульдозера і грузавой машыны, камсамольскія насценгазеты з заклікамі "мабілізацыі ўсіх рэзерваў вытворчасці на службу Айчыне!" — расказваюць і цудоўным чынам адлюстроўваюць гісторыю горада…

Пачыналася яна ў 1958 годзе, 7 чэрвеня, калі першы атрад будаўнікоў-"першапраходцаў" перабраўся з "таго берага" Дзвіны на лодках і разбіў першыя палаткі на месцы будучага нафтаперапрацоўчага завода. Што ўяўляў сабой Наваполацк у свой "дагістарычны перыяд"? Шматлікія вёскі (назвы некаторых з іх захаваліся ў назвах мікрараёнаў), лясы і каля 60 балот! Якія толькі сродкі не выкарыстоўвалі, каб паскорыць будаўніцтва! І сваю насценгазету "Камсамольскі пражэктар" выпускалі, у якой ганьбілі гультаёў і славілі ўдарнікаў працы. Разам з будаўніцтвам завода ўзводзілі і іншыя аб'екты — паступова адчынілі клуб, лазню, інтэрнат… Усе тады былі ахоплены агульнай ідэяй камуністычнага будаўніцтва і ішлі насустрач ёй.

Музей зачыняе свае дзверы толькі ў… 19 гадзін! У той час як, напрыклад, усе адзінаццаць суседніх полацкіх музеяў — у 17 гадзін. Дарэмна большасць лічыць, што дарослыя ходзяць у музеі толькі па выхадных, а дзеці могуць і ўдзень схадзіць. А бывае ж і так, што пасля свайго працоўнага дня хочацца культурнай праграмы на вечар. Асабіста для мяне, калі б музей не працаваў так доўга, то мой паход у яго адклаўся б яшчэ да нявызначанага часу.

— Горад наш малады, прамысловы, і шмат жыхароў працуе па зменах: хтосьці да трох, а хто і да пяці гадзін. Таму мы шукаем індывідуальны падыход да кожнага, хочам, каб наш рэжым працы быў зручным для ўсіх, — пракаментавала сітуацыю дырэктар Музея гісторыі і культуры горада Наваполацка Дзіяна Бароўская.

Цікава, што гэтая вельмі прыемная ў размове жанчына, акрамя маіх слоў захаплення, усё ж хацела пачуць якія-небудзь заўвагі, рэкамендацыі.

— Тое, што вы ўбачылі сёння — гэта не мяжа, — сказала яна. — Мы будзем развівацца і ўдасканальваць музей, бо ў нас ёсць галоўныя суддзі — тыя, хто будаваў горад, хто ведае пра ўсё не па чутках.

Так, крытыка — добрая справа. Асабліва, калі ты гатовы яе прыняць, зразумець і зрабіць пэўныя высновы.

Напрыканцы хацелася б выказаць асабістае меркаванне пра неабходнасць існавання такога музея. І што б ні казалі пра наваполацкую прамысловасць з яе шкоднымі выкідамі, пра тое, што гэта "марудны Чарнобыль", але адмаўляць значнасці зробленай працы, адмаўляць подзвіг кожнага, хто працаваў на будоўлі, нельга. Думаю, што не памылюся, калі правяду наступную паралель: нашы працоўныя ў 50—60-я гады зрабілі свой подзвіг, пабудаваўшы горад, і музейны калектыў зрабіў гэткі ж подзвіг свой, стварыўшы такі музей (дарэчы, за 4 месяцы!).

Ірына ШЫМУКОВІЧ

На здымку: Пётр Блахін — адзін з першых будаўнікоў горада.



# Пачатак — ад Гедыміна

Калектыў Лідскага гісторыка-мастацкага музея стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года за рэалізацыю праграмы "Старадаўніх муроў адраджэнне". Сутнасць гэтай праграмы заключаецца ў павышэнні цікавасці моладзі да гісторыі краю праз аднаўленне сярэднявечных традыцый (абход замка рыцарамі мясцовых клубаў, турніры рыцараў, сярэдневяковыя гульні, танцы, стральба з лука). Двойчы (у 2008 і 2009 гг.) Лідскі гісторыка-мастацкі музей быў прызнаны лепшай установай культуры на Гродзеншчыне.

У 1959 годзе ў Лідзе адбылося адкрыццё краязнаўчага музея, які ў той час быў размешчаны ў будынку касцёла. Яго экспазіцыя знаёміла наведвальнікаў з гісторыяй і прыродай Лідчыны. Затым музей быў пераведзены ў будынак Дома сямейных урачыстасцей, дзе ў той час знаходзілася мастацкая галерэя. Пазней галерэя і музей былі аб'яднаны ў адну ўстанову культуры — Лідскі гісторыка-мастацкі музей, які пасля рэканструкцыі адчыніў свае дзверы 4 кастрычніка 2008 года. Такая кароткая гісторыя ўстановы, якая захоўвае памяць пра мінулае.

Сёння ў Лідскім гісторыка-мастацкім музеі працуе адна пастаянная экспазіцыя — "Прырода Лідчыны". Дзейнічаюць і часовыя тэматычныя экспазіцыі: "Вядзём пачатак ад Гедыміна", наведаўшы якую, можна пазнаёміцца са старажытнай гісторыяй Ліды і Лідчыны, "Дарогамі вайны" (апавядае пра лёс Лідчыны ў час Вялікай Айчыннай вайны), "Гады выпрабаванняў, надзей і дасягненняў" — экспазіцыя, прысвечаная сямідзесяцігоддзю Лідскага раёна. Праходзяць у музеі і камерцыйныя выставы мастакоў.

Акрамя традыцыйных экскурсій, калектыў музея праводзіць музейна-педагагічныя заняткі са школьнікамі па тэмах: "Як жылі нашы продкі ў мінулым", "Дарогамі Вялікай Айчыннай вайны". У пакоі для практычных заняткаў, афармленне якога стылізавана пад інтэр'ер традыцыйнай беларускай хаты, вучні знаёмяцца з тэхнікай пляцення з саломкі, выцінанкі, а таксама часта бавяць час, цёпла гутараць за кубачкам духмянай гарбаты каля самавара.

Штодзень Лідскі гісторыка-мастацкі музей наведвае каля ста чалавек. Тут праводзіцца каля паўтары тысяч экскурсій на год. Музей выконвае план платных паслуг на некалькі год наперад (за мінулы год прыбытак склаў каля васьмідзесяці мільёнаў рублёў). Музей добра абсталяваны тэхнікай: камп'ютэры, камера, фотаапарат.

Сакрэт сваіх поспехаў раскрыла дырэктар музея Ганна Мікалаеўна Драб:

— У нас працуе творчы, апантаны сваёй справай калектыў. Утульны будынак — таксама адна з ўмоў поспеху. На жаль, музейная справа дагэтуль фінансуецца дрэнна. Да таго ж, вельмі складана знайсці і набыць сапраўды вартыя ўвагі навукоўцаў і наведвальнікаў экспанаты. Зразумела, што не пажадана было б паніжаць агульны ўзровень экспазіцыі, уключаючы ў яе экспанаты нізкай якасці. Хацелася б мець у нашым музеі і яшчэ дзве пастаянныя экспазіцыі — "Сучаснае мастацтва краю", "Тыпы пасяленняў Лідчыны". Над іх стварэннем мы працуем зараз.

Лідскаму гісторыка-мастацкаму музею ўжо больш пяцідзесяці год, але ў 2008-м з адкрыццём новага рэканструяванага будынка пачалося яго новае жыццё захавання памяці пра мінулае Лідскага краю — гэта асабліва важна для маладых жыхароў горада, які мае такую багатую гісторыю, і для самога горада слаўнага князя Гедыміна.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: супрацоўнікі музея падчас рыцарскага фэсту.

## Памяць

# Гартаем старонкі гісторыі...

Вялікая і значная для ўсяго беларускага народа дата — 65-годдзе Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі — абавязвае да многага. У першую чаргу мы павінны ведаць і памятаць тых людзей, якія загінулі за светлую будучыню краіны. Сярод іх — лётчыкі, вадзіцелі машын і танкаў, партызаны і чыгуначнікі.

Наведванне музея Мінскага вагоннага дэпо дапамагло шмат новага даведацца пра гісторыю Беларускай чыгункі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і працаўнікоў стальной магістралі, якія ўнеслі значны ўклад у справу агульнай перамогі над фашызмам. Дырэктар музея Аляксандр Ананчук расказаў шмат цікавых фактаў.

На франтах і ў партызанах ваявала 420 работнікаў Мінскага вагоннага дэпо. Адзін з іх — Уладзімір Лемза — удзельнік грамадзянскай вайны, работнік чыгуначнага транспарту, у гады Вялікай Айчыннай па заданні партыі знаходзіўся ў тыле ворага ў партызанскім атрадзе. Быў камісарам брыгады. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, ордэнамі Айчыннай вайны першай і другой ступені.

Антон Татур працаваў у Мінскім вагонным дэпо, камандзір батальёна. У якасці прадстаўніка савецкага камандавання служыў у ваеннай камендатуры ў Чэхаславакіі. Узнагароджаны чатырма баявымі ордэнамі і трыма ордэнамі Чэхаславакіі. Пасля вайны працаваў на чыгунцы ў Мінску.

Пётр Бачыла быў радыстам у падпольнай групе. Змог закласці міну і ўзарваць сталоўку разам з нямецкім афіцэрскім саставам. У вайну правёў шэраг паспяховых аперацый. Быў расстраляны гітлераўцамі.

Раіса Назарава працавала бухгалтарам на чыгунцы. З першых дзён і да вызвалення Мінска ваявала з ворагам у партызанскім атрадзе Станіслава Градава. Неаднаразова выконвала адказныя і небяспечныя даручэнні. Мае шэраг баявых узнагарод.

Уладзімір Уласік у час вайны стаў партызанскім сувязным, перадаваў звесткі пра эшалоны, грузы, тыпы нямецкіх танкаў, цыстэрны з гаручым. Здолеў даставіць для партызанскага камандавання сакрэтныя нямецкія карты, даведаўся пра падрыхтоўку буйных карных аперацый. Узарваў два саставы: на станцыях Коласава і Фаніпаль. Пасля вайны ўдзельнічаў у работах па аднаўленні і адбудове вагоннага дэпо. Узнагароджаны шматлікімі медалямі і ордэнамі.

Ганаровы чыгуначнік Юрый Аўруцін — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў начальнікам тэхнічнага аддзела, галоўным механікам Мінскага вагоннага дэпо. З пачатку вайны — на фронце. У сярэдзіне ліпеня 1942 года быў накіраваны ў Іран. Спачатку трапіў у Тэгеран, дзе знаходзілася ўпраўленне Ваенна-эксплуатацыйнага аддзялення савецкіх чыгуначнікаў, потым у порт Бендэр-Шах на поўдні Ірана, дзе і сустрэў вестку аб Перамозе. Пасля вайны ізноў працаваў у Мінскім паравозным дэпо. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і знакам "Ганаровы чыгуначнік". Юрый Аўруцін і сёння — сярод нас: ветэрану вайны пайшоў 95-ы год, як высветлілася, ён нават піша... вершы.

Як бы лёгка нам зараз ні гартаць старонкі гісторыі, вайна была цяжкой і страшнай для кожнага народа. Бо кожны чалавек ваяваў не толькі за сябе, за краіну, але і за блізкіх і родных людзей. Значныя намаганні прыклалі чыгуначнікі Беларусі для таго, каб забяспечыць перавозкі пры аднаўленні народнай гаспадаркі. Чыгуначнікі ўпісалі бліскучую старонку самаадданай і гераічнай працы ў летапіс Вялікай Айчыннай вайны. І пра гэта сведчыць экспазіцыя музея Мінскага вагоннага дэпо.

Дар'я ШОЦІК

# АНЁЛЫ-АХОЎНІКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Арцём Кавалеўскі вядомы як паэт, празаік, перакладчык, літаратуразнаўца, выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ і з нядаўняга часу — супрацоўнік часопіса для дзяцей і падлеткаў “Бярозка”. Пачаўшы друкавацца ў 1996 годзе, Арцём далучыўся да нефармальнага літаратурна-мастацкага руху “Бум-Бам-Літ”, удзельнікі якога мелі на мэце — ні больш ні менш! — здзейсніць эстэтычную рэвалюцыю ў беларускай культурнай прасторы. Можна меркаваць, у іх усё атрымалася: Арцём Кавалеўскі, нягледзячы на досыць малады ўзрост, ужо ўвайшоў у гісторыю найноўшай літаратуры як стваральнік і практык логафармізму — творчага метаду сучаснай візуальнай паэзіі, а таксама як даследчык праблем інтэрпрэтацыі і аналізу сучасных канцэптуальных тэкстаў.**




Арцём — аўтар зборніка вершаў “АдмыСЛОВЫя гульні” (Мінск: Логвінаў, 2003), а таксама кнігі паэзіі і лірычнай прозы “Аддаленасць і адданасць” (Мінск: Галіяфы, 2008), паспяхова сцвердзіўся ў літаратуры, адрасаванай дарослай аўдыторыі. Таму не дзіўна, што малады творца вырашыў перайсці на новы, больш складаны ўзровень пісьменніцкага майстэрства і паспрабаваў сябе ў паэзіі для дзяцей.

Цудоўна афармленая кніга “Мой сябра анёлак” [Мінск, РВУ “ЛіМ”, 2010], насамрэч з’яўляецца плёнам працы цэлай каманды прафесіяналаў. Ніводнае выданне для малодшых школьнікаў не можа абысціся без прывабных, яркіх, арыгінальных і ў той жа час простых і зразумелых ілюстрацый. Відавочна, шматгадовае супрацоўніцтва Арцёма Кавалеўскага і мастачкі Дар’і Чарняўскай (Даша была дызайнерам дзвюх папярэдніх кніг паэта) аказалася ўдалым у дачыненні да рознаўзроставых чытацкіх груп. Пры падрыхтоўцы да друку выдання для дзяцей патрабуецца нашмат большая адказнасць і сур’ёзнасць, чым можа падацца на першы погляд. Рэдакцыйны калектыў, які працаваў над праектам “Мой сябра анёлак”, выканаў пастаўленыя перад ім задачы на ўсе сто, што не можа не радаваць і дзетак, і іх бацькоў, калі яны бяруць у рукі гэтую “незвычайную кнігу для дзяцей”.

Больш дакладна было б сказаць, што “Мой сябра анёлак” — гэта паэтычная нізка ўзаемазвязаных апавядаў пра вельмі цікавага, неардынарнага персанажа, якога ведаюць, у якога вераць усе людзі, — і вялікія, і маленькія, — але якога ніхто ніколі не бачыў — хіба што адчуваў яго прысутнасць сэрцам, звяртаўся да яго ў думках або ў душы, дзяліўся з ім сваімі самымі патаемнымі надзеямі і перажываннямі.

Разважляючы са сваімі маленькімі чытачамі, Арцём Кавалеўскі зазначае: “Наўрад ці хто з нас бачыў анёлкаў, а таму мы ўяўляем іх па-свойму — так, як падказвае нам фантазія: яны могуць быць вялікімі і малымі, сур’ёзнымі і прастадушнымі, задуменнымі і вясёлымі — словам, рознымі. Але якія б абліччы нам не мроіліся, важна тое, што анёлкі жывуць і дзейнічаюць сярод нас, і вельмі шкада, калі мы — асабліва дарослыя — забываемся на гэта”.

Унікальная задума Арцёма Кавалеўскага палягае ў тым, каб прадставіць анёлка ў вобразе звычайнага хлопчыка — то сумнага (“Хто з анёлкам пасябруе?”), то вясёлага (“Музыкант”), то разважлівага (“Сакрат-анёлак”), то гарэзлівага (“На камеце”), паказаць яго ў розных гісторыях і прыгодах, такім чынам стварыўшы ўзор высокамаральнасці, чысціні і духоўнасці. Анёлак — той самы дзіцёнак, проста крышачку іначшы, бо ён ніколі не сталее і жыве на нябёсах. Ён непасрэдны і шчыры, як любое малое, але ў той жа час мудры, як дарослы, і можа вельмі многаму навучыць. Ягоныя жыццёвыя ўрокі будуць не зануднымі і дэкларатыўнымі, бо любая навука даецца лепш не па прымусе, а нібыта незаўважна, цягам новых цікавых адкрыццяў. Арцём Кавалеўскі ненавязліва змушае сваіх маленькіх чытачоў задумацца над тым, што такое сяброўства, навошта людзям надзея, любоў і вера ў лепшае, чаму трэба вучыцца заўважаць прыгажосць усяго існага на зямлі.

У кнігу “Мой сябра анёлак” увайшоў 21 верш, фармальная, тэматычная і сюжэтная разнастайнасць якіх дэманструе высокапрафесійную пісьменніцкую падрыхтоўку аўтара. Відавочна, няспынныя мастацкія пошукі і паэтычныя знаходкі бумбамлітаўскага перыяду ўзбагацілі творчасць Арцёма, а класічная адукаванасць і абазнанасць у еўрапейскай літаратурнай традыцыі дазволілі яму не проста напісаць кнігу для дзяцей, а супольна з калегамі ажыццявіць цэласны праект на сумежжы паэзіі, мастацтва і музыкі.

Думаю, няслушна было б у апавядзе пра новую кнігу абысці ўвагай выхад кружэлкі з аднайменнай назвай “Мой сябра анёлак”, куды ўвайшла 21 кампазіцыя на вершы Арцёма Кавалеўскага. Песні былі напісаныя вядомым кампазітарам і спеваком Зміцерам Вайцюшкевічам і выкананыя ім супольна з WZ-orkiestra. Музычнае ўвасабленне гісторый пра анёлка адбылося пры чынным удзеле салістаў — маладых беларускіх музыкаў, сярод якіх — Святлана Бень (гурт “Серебряная свадьба”), Алесь Зайцаў (група “Босае Сонца”), Янка Маўзер, Наста Някрасава, Ганна Хітрык ды іншыя.

Вершаў для дзяцей, напісаных сучасным беларускім паэтам, аформленых маладой мастачкай і пакладзеных на музыку найноўшым пакаленнем айчынных выканаўцаў, як ніколі не ставала нашай нацыянальнай культурнай прасторы.

Беларуская дзіцячая літаратура ўзбагацілася сучасным, актуальным мастацкім праектам, што само па сабе стала для нас неардынарнай з’явай і вялікім набыткам. Несумненна, кнігу “Мой сябра анёлак” высока ацэняць і дзеці, і дарослыя.

Віка ТРЭНАС

# Голас Айчыны — самотны і светлы

**Добрая навіна — выдавецтва “Лімарыус” заснавала новую серыю “Галасы Айчыны”, у якой пабачаць свет выбраныя творы класікаў нацыянальнай літаратуры, падрыхтаваныя на высокім навуковым узроўні. Згодна з законамі рынку, серыя мусіла распачацца невялікай сенсацыяй. Гэтак і адбылося: першай кнігай “Галасоў Айчыны” стала выбранае Алеся Салаўя, чые творы яшчэ ніколі не выходзілі на Радзіме, балазе, у такім аб’ёме.**




Гэтага творцу лёс не песціў увагай чытацкай аўдыторыі, промнямі славы і цяплом усеагульнай пашаны. Так, яго, як і многіх іншых паэтаў эміграцыі, выпадак закінуў у далёкія ад Беларусі мясціны, але Салавей быў, бадай што, адзіным, хто, выехаўшы з Еўропы, у хуткім часе практычна знік з літаратурных даляглядаў. Дзесяцігоддзямі не выходзілі зборнікі, спыніліся і без таго нячастыя публікацыі. Урэшце, паэт памёр, так і не дачакаўшыся кнігі сваіх выбраных твораў. Яна з’явілася толькі праз чатыры гады пасля смерці Алеся Салаўя (“Нятускная краса”, Нью-Йорк, 1982) і цяпер з’яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. Тым не менш, пражыўшы палову свайго жыцця практычна на ўзмежку эміграцыйнай супольнасці, у Аўстраліі, Алесь Салавей стаўся адным з лепшых паэтаў апошняй. І наогул — адным з лепшых беларускіх паэтаў.

Як вядома, вартасць паэта вымяраецца не колькасцю выдадзеных зборнікаў, а наяўнасцю “неагульнага выразу твару”. Да з’яўлення гэтага тома твораў мы маглі гаварыць пра Салаўя найбольш як паэта-класіка, паслядоўніка Багдановіча ў справе развіцця паэтычнай мовы — праз цвёрдыя формы верша: санеты, тэрцыны, актавы. Так, Салавей у гэтым плане быў не адзінокі — санеты, прынамсі, пісалі тады многія. З майстроў форматворчасці можна назваць Кавыля і Крушыну. Аднак, мусібыць, менавіта для Салаўя гэта было справай жыцця насамрэч. Пацвярджэнне гэтаму можна лёгка знайсці ў галоўным даважку кнігі — 136 лістах паэта (у наяўнасці эпісталярнай спадчыны палягае асноўнае адрозненне кнігі ад бінімаўскай “Нятускнай красы”). З лістоў можна даведацца, што Алесь Салавей сапраўды спавядаў культ формы. Так, ён робіць закіды пра тое, напрыклад, што адзін з творцаў напісаў верш шасцістопным ямбам без цэзуры на трэцяй стапе. “Скандал”, — піша пра гэта Салавей. Падобныя пасылы сустракаюцца часта. Яны, урэшце, сімптаматычныя. Гэткімі ж з’яўляюцца і яго папрокі што да мадэрнісцкіх пошукаў, ён рэзка адмаўляе іх: “Для мяне не мае ніякай вартасці і паэзія пра атам, і паэзія пра вераб’я, калі яна не мастацкая. Мастацкая ж паэзія пра вераб’я, які жыў і сотні тысяч год таму, — паэзія, вар’яцтва пра атам — вар’яцтва і больш нічога. … А таму — яшчэ больш дасканаліць тое, што нам дадзена (у нас яно не было яшчэ ўдасканаленым ніколі), а не зніжацца да нявегладства, замаскаванага “пошукамі новага” (ліст да Ю. Віцьбіча ад 20.10.47). Гэткім чынам Салавей абсалютна не прыняў творчасці Юхнаўца і нават прысвяціў таму верш-пародыю “Тысяча дзевяцьсот…” (напісаную строгім памерам і дакладнай рыфмай) Такая эстэтычная палеміка ўяўляецца вельмі цікавай. Арыгінальна гэтая палеміка выглядае яшчэ і на фоне самой творчай “фізіяноміі” асобы. Ён — творца падкрэсленага рамантычнага светаадчування. Дарэчы, расцятасць на матэрыю і дух, на “музу” і “жывот” пастаянна выпінаецца з лістоў, паэт увесь час акцэнтуе на гэтым увагу. Мала таго, ён рашуча раз’ядноўвае асобы — сваю “пашпартную” і постаць Салаўя і часта апісвае рэспандэнтам жыццё кожнага з гэтых людзей паасобку. Псіхалагічная раздвоенасць, дваістасць жыцця пераследуе яго ўсюды. Толькі тады, калі лісты і вершы спыняюцца (а паміж імі ў томе здараюцца інтэрвалы ў 10 гадоў), разумееш: паэт вырашыў, што “жывот” перамог і не стаў пярэчыць — замаўчаў. Такім чынам, Салавей — творца трагічнага светасузірання, раздвоены, расцяты ці, паводле класічнай ужо цытаты М. Стральцова, “увасабленне пакутнага духу, адрынутага па нейкай незразумелай прычыне ад самога жыцця і асуджанага трапятацца ў вечнай празе зліцця з ім”. І — побач з гэтым — спалох ад адсутнасці цэзуры ў шасцістопным ямбе.

Вось жа, дасканаленне слова пры ўласнай трагічнасці. Алесь Салавей перш за ўсё рупліца тут, вядома, не дзеля сябе, а дзеля росту нацыянальнай вершаванай культуры, якой, з ягоных словаў, у нас толкам і не было тады яшчэ. Нямала радкоў эпісталярыя аддадзена і разгляду моўных памылак, аналізу карэктарскіх і рэдактарскіх недаглядаў у чужых публікацыях. Кожнае слова, надрукаванае няправільна, балюча адгукалася ў паэце. Такое чуйнае стаўленне да друкаванага слова, сакралізацыя яго лучыць эпісталярый Салаўя з крытычнымі працамі Багдановіча. Апошні адчуваў кожную беларускую публікацыю як новае слова ў гісторыі нацыянальнай культуры, увогуле, адчуваў прысутнасць Кліо пры кожнай справе, што рабілася ў 1910-я беларусамі. Па аснове, фундаменце паэтычнай эмоцыі і, увогуле, па структуры вершаванага вобраза Салавей набліжаецца да Цютчава, яны сугучныя шмат у чым. Аднак цютчаўскае вершаванне арганічна вырастае з рускай паэтычнай традыцыі і, па вялікім рахунку, з нарматыўных граматык і рыторык XVIII ст., у той час, як Салавей абапіраецца на пустэчу, дзе — адна-дзве купіны: Багдановіч, Жылка, Дубоўка, у нейкай ступені Купала і Колас. Асноўную працу над творам, школу верша кожны беларускі паэт праходзіць самастойна: ён заўсёды пачынае, ён заўсёды першы, бо традыцыя яго не задавальняе, а значыць — і не існуе. Так працягваецца і сёння, дарэчы, і ў гэтым сумная праўда.

Укладальніку кнігі “Алесь Салавей. Творы: паэзія, проза, лісты” можна было б зрабіць закіды наконт таго, напрыклад, што адсутнічаюць паказальнік імёнаў і алфавітны паказальнік твораў. Ёсць у лістах і шэраг прыкрых абдрукоўак, а ў каментарыях праяснёныя далёка не ўсе згаданыя асобы, а таксама шматлікія аўтарскія намёкі на спецыфічныя акалічнасці і сітуацыі эміграцкага побыту. Аднак гэта сапраўды ўжо вымогі акадэмічнага выдання, а тут маем справу ўсё-такі з папулярным выбраным. Бясспрэчна, што асоба Алеся Салаўя (Альфрэда Радзюка) стала пасля выхаду кнігі больш зразумелай і нечакана актуальнай для пошукаў найноўшай беларускай паэзіі.

…Яшчэ больш трагічнай выглядае яго постаць наводдалі. Прачытаўшы том, бачыш, наколькі аваладаў паэт словам за параўнальна кароткі адрэзак часу, як філігранна вытачаныя яго вершы. І ўсё гэта спынілася. Нават і думаеш, ці ў цяжкой фабрычнай працы і цэйтноце прычына? Магчыма, паэт адчуў, што дайшоў ужо да мяжы дасканаласці і не мог сам сябе пераўзысці: як выхад засталіся самапаўтор альбо маўчанне. Алесь Салавей абраў другі варыянт. Што ж, і таго, напісанага, цалкам дастаткова, каб апынуцца ў пантэоне лепшых.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Краса ягоных дзён

Прыпамінаецца час, калі выходзіў з кнігарань з сумкай або дыпламатам, напоўненымі чарговымі новымі кнігамі і дома з задавальненнем упісваў іх у асабістыя каталогі. Паліцы ў кніжных шафах папаўняліся амаль усімі навінкамі мастацкай літаратуры, асабліва паэтычнымі зборнікамі. Час ад часу можна было без праблем звярнуцца пры неабходнасці да творчасці таго ці іншага аўтара.

Сёння ж рабіць падобнае стала накладнай справай, бо аўтараў, як, дарэчы, і выдаўцоў напладзілася шмат, а кошт выданняў надта ж кусаецца. Аднак за кнігу гэтага чалавека аддаў бы апошнія грошы, ды купіў бы абавязкова.

І вось яна перада мной — Мікола Федзюковіч "Красадзён", што нядаўна выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Паэт яшчэ пры жыцці марыў выдаць зборнік менавіта з такой назвай і ў размовах падкрэсліваў, што яна нарадзілася ад аднайменнай расліны-кветкі. Ён смакаваў гэта слова, прыўносіў у яго нейкі дадатковы магічны сэнс, лічыў асабістай удалай знаходкай.

Увогуле да назваў кніг і раздзелаў Мікола адносіўся своеасабліва: шукаў кароткае сінтаксічна-лексічнае і вобразнае напаўненне, складаў шматлікія спіскі магчымых варыянтаў, шчыра прапаноўваў сябрам. Адзін з ягоных лістоў ёсць у маім архіве. Вось некаторыя назвы: "Літаўры верасня", "Астральны знак", "Мінулы снег", "Салёны бераг", "Сад жаданняў", "Астравы адзіноты", "Нарог", "Басанож" і інш…

А вось "Красадзён" у гэты і, напэўна, у аналагічныя спісы не ўваходзіў. Мікола ўчэпіста ўхапіўся за назву, знаходзячы ў ёй нешта сакральнае і надта ж каштоўнае. Былі "рэдактары", якія гвалтоўна раздзялялі адно слова на два: краса дзён. Атрымлівалася зусім іншае сэнсавае паняцце, якое, можа быць, здавалася больш вобразным і філасофічна разгорнутым, але паэт катэгарычна адпрэчваў такі варыянт.

Хочацца падзякаваць укладальніку Віктару Гардзею за тое, што ён захаваў назву, што па-сяброўску сабраў даступныя яму архіўныя матэрыялы з творчай спадчыны Міколы Федзюковіча, публікацыі ў прэсе, далучыў іх да ўжо вядомых тэкстаў з нешматлікіх прыжыццёвых зборнікаў. Атрымаўся амаль поўны збор паэзіі і перакладаў таленавітага, самабытнага аўтара, жыццёвы шлях якога пачаўся ў вёсцы Гутава, што прыхавалася ў глыбінцы слыннага Палесся.

Я не зусім згодзен з Леанідам Галубовічам, які ў адным з артыкулаў называе "Красадзён" выбраным. Хаця і ў анатацыі гаворыцца тое ж самае. Магчыма, і правільна… Калі мець на ўвазе паэзію, то яна прыбліжана да поўнага збору. А калі браць увогуле ўсю творчасць, то ў Міколы Федзюковіча ў свой час друкаваліся выдатныя артыкулы і рэцэнзіі ў перыёдыцы, а таксама гумарыстычныя творы ў "Вожыку", "Чырвонай змене", была кніга ў перакладзе Івана Бурсава "Птичье дерево" ды эпісталярны жанр чакае сваіх даследчыкаў. Калі мець гэта на ўвазе, то безумоўна, "Красадзён" толькі выбранае.

Менавіта з перспектывай на будучыню паразважаю пра некаторыя моманты, на якіх засяродзілася мая ўвага пры знаёмстве з кнігай "Красадзён". А раптам магчымыя выдаўцы збору ў будучым ці крытыкі знойдуць у разважаннях штосьці слушнае?

Правільна зрабіў Віктар Гардзей, што захаваў максімальную колькасць тэкстаў са зборнікаў і ўключыў у "Красадзён" нават тыя, якія з нязначнымі адрозненнямі як бы паўтарыліся. Мікола Федзюковіч без патрэбы не ўключаў адно і тое ж з кнігі ў кнігу.

Паказальны, напрыклад, верш, які друкаваўся ў зборніку "Зямля-магніт" пад назвай "Поўдзень" (у "Красадзёне" на старонцы трыццаць трэцяй), потым у зборніку "Птушыны грай" без назвы ("Красадзён", стар. 103) і, нарэшце, у вершах з нявыдадзенай кнігі ("Красадзён", стар. 201). На мой погляд, у першым варыянце ў пачатку верша — сэнсавая раздвоенасць адносна месца дзеяння: за вушы прыцягнута "пушча". Паэт, відаць, адчуваючы гэта, зрабіў у другім варыянце пачатак больш сюжэтна разгорнутым і яшчэ горш ускладніў тэкст. З'явіліся касцы-сябры, якія пачынаюць сенакос з кляпання кос-васьмёрачак. Такая "знаходка" прывяла да легкадумнай гуллівасці, парушылася сэнсавая структура. Таму, напэўна, і нарадзіўся пазней трэці варыянт. У тэкст, несумненна не па віне аўтара, закралася тэхнічная памылка: "пераходаў" замест "параходаў".

Стоп-стоп-стоп… Аказваецца, апошні варыянт згаданага твора ў "Красадзёне" — першы, а не трэці! Менавіта ён (за выключэннем "пераходаў") поўнасцю адпавядае тэксту з "Дня паэзіі-66". Ён быў першай публікацыяй, калі толькі не друкаваўся дзе ў перыёдыцы яшчэ раней. І дадзены варыянт, здаецца, самы дасканалы.

Цяпер яшчэ адзін момант. Не ведаю па якой прычыне не ўключаны ў "Красадзён" трэці раздзел з кнігі "Птушыны грай", які склаў лірычны дзённік "Рэчыцкі гарызонт", прысвечаны маладым рабочым Рэчыцкага нафта-газаздабыўнага ўпраўлення. Тое ж самае тычыцца трэцяга раздзела з кнігі "Макаў цвет", дзе змешчаны другі лірычны дзённік "Граніт зямлі", прысвечаны беларускім здабытчыкам граніта. Як мне думаецца, справа не ў дадатковым аб'ёме, а хутчэй у змене нашага светапогляду ў постсавецкі час. Па гэтай прычыне, напэўна, не дайшлі да чытачоў "Красадзёна" такія творы, як "Світанне на Волзе" ("Мілавіца"), "Пярэдадзень" і "Раны Ільіча" ("Птушыны грай"), верш "Свята" да Дня Перамогі ("Чырвоная змена") і інш.

Нядаўна мяне пазнаёмілі з кнігай Уладзіміра Сітухі "Скакуны". Паліграфічная якасць выдання на зайздрасць самому Адаму Глобусу. Аднавясковец

У лірычных жа дзённіках Міколы Федзюковіча, нягледзячы на зададзенасць і дакументальнасць, у першую чаргу прысутнічае талент і шчырая душа. Ён адзін з сапраўдных першапраходцаў. У майстра слова паўсядзённасць набыла прыцягальнасць, дзякуючы шматлікім мастацкім вартасцям.

М. Федзюковіча прадстаўлены як вельмі таленавіты літаратар, першапраходзец у жанры дакументальнай паэзіі (!). На жаль, пад прыгожай вокладкай дакладная дакументалістыка прысутнічае, а сапраўднай паэзіі няма.

У лірычных жа дзённіках Міколы Федзюковіча, нягледзячы на зададзенасць і дакументальнасць, у першую чаргу прысутнічае талент і шчырая душа. Ён адзін з сапраўдных першапраходцаў. У майстра слова паўсядзённасць набыла прыцягальнасць, дзякуючы шматлікім мастацкім вартасцям. Гераічна-душэўны палёт маладой энергіі падчас вялікіх будоўляў быў характэрны для многіх юнакоў і дзяўчат таго часу і спасцігаўся паэтам не халодным сузіраннем, а актыўным суперажываннем і імкненнем зразумець сутнасць з'яў.

Неўключэнне "Рэчыцкага гарызонта" і "Граніта зямлі" выклікаюць шкадаванне. А ці не зменяцца нашы погляды (калі ўжо не змяняюцца) на сённяшнія пэўныя псеўдадэмакратычныя, папуліцкія, антычалавечныя пераўтварэнні на постсавецкай прасторы і ва ўсім свеце?

Віктар Гардзей ужо не мог параіцца па-сяброўску з Міколам, як найлепш выдаць кнігу і рабіў усё на сваю рызыку. Напэўна ж, і выдаўцы паўплывалі пэўным чынам на змест.

Відаць, і з архіва паэта не дайшла пэўная колькасць твораў. Па словах Алены Аляксандраўны, жанчыны, з якой праходзілі апошнія гады яго жыцця, рукапіс "Красадзёна" прапаў з кватэры падчас смерці Міколы. Для мяне тут шмат незразумелага і сумніўнага. Навошта і каму ён спатрэбіўся? Чаму дасюль анічога не ўсплыло? І няўжо ў Алены Аляксандраўны такая выдатная памяць, што яна змагла ўсё аднавіць з галавы і чарнавікоў?

На мой погляд, усё значна прасцей. Няхай Бог даруе, калі памыляюся — рукапіс не існаваў. Проста былі новыя вершы і старыя перапрацаваныя, якія планаваліся ў "Красадзён", магчыма, былі пазначаны і сабраны ў папцы ці шуфлядзе стала. І Алена Аляксандраўна як змагла рэалізавала задуму паэта — вялікі ёй дзякуй за гэта! Усе, не ўсе творы — іншая справа, бо маленькая кватэра пры жыцці паэта была перапоўнена кнігамі, часопісамі, газетамі і выразкамі з іх, чарнавікамі, для якіх не хапала месца на паліцах, у шуфлядках сталоў, у шафах і частка іх кіпамі ляжала на падлозе.




У Міколы катастрафічна не хапала часу на сваю творчасць, бо ён імкнуўся спасцігнуць хуткаплыннасць і сутнасць таго, што адбывалася з грамадствам і адлюстроўвалася ў сродках масавай інфармацыі і творах іншых. У мяне захоўваецца лісток, на якім ён пералічваў часопісы, якія яго цікавілі і на якія ён, мусіць, падпісваўся. Згаданы лісток я павінен быў паказаць сваёй жонцы, якая працавала на пошце. Тады якраз пачыналіся перабоі з выданнем і распаўсюджваннем прэсы.

На лістку напісана: "Были ли эти журналы: 1. Смена; 2. Слово; 3. Дон; 4. Радуга (інд. 78246); 5. Подъём; 6. Вільнюс; 7. Родина; 8. Спадчына. (Федзюковічу М.)".

Яшчэ паэт пільна сачыў за падзеямі па тэлебачанні. Часта разважаў пра развал Савецкага Саюза, пра падзеі ў свеце і ў Беларусі. Здаецца, з насцярогай адносіўся да перамен, не разумеў, а магчыма, і разумеў, куды нясе нас "рок событий". Думаю, вялікі перапынак ад апошняга зборніка "Макаў цвет" да мройнага "Красадзёна" ў значнай ступені і з-за вышэй адзначанага.

Неўзабаве пасля смерці Міколы Алена Аляксандраўна актыўна прапаноўвала праз сяброў паэта для друку ў перыядычных выданнях вершы, перапісаныя яе рукой на лістах фармата А4. Я таксама дапамог, як змог, данесці да чытачоў некаторых выданняў сёе-тое з ягонай спадчыны. Частка прапанаваных твораў была надрукавана на машынцы, як разумею, паэтам.

Вельмі шкада, што ў "Красадзён" не трапіў перапрацаваны варыянт прарочага верша "Прачыналася рэчка Ясельда", які друкаваўся ў "Народнай газеце" праз шмат гадоў пасля першых публікацый у

Публікацыя пад назвай "Струна ў тумане" сведчыць пра духоўную сувязь Міколы з таленавітай зямлячкай Яўгеніяй Янішчыц, літаратурныя лёсы якіх разам пачыналіся і закончыліся нечакана ў сталым узросце, але, як кажуць у народзе, не па гадах. Для мяне асабіста два варыянты верша нясуць глыбокую і містычную таямніцу.

"Дні паэзіі" і ў зборніку "Зямля-магніт". Публікацыя 4-6 сакавіка (здвоены нумар газеты) 1995 года пад назвай "Струна ў тумане" сведчыць пра духоўную сувязь Міколы з таленавітай зямлячкай Яўгеніяй Янішчыц, літаратурныя лёсы якіх разам пачыналіся і закончыліся нечакана ў сталым узросце, але, як кажуць у народзе, не па гадах. Для мяне асабіста два варыянты верша нясуць глыбокую і містычную таямніцу.

І яшчэ, частка вершаў, змешчаных у "Красадзёне", дайшла да чытачоў, можа, і не ў самым аптымальным варыянце. Скажам, на старонцы 233 ёсць верш з такімі радкамі:

Усё стрывала сэрца ў грозны час:
журбу і гора, сынавы забавы…
Павер, не для выгод, не дзеля славы
цяпло любові матчынай — для нас!

У "Дні паэзіі-89" было не "для нас", а "ў любові матчынай у нас". Удумайцеся, асэнсуйце ўсё чатырохрадкоўе. Як на маю думку, дык так значна лепш. Наўрад ці правіў бы аўтар верш пасля публікацыі ў горшы бок. Але ўжо, на жаль, не ўдакладніш. Дый ёсць як бы прыклад-пацвярджэнне такой развагі. У "Дні паэзіі-77" змяшчаўся такі верш:

Ёсць рубяжы і ёсць граніцы,
муры, дзе — нашых продкаў кроў.
У ціхі час і ў навальніцу
прыходзім мы да тых муроў.

Ёсць мова ў нас. Яе хацелі
спаліць, бы вёскі, гарады…
Яна мацней за цытадэлі,
яна — спрадвеку, назаўжды.

Пазней гэты верш аўтар змясціў у зборніку "Макаў цвет" без першых чатырох радкоў і ўзмацніў сэнс клічнікам у канцы. Здаецца, твор палепшыўся — у такім выглядзе ён і ў "Красадзёне". Хаця прапала, урэшце, нейкая паралель. Але такая, мусіць, воля аўтара, калі не ўмешваліся рэдактары.

Звярну таксама ўвагу на верш без назвы "***Да Новага года — хвіліна адна…" Не ведаю, адкуль ён трапіў да ўкладальніка, а я з ім пазнаёміўся з паштоўкі, якую мне прыслаў Мікола напярэдадні 1990 года. Вось які варыянт:

Да Новага года
хвіліна адна.
За што ж нам
прыгубіць сягоння віна?
За шчасце — ці што,
каб не мучыцца ў скрусе?
Не веру я ў шчасце,
я з ім не ў хаўрусе.

Магчыма,
нам выпіць віна за любоў?
Кахаў я аднойчы,
не хочацца зноў.
За гора? Да д'ябла!
За гора не п'юць!
За што ж нам глынуць?..
Бо куранты ўжо б'юць!
Ах, так ці ўжо гэтак…
Ды мне ўсё адно!
Я вып'ю за тое,
што ў чарцы віно!

Тут, акрамя іншых дэталей, значна падкрэслена ў канцоўцы адзінота паэта. Параўнайце з красадзёнаўскім:

Ах, так ці не гэтак…
А мне ўсё адно!
Дык вып'ем за тое,
Што ў чарках віно!

Увогуле гэта віншаванне вырвалася за рамкі эпісталярнага палону і набыло магутнае, напоўненае невераготнай энергіяй, лірычна-пранізлівае гучанне. Удалыя радкі, народжаныя натхнёным талентам, ён, думаецца, паслаў блізкім і сябрам, каб парадаваць іх не проста зарыфмаванай альбомшчынай, а высокай, душакранальнай паэзіяй.

Наўрад ці ёсць яшчэ прыклады ў нашай літаратуры такіх добразычлівых адносін да літаратараў-пачаткоўцаў, такой пільнай увагі і бескарыснай дапамогі, якімі паэт асыпаў іх, радаваўся іх поспехам. Дзякуючы яму, шмат хто ўбачыў свае творы ў друку і пачуў па радыё.

Добра было б, каб тыя, хто меў з Міколам Федзюковічам літаратурныя і жыццёвыя стасункі, адгукнуўся больш актыўна ўспамінамі, якія не будуць лішнімі ў творчай спадчыне Мікалая Мікалаевіча. Хочацца верыць, адкрыецца шмат новых старонак у красе ягоных дзён і "Красадзён" не будзе апошняй кнігай аўтара і пра аўтара.

Напэўна, з'явяцца маладыя крытыкі і яны, пазнаёміўшыся з арыгінальнай творчасцю М. Федзюковіча, адкрыюць для сябе шчырага і таленавітага паэта. І імі будзе знойдзена ў ягонай невялічкай спадчыне шмат новых штрыхоў і штрышкоў, якімі яны падзеляцца з чытачамі. А новых момантаў хапае, пераконваюся ў гэтым зноў і зноў. Вось пагартаў толькі што яшчэ раз "Дні паэзіі" за розныя гады і ўзнікаюць знаходкі, сугучныя з тэмай гэтага артыкула.

Можна было ўключыць у "Красадзён" "Баладу аб чацвёртым" ("Дзень паэзіі-91"), твор, напоўнены эмацыянальным перажываннем у героя-пагранічнікаў, якія трымалі абарону ў пачатку страшэннай мінулай вайны. Не ўключаны таксама два вершы з "Дня паэзіі-84". У перакладах няма неблагога верша узбека Абдулы Арапава ("Дзень паэзіі-74"). А калі пагартаць усю прэсу за мінулыя гады, пазнаёміцца з радыёархівам, то несумненна адкрыецца нямала новага і нечаканага.

А пакуль яшчэ раз хочацца падзякаваць Віктару Гардзею. У цэлым ён на "выдатна" выканаў справу, бо зрабіў тое, што ён зрабіў, было, ох, як нялёгка!

Янусь МАЛЕЦ



Васіль МАКАРЭВІЧ

## Залатое сячэнне

Фрагмент з аднайменнай паэмы

На кон і жыццё
Рызыкантамі ставіцца,
Каб музу сасватаць і мець барышы.
Якая ім справа да нейкай субстанцыі
Матэрыі зорнай ці чуйнай
Душы?!

Пазыку сплаціў
Да капейкі апошняе.
І – квіты з казной! А яна —
ні ў дугу!
Бы камень на шыю, зноў
вешае пошліну,
А, значыць, ты зноў з галавой —
У даўгу!

Вішчаць тармазы
За акном зазываламі.
І ўздрыгвае стол ад
зямных катастроф.
З краямі ён спрэс, нібы
ляда, завалены
Карчамі смалістых і ямбаў
І строф.

Мне свету яны
Аніколькі не вузілі, —
Ах, колькі ў іх палу
ды вогненных троп!
Здаецца, імгненне і —
грымнуць Везувіем,
Каб магмай у неба рвануць
Аж пад строп.

Даўно падалей
Я турнуў какафонію, —
Навошта яна ў камунальнай нары?!
Мяне абкруцілі драты тэлефонныя,
Нібыта бікфордавы ў дыме
Шнуры.

І б'ецца трывога
Раскрыленым жаўранкам,
Мільгаюць нажніцы
крывых бліскавіц.
А можа, патрэбна адразу пажарнікам
Па нумары круглым 03
Пазваніць?

Ды ясень віхрасты
Ў паношаным свідэры
З-за шыбін мне кронай хітае ў дакор —
Каму даспадобы ён,
вэрхал з гармідарам,
Што ходзіць пад'ездам і тузае
Двор?!

Прыкіну — ў руках
Ці надзейныя козыры,
Каб хціўцаў не сцаць мне на
"ха" і на "бэ".
Мо лепей на МАЗе —
дарожным бульдозеры —
Рвануць на Смаленск, а пасля
Ў Душанбе?

Куды ты збяжыш,
Калі звяга на выселках
Галёкае, трубіць і — ўнімку няма?!
Ну хіба даўно яе, родную, высеклі,
І так — што зраклася імя,
Бы кляйма.

А козлік блудлівы,
Відно, з Берасцейшчыны,
Сягнуўшы ўлёт цераз хісткі масток,
Уміг залізаў пісягі ёй, разбэшчанай,
І фігавы зноўку прыладзіў
Лісток.

Хіба не такімі —
Пад выкрыкі сойчыны
І грукат разбітых гадоў-абадоў, —
Паэзіі дрэва няшчадна падсочана,
І, ўсохлае, вобмаль прыносіць
Пладоў?

Таму белы верш,
Сшыты белымі ніткамі,
Нібыта на сцэне пашляк-стрыптызёр,
Мільгае адно бессаромнымі лыткамі,
Ды рыфмы зрывае з сябе,
Як рыззё.

А ў гуле багемным,
Зноў музы, як фрэйліны,
Глынуўшы з фужэра інтрыг палыну,
Ўсяго з-за адзінай
дрындушкі рэфрэнавай
Вядуць між сабой перапалку-
Вайну.

Спакою не знае
І ў нас дыягностыка,
Ў камп'ютэры рыецца:
хто ён, партач?
Чыёй пакручастай
страфою на досвітку
Няўзнак падавіўся даверлівы
Драч?

Шукаючы выйсце, —
Над хоку і хайкамі,
Што носяць ад роду, відаць, кімано,
Падзёншчыкаў плойма
і стогне і хакае,
Радкі да бярна штабялюе
Бярно.

А з палкамі ўзбоч,
Бы з слановымі біўнямі,
І пашчай брандспойтаў
каторы ўжо год
Наглядчыкі ўсталі
наўзбоч хунвэйбінамі,
Гатовы па знаку пусціць іх
У ход.

Хоць твар засцілае
То дымам, то копацца
Ад вогнішча звад ды
інтрыг смалякоў,
Ды вучаць, каб рыліся ўпарта
не ў копанцы,
А недзе ў падзем'і сырых
Руднікоў.

Бяссоніца мучае —
Час бы і выспацца! —
Ну колькі хваробу цягнуць, як арбу?!
Ёй даць бы з усмешкаю
горкай не выспятка,
А лёгкім каменьчыкам пстрычку
Па лбу!

Дармо, што былое
Забытай скрозь зонаю,
Дзе спраў і падзей, як
у лядзе карчоў!
Нібыта ў Сібір на заробкі сезонныя,
У бізнес падаўся рыфмач
З рыфмачоў.

А самі мы — хто?
Не пячом хіба дранікі,
Альбо вершаваны бліны
ці праснак?!
Якія мы ў чорта былі гаспадарнікі,
Пусціўшы на дровы балад
Беразняк?!

Насыплем у верш
Чэрствых слоў, нібы гравію,
І кожны шчаслівы і —
ўдачы зноў рад.
Як нас не прасілі —
часцей пра аграрыяў,
А мы — пра грамы, бліскавіцы
Ды град.

Шчыруем не пёркам,
А лыжкай больш здарова
Як знаўцы людскіх
разнасцежаных душ.
Здаецца, што трэслі
мы крону гісторыі.
А што там натрэслі?
Зялепух-ігруш!

Займецъ бы ў радках
Нам чароўнаю костачку,
Каб кніжкі зняталі у крамах з паліц!
Скажыце, хто зможа
даверліва кофтачку
Хмурынцы вясной на грудзях
Расшпіліць?

Калі ён, капеж,
Звонкім дактылем цокае,
Не знае, куды звон ды
сілу падзець, —
На пальцы вярбін
залатымі пярсцёнкамі
Як хочацца рыфмы прылюдна
Адзець!

Чым нам пахваліцца?
Скразной бессэнсоўнасцю?
Куды ні зірнеш —
то правал, то прагал.
Куды ён, скажыце, падзеўся,
фасоністы,
І строгае выкрайкі, пан
Мадрыгал?

На ўхабістай сцежцы,
З жарствой ды аскепкамі,
Абходзячы бельмы прыгаслыя луж,
Санет нема гляне
з усмешкаю скептыка
На оду, прыўзняўшы крыху
Капялюш.

Не надта я петрыў,
Прызнаюся, ў музыцы,
Ды ледзь на струне дзесь
затромкае бард,
Пачне пад Бабром варушыцца
і тузацца
Той скарб, што калісьці зарыў
Банапарт.

Стараемся строфы
Стрыножыць, як путамі.
Ды толькі ці знае тутэйшы акын, —
Свет заўтра заваляць
радкамі камп'ютэры, —
Адно кампраматы ім толькі
Падкінь!

Няўжо мы ардынцы,
Ці варвары з варвараў,
Што гвалт усчынаем,
не цэнім раднё?
Нас гэтак у кіпені лютым
выварвалі, —
Радзімку на целе знайдзі
Хоць адну!

Падайце нам зноў
Кашпіроўскага з Глобаю, —
Прадкажуць зацьменне,
а ўслед і патоп!
Няўжо затужылі па лейцах
з аглоблямі,
Што з месца ісці прымушалі
Ў галоп?

Не ў золаце —
Рыемся ў яме з памыямі,
Шукаючы слова для
спеўных канцон.
А варта пазваць толькі
музу па імені, —
І пойдзе кружыцца мільён
Верацён!

P.S.

Няма тут і знаку
Драпежнай палемікі.
Ды, ведаю, рохкне
крытычны япрук:
Такое б нам з вуснаў
пачуць акадэміка
Ці доктара — ў крайнім выпадку —
Навук!

Калішні араты,
Без позы аратара,
Скажу, нават крыкну
штомаючы сіл —
Паўтысячы творцаў
бяру я ў сааўтары.
І — стаўлю пячаць:
Макарэвіч Васіль



Фота Кастуся Дробава



Ігар КАНАНОВІЧ

## Малітва перад канцом свету

…Толькі, Божа, без болю —
хапіла і так
Спадкаемцам шчаслівага Ноя.
Людства — эксперымент.
А на выхадзе — брак:
Доля — ёсць, але колькі ізгояў…

Я лічу, справядліва загіне
мой свет —
Зноў выносяць крыж Каін і Юда…
Астэроідам? Роем відушчых ракет
Скончыш тое, што мела
быць цудам?

Толькі, Божа, без болю —
імгнення… Прашу!
Каб Зямля — як адзіная плаха!
Каб не рвала пакута за блізкіх душу!
Каб ніхто не хаваў і не плакаў!

Быццам промні —прароцтвы.
Іх фокус — фінал
Нашай, зайздрасцю сточанай, Вежы.
Неўзабаве? Дык згінецце ж,
Мана і Вайна!
Хоць я сам вам як частка належу…

## Усплёск

На руінах ілюзій адказы шукаю…
Божа! Ты надзяліў мяне
гэткай душой!
Дай жа — рай заслужыць і
нацешыцца раем
На зямлі! А нябёсы пакінь
за Сабой…

## Травеньскі дождж

Чаго не ўмею,
таго не ўмею —
Відаць, развучыўся…

І гэта
высакародны
ўчынак траўня —
плакаць за мяне
ўночы
па няспраўджаным
каханні…

## Апеляцыя

На Страшны Суд заводзяць
Мёртвы Час
Суровыя анёлы-канваіры.
Ну вось: цяпер яму даваць адказ.
У зрэнках сведак —
доказы як гіры...

Нянавісці і Крыўды, бачыць Бог,
Аж падае, накладзена у чашу.
— Багата меў злачынных перамог.
Канечне, — зазначае, —
праўда ваша.

А ўсё-такі хацеў бы я пачуць
Пра нейкія станоўчыя учынкі
Падсуднага… Вучу я вас вучу!..
Тады пасля кароткае замінкі

Ўстае шкаляр. І абурэння гул
Прыбойнай хваляй коціцца па зале.
Бог робіць знак. Змаўкаюць.
— Я магу?
— У абарону?
— Так.
— Чакаюць Шалі…

— Хоць я памёр за волю маладым
(У выніку залішне дзёрзкіх крокаў)
Магутны Божа, злітуйся над ім —
За тое, што узгадаваў Прарока!..

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

20 жніўня 2010 г. Выпуск 10

Надзённае



## Выдавецтва “хуткай дапамогі”

Ад паступлення рукапісу ў Выдавецкі цэнтр БДУ да выхаду кнігі часам праходзіць да двух-трох тыдняў. Як звязана хуткасць і якасць у выдавецкай справе? Ці не ўплываюць яны адзін на аднаго адмоўна? Таццяна Янчук, галоўны рэдактар Выдавецкага цэнтра Беларускага дзяржаўнага універсітэта, расказвае пра яго дзейнасць і запэўнівае, што ўсё немагчымае магчыма.

— Пачаткам выдавецкай дзейнасці ў Беларускім дзяржаўным універсітэце можна лічыць 25 лістапада 1921 года, калі пабачыў свет навуковы часопіс “Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Менску”. З той пары адбылося шмат арганізацыйных змен. У 2001 годзе было зарэгістравана Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства “Выдавецкі цэнтр БДУ”.

— Калі б давялося характарызаваць сваю арганізацыю, як бы вы вызначылі яе адметнасць і своеасаблівасць?

— Па-першае, нашай спецыфікай з’яўляюцца малатыражныя выданні ад 100 да 5000 асобнікаў. Далёка не кожнае выдавецтва будзе друкаваць навуковыя манаграфіі. Па-другое, у іншых арганізацыях уласна выдавецтва і друкарня знаходзяцца ў розных месцах. У нас выдавецка-паліграфічнае прадпрыемства, што істотна скарачае час на падрыхтоўку і выпуск выдання. Напрыклад, ад паступлення рукапісу ў выдавецтва да выхаду кнігі часам праходзіць ад паўтара да двух-трох тыдняў. Да нас звяртаюцца як да “хуткай дапамогі”. Напрыклад, неабходна тэрмінова выдаць матэрыялы навуковай канферэнцыі. Або ў аспіранта набліжаецца абарона дысертацыі, і яму трэба прадставіць уласнае даследаванне ў выглядзе кнігі.

— Ці не ўплывае ў такім выпадку хуткасць падрыхтоўкі на якасць выдання?

— Сапраўды, у ідэале праца над кожным выданнем павінна працягвацца дастаткова доўга. Напрыклад, падручнікі для школ мэтазгодна рыхтаваць не спяшаючыся. Выдаўцы нават жартуюць, што падрыхтоўка гэтых кніг падобна на выношванне дзіцяці. Але часам даводзіцца працаваць і хутчэй. Напрыклад, заказ на вучэбныя дапаможнікі для новага, 2010/11 навучальнага года паступіў у красавіку, а ў ліпені яны ўжо пабачылі свет. Як спраўляемся з такім тэмпам? Дзякуючы моцнаму рэдактарска-карэктарскаму складу і прафесіяналізму дызайнераў, тэхнічных рэдактараў, вярстальшчыкаў. Тым больш, што на год цэнтр выпускае больш за 1500 назваў самай разнастайнай прадукцыі. У нашай прафесіі ўсё залежыць ад калектыву, а ён немаленькі: 47 чалавек, аб’яднаныя ў 4 аддзелы і 2 цэхі.

— Па назве ўстановы можна меркаваць, што вы выдаеце літаратуру толькі для БДУ ці наогул для вышэйшай школы…

— Спектр літаратуры, якая выходзіць з нашага выдавецтва, надзвычай шырокі. Мы маем ліцэнзію амаль на ўсе віды выданняў: навуковыя, навукова-папулярныя, вучэбныя, літаратурна-мастацкія, вытворча-практычныя, рэкламныя, даведачныя, выданні для вольнага часу.

Усю літаратуру, якую выдаём, можна падзяліць на тры часткі. Першая — гэта падручнікі для агульнаадукацыйных школ, якімі займаемся з 2002 года. Пачыналі з падручнікаў па астраноміі і біялогіі. Цяпер сканцэнтраваліся на гуманітарных дысцыплінах, у прыватнасці, на гісторыі. Як правіла, гэтыя кнігі маюць вялікі наклад, таму, каб надрукаваць іх, мы звяртаемся да нашага партнёра — Мінскай фабрыкі каляровага друку.

Другая частка — літаратура, якую рыхтуем для ВНУ. З аднаго боку, гэта выданні з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якімі могуць карыстацца ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны. З іншага — выданні з грыфам ВМА (вучэбна-метадычнага аб’яднання) — па маркетынгу, менеджменту, інфармацыйных тэхналогіях, а часам па хіміі і фізіцы для БДУ. Дарэчы, у 2009 годзе мы распачалі новую серыю падручнікаў — “БУС” (“Библиотека успешного студента”).

Да трэцяй часткі можна аднесці ўсю астатнюю прадукцыю: залікоўкі, каталогі, буклеты, бланкі, календары, пасведчанні…

(Заканчэнне на стар. 2)

Аўтограф



## МОЛАДЗЬ ЧЫТАЕ БОЛЬШ

Госцем “Кніжнага свету” стаў папулярны польскі пісьменнік Януш Леон Вішнеўскі, які ўпершыню прыехаў у Беларусь дзеля перамоў з кінастудыяй “Беларусьфільм” аб стварэнні сцэнарыя. Таксама ён знайшоў час для сустрэч з чытачамі.

– Пан Януш, ваш любімы аўтар?

– З дзяцінства вельмі люблю чытаць творы Эрых-Марыя Рэмарка. Імкнуся звяртацца да яго кніг па некалькі разоў на год.

– Рэмарк – аўтар нямецкі. На якой мове вы чытаеце?

– Я – паляк па нацыянальнасці, які працуе ў Германіі і піша камп’ютэрныя праграмы для англамоўных кампаній. Таму чытаю па-польску, па-нямецку і па-англійску. Нядаўна знаходзіўся ў Расіі, дзе імкнуўся авалодаць рускай мовай.

– Хто з рускіх аўтараў вам даспадобы?

– У свеце існуе ўстойлівае меркаванне пра падзел паміж тымі, хто чытае Талстога, і тымі, хто чытае Дастаеўскага. Дык вось я адношуся да тых, хто больш любіць Фёдара Міхайлавіча.

– Што чытаеце зараз?

– Каля майго працоўнага стала стаіць цэлы стос кніг, якія мне прэзентуюць з дарчымі надпісамі на мерапрыемствах і сімпозіумах. Але часу іх чытаць у мяне няма. Імкнуся хаця б праглядаць кнігі, якія ўзнагароджваюцца рознымі прэміямі. Напрыклад, Нобелеўскай, каб быць, так бы мовіць, у курсе ўсіх тэндэнцый развіцця літаратуры. Таму думаю, што вы, моладзь, зараз чытаеце больш за мяне.

Аўтограф браў Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымку: Януш Леон Вішнеўскі: “Читателям “Книжного мира”, сердечно”.

Фота Кацярыны Сіман
Калаж Віктара Калініна

Вітрына

## Для цікаўнага наведвальніка

### У “Цэнтральнай кнігарні” працуе новая паслуга — электронная даведка



Калі зададуць пытанне: “У якую мінскую кнігарню лепш з’ездзіць?” — вы, напэўна, адкажаце: “Безумоўна, у Цэнтральную! Там ёсць усё.” І гэта сапраўды так. Любы чытач тут знойдзе кнігу на свой густ. А якая яна, “Цэнтральная кнігарня”, якая працуе ўжо на працягу амаль 60 гадоў і знаходзіцца па адрасе: праспект Незалежнасці, 19? Кожны дзень кнігарню наведвае больш як 600 пакупнікоў, значную колькасць якіх складаюць замежныя турысты.

Гэта тлумачыцца месцам размяшчэння кнігарні (у самым цэнтры сталіцы, на скрыжаванні дзвюх ліній метро) і наяўнасцю ў ёй вялікай колькасці кніг, канцылярскіх тавараў, сувенірнай прадукцыі — каля 70 тысяч найменняў. Такі магазін нельга не назваць паспяховым, бо вялікая колькасць прадукцыі прываблівае многіх пакупнікоў. А гэта, у сваю чаргу, забяспечвае высокі ўзровень продажаў.

“Цэнтральная кнігарня” мае некалькі аддзелаў: мастацкай, папулярнай, тэхнічнай, метадычнай (у якім аб’яднаны замежная літаратура, юрыдычная, эканамічная, псіхалагічная, дзіцячая ды іншыя) кнігі, аддзелы канцтавараў і паштовак. Цікаўны наведвальнік можа гадзінамі блукаць па гандлёвых залах магазіна.

Для прыцягнення яшчэ большай колькасці пакупнікоў, “Цэнтральная кнігарня” праводзіць спецыяльныя акцыі. Пра іх расказала таваравед Вольга Самсонік: “Да 15 жніўня праходзіла акцыя: пры пакупцы дзвюх мастацкіх кніг маскоўскага выдавецтва АСТ — трэцяя ў падарунак. Акрамя гэтага зараз вядзём продаж кніг лаўрэатаў Букераўскай прэміі (2002-2004 гадоў) па зніжаных у 3-5 разоў цэнах. Таксама тут можна набыць кнігі розных тэматычных напрамкаў 2000-2002 гадоў выдання за 2-4 тысячы рублёў. Такі нізкі кошт тлумачыцца тым, што пастаўшчыкі пазбаўляюцца ад тавараў, што даўно ляжаць на складах”.



Як пацвердзіла назіранне, людзі, што наведваюць “Цэнтральную кнігарню”, у большасці не абыходзяцца без пакупак. Нехта купляе адну кнігу, нехта больш. Розніца толькі ў кошце. Хтосьці гатовы пакінуць у магазіне 5 тысяч рублёў, а хтосьці — 700 тысяч. “Уся справа ў тым, — тлумачыць Вольга Мікалаеўна, — што ў нас на продаж выстаўлены кнігі і за 500 тысяч, і за мільён рублёў. Канечне, іх купляюць не так часта, але тавар заўсёды знаходзіць свайго пакупніка. Не так даўно мы зафіксавалі самую вялікую пакупку — на суму 7 мільёнаў рублёў. Самае цікавае: такія грошы за кнігі гатовы плаціць не замежныя грамадзяне, а беларусы”.

Ужо прыкладна паўгода ў “Цэнтральнай кнігарні” працуе спецыяльная паслуга — электронная даведка. З яе дапамогай можна хутка знайсці кнігу ў кнігарнях ААТ “Белкніга”, задаўшы патрэбныя параметры пошуку: прозвішча аўтара, назву выдання, цану, год выхаду ў свет, выдавецтва. Такая паслуга працуе ўжо ва ўсіх крамах “Белкнігі”. Пакуль наведвальнікам складана арыентавацца ў сістэме, і пошук кніг праходзіць у асноўным з дапамогай прадаўца.

“Цэнтральная кнігарня”, як і іншыя магазіны, мае свае планы. Гэта і рамонт, які мае адбыцца ў наступным годзе (хоць там і так усё прыстойна выглядае), пасля якога камп’ютэр з электроннай даведкай будзе ўстаноўлены і ў зале, і пашырэнне гандлёвай плошчы. У хуткім часе на вуліцы пачне працаваць другая палатка, з сувенірамі (першая рэалізуе тавары для школьнікаў), што дазволіць зацікавіць турыстаў, менавіта іх унёсак дазваляе значна павысіць узровень продажаў.

Кацярына РАБАВА

На здымках: таваравед Вольга Самсонік; у аддзеле дзіцячай літаратуры.

Фота Кастуся Дробава і аўтара

Час чытаць

## Успаміны з дзяцінства



Беларусы расказваюць пра свае чытацкія густы і называюць твор, які б хацелі бачыць экранізаваным.

Лідзія Макарэвіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры:

— Цяпер стараюся чытаць і трымаць у полі зроку ў першую чаргу беларускую літаратуру, з асаблівай цікавасцю чытаю мемуары. Гэтыя творы па-іншаму адкрываюць чалавечы свет і даюць інфармацыю для роздуму, нават для змены асабістага светаўспрымання.

Як філолагу даводзілася чытаць шмат. Зараз жа катастрафічна не хапае часу і таму многае застаецца непрачытаным. У цэлым, запомніліся тыя творы, якія чыталіся ў дзяцінстве. "Міколка-паравоз" Міхася Лынькова, "Людзі на балоце" Івана Мележа, "Глыбокая плынь" Івана Шамякіна, "Нельга забыць" Уладзіміра Караткевіча, аповесці Васіля Быкава, руская класічная літаратура.

Экранізаваным хацела б бачыць раман Людмілы Рублеўскай "Забіць нягодніка, або Гульня ў Альбарутэнію", твор з цікавым, яркім сюжэтам, у якім цесна пераплецена сучаснасць і гісторыя 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя.

Запісала Марына ВЕСЯЛУХА

# Выдавецтва "хуткай дапамогі"

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

— Што чакае выданні цэнтра пасля выхаду кнігі ў свет?

— Кнігі, якія замаўляюцца прыватнымі заказчыкамі, аддаюцца ім на рукі пасля абавязковай рассылкі ў найбольш буйныя бібліятэкі. Іншыя выданні рэалізуюцца аддзелам маркетынгу. Усю прадукцыю можна набыць у нашых спецыялізаваных крамах: на 1-м паверсе ў галоўным корпусе БДУ і на юрыдычным факультэце. Актыўна супрацоўнічаем з "Цэнтральнай кнігарняй", Домам кнігі "Веды", "Акадэмкнігай", "Бібліятэчным калектарам".

— Ці ёсць складанасці з рэалізацыяй?

— Пэўныя праблемы, безумоўна, ёсць. Усё ж такі мы выпускаем не дэтэктыўныя выданні і жаночыя раманы. Ды і кніга, на жаль, перастала быць прадметам першай неабходнасці. Цяпер людзі пачалі менш чытаць кнігі ў звычайным разуменні гэтага слова. Яны імкнуцца адшукаць у Інтэрнэце электронную версію твораў. Шэраг нашых выданняў (напрыклад, серыя "Scriptor universitatis" — "Універсітэцкі аўтар"), у якой выйшлі кнігі "Гісторыя Беларусі" выдатнага вучонага-гісторыка і першага рэктара БДУ Уладзіміра Пічэты, "Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края" Пятра Бацюшкава, "Ваенная школа ў Беларусі" Пятра Брыгадзіна і Андрэя Лукашэвіча і інш., разыходзяцца больш павольна, чым нам хацелася б, бо разлічаны на асаблівую чытацкую аўдыторыю. Таму такія выданні мы можам сабе дазволіць адзін раз на тры-чатыры гады.

— Ведаю, што выдавецкі цэнтр быў неаднаразова адзначаны ўзнагародамі на прэстыжных выдавецкіх выставах…



— У кірмашах і выставах удзельнічаем абавязкова. Такія мерапрыемствы даюць магчымасць паказаць свае выданні і паглядзець на дасягненні калег. Часам здараецца, што чытачы падказваюць ідэі новых праектаў. Што датычыцца перамог, дык у 2008 годзе наша прадпрыемства прывезла на VI агульнарасійскі конкурс "Універсітэцкая кніга", які праводзіцца ў Маскве, выданне "Філасофія ў сучасным свеце", падрыхтаванае супрацоўнікамі факультэта філасофіі і сацыяльных навук пад рэдакцыяй прафесара А. Зелянкова. Дык вось, яно стала прызёрам у намінацыі "Лепшае навучальнае выданне па гуманітарных навуках".

Гутарыў Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымках: галоўны рэдактар Выдавецкага цэнтра БДУ Таццяна Янчук; кнігі Выдавецкага цэнтра БДУ.

Аўтабіяграфічны раман Курта Ванегута "Бойня № 5, або Крыжовы паход дзетак" (Slaughterhouse-Five, or The Children's Crusade) стаўся хіба першым творам культавага амерыканскага пісьменніка, перакладзеным на беларускую мову.

## Пераклад, якога чакалі




Кніга нядаўна пабачыла свет у выдавецтве "Логвінаў" у серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны"— Пераклады".

Твор апісвае бамбардзіраванне Дрэздэна ў 1945 годзе, сведкам якога Ванегут стаў, знаходзячыся ў нямецкім палоне. У горадзе не было бамбасховішчаў, таму на ноч палонных пакідалі ў гарадской скатабойні № 5. Гэтая падзея стала самым цяжкім ваенным перажываннем пісьменніка. Раман "Бойня № 5, або Крыжовы паход дзетак", напісаны ў 1969 годзе, прынёс Ванегуту шырокую вядомасць у ЗША і, што называецца, быў расцягнуты на цытаты. Менавіта з яго, да прыкладу, пайшла знакамітая фраза "So it goes", якая ў беларускім варыянце стала гучаць: "Во як!". З-за крытыкі вайны (не толькі фашызму, але і палітыкі іншых удзельнікаў Другой сусветнай) раман прайшоў праз цэнзуру ў ЗША і доўгі час быў пад забаронай у СССР.

Пераклаў з англійскай мовы легендарны раман малады літаратар Павел Касцюкевіч, які жыве ў Ізраілі. Дагэтуль ён быў вядомы галоўным чынам як аўтар кнігі прозы "Душпастарскія спатканні для дачнікаў" і адзін з першых перакладчыкаў з мовы іўрыт на беларускую: у ягоным перастварэнні выходзіў зборнік Этгара Керэта "Кіроўца аўтобуса, які хацеў стаць Богам", а таксама анталогія ізраільскай літаратуры "Чалавек, які скраў Сцяну Плачу".

Саша ДОРСКАЯ

# Казка з сумным фіналам

## Падрастаюць не прывучаныя да кнігі дзеці...

### Мы — чытаючы народ?

Вядома, што больш за 40 працэнтаў расіян кніг увогуле не чытаюць. Дзеці і падлеткі ў рэйтынгах вольнага часу чытанне ставяць на апошняе месца. Тыражы выданняў для юнацтва — а гэта больш як трэцяя частка насельніцтва — проста катастрафічныя: прыкладна 0,001 працэнта ад агульнай колькасці друкаваных выданняў.

Маё пакаленне, што ў дзяцінстве імкнулася ўлегчыся спаць з кніжкай і ліхтарыкам, каб яшчэ пару старонак прачытаць пад коўдрай, дасюль лічыць кнігу лепшым падарункам. І мы хочам, каб нашы дзеці і ўнукі таксама любілі чытаць. З чаго пачынаецца шлях у краіну Літаратуры? Вядома, з першай кніжкі, якую чыталі табе бацькі. Часцей за ўсё — гэта казкі. Якой павінна быць дзіцячая кніжка? Найперш — граматнай! Падчас перабудовы ахвоту чытаць у нас адбілі аматары лёгкіх грошай: з'явілася шмат перавыданняў папулярных кніжак, якіх не кранала рэдактарска-карэктарскае вока. Я, тады маладая маці, з радасцю нахапала гэтых "гарачых блінцоў". Выправіўшы на кожнай старонцы па некалькі памылак, пастаралася ад кніжак пазбавіцца.

Ці ёсць сёння попыт на дзіцячыя кніжкі і што прапануе гандаль? Зазірнём у кнігарню.

"Дзіцячая кніга павінна быць добрай, выклікаць пачуццё цеплыні. Добра ілюстраваная, яна не павінна нагадваць коміксы", — сцвярджае Сяргей Клімовіч, супрацоўнік адной з лепшых кнігарань сталіцы "Акадэмкніга". Загадчыца аддзела Святлана Хадарэнка дадае: "Памер шрыфта павінен быць вялікі. Папера — высакаякасная. Героі казак — сімпатычнымі. Найбольшы попыт на кнігі, якія развіваюць, — азбукі, гульні. Заўсёды папулярныя фантастыка, энцыклапедычныя выданні, серыя "Бібліятэка школьніка".

> Нашаму часу не хапае не грошай, а крэатыўных ідэй. А калі народзіцца такая ідэя — грошы знойдуцца. І прыбытак не прымусіць сябе чакаць.

На першы погляд, выбар вялікі. Але на паліцах прадстаўлена прадукцыя галоўным чынам расійскіх выдавецтваў. Дзякуючы вялікім тыражам, яна падчас у разы таннейшая за беларускія выданні. Таму складаецца парадаксальная сітуацыя і для супрацоўнікаў дзіцячых дашкольных устаноў — наступных, хто пасля бацькоў пракладвае дзецям шлях у краіну Літаратуры.

Праграма "Пралеска" патрабуе выкарыстанне ў першую чаргу айчынных выданняў. І паміж патэнцыяльным чытачом і Літаратурай новы бар'ер – кошт кнігі. Бюджэтнікі-выхавальнікі трымаюць для правяраючых стэнд з беларускімі метадычнымі дапаможнікамі, а працуюць па танных расійскіх.

Знаёмы гэты клопат і школьным настаўнікам.

Чым ім завабіць дзяцей у краіну Літаратуры, зрабіць іх пастаяннымі туды вандроўнікамі, калі многія бестселеры з-за сваёй заідэалагізаванасці страцілі актуальнасць? (Як, напрыклад, "Сказка о старике Хоттабыче".)

Ці здольны хто з нашых літаратурных герояў заняць месца ў сэрцы чытача-падлетка побач з Гары Потэрам?

### Мы — пішучы народ!..

Бацькі, не адшукаўшы на паліцах вартай увагі кніжкі для нашых любімых дзетак, часам ствараюць яе самі – з улікам сённяшніх рэалій.

Так, выдатны казачнік, настаўнік адной са школ горада Чэрвеня і добра ўжо вядомы пісьменнік Генадзь Аўласенка аднойчы напісаў п'есу для тэатра абсурду, бо яго дачка ўпэўнена сцвярджала: для беларускай літаратуры існаванне гэтага жанру немагчыма. Меркаванне дачкі было паспяхова аспрэчана. (П'есы Генадзя Аўласенкі ёсць у рэпертуары айчынных тэатраў, сустрэць іх можна ў зборніках беларускай драматургіі, у 2007 годзе планавалася асобнае выданне ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце праблем культуры. Але не атрымалася — інстытут быў рэфармаваны, і многія яго праекты так і засталіся толькі на паперы.)

Сімвалічным тыражом выдадзены добрыя кніжкі настаўніцы з Заслаўя Ірыны Клышэўскай — "Поездка в Глубокое", бласлаўлёная Мітрапалітам Філарэтам, і "Самое главное" (апошняя — за аўтарскія сродкі).

Папулярнае зараз выказванне — нашаму часу не хапае не грошай, а крэатыўных ідэй. А калі народзіцца такая ідэя — грошы знойдуцца. І прыбытак не прымусіць сябе чакаць.

Згадваецца тут наступная гісторыя. Рэжысёр Алена Турава прыдумала для сваёй дачушкі казку "Рыжык". На кінастудыі "Беларусьфільм" яе палічылі дастаткова крэатыўнай, каб пакласці ў аснову сцэнарыя дзіцячай стужкі. Акрыленая Алена з'явілася ў адным з прыватных выдавецтваў з прапановай выдаць "Рыжыка" як дзіцячую кніжку — з каляровымі ілюстрацыямі, якія мог выканаць мастак стужкі. Калі кніга з'явіцца раней за фільм, яна, безумоўна, збярэ на прэм'еру дзяцей з бацькамі. Прэзентацыі кнігі і фільма паспрыяюць продажу тыражу. Казка напісана настолькі дынамічна, што захоплівае чытача з першых старонак. Нават рэдактар выдавецтва адклаў усе справы і адпраўляў кожнага, хто мог адарваць яго ад рукапісу, пакуль не перагарнуў апошнюю старонку. Але… Як і ўсіх аўтараў, Алену адправілі шукаць спонсара. А паколькі рэжысёру Туравай ёсць чым заняцца ў гэтым жыцці, то "Рыжык" так і не стаў кніжкай.

### Мы — людзі прынцыповыя…

Асноўная маса беларускіх кніг, што займаюць палічкі крамаў, пабачыла свет у такіх выдавецтвах, як "Мастацкая літаратура" і "Кнігазбор". А калі нераскручаны аўтар звернецца ў адно з іх?..

> "За паўтара-два месяцы мы маглі б выдаць дзіцячую кніжку, але за сродкі аўтара ці спонсара, — адказвае на пытанне дырэктар выдавецтва "Кнігазбор" Генадзь Вінярскі.

"Усе аўтары, безумоўна, лічаць, што стварылі шэдэўр. Тым не менш ацаніць яго мастацкую вартасць, перш чым даць яму жыццё, — вось наша галоўная задача, — сцвярджае Уладзіслаў Мачульскі, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура", адзначанага на XI Міжнародным салоне дзіцячай кнігі ў Кішынёве ў 2009 годзе дыпломам і прэміяй Нацыянальнай бібліятэкі Малдовы "За особое отношение к детям". — Але выдавецкі партфель поўны, і план на год даўно зацверджаны. Хаця, калі аўтар знойдзе спонсара, кнігу можна выдаць за месяц".

"За паўтара-два месяцы мы маглі б выдаць дзіцячую кніжку, але за сродкі аўтара ці спонсара, — адказвае на пытанне дырэктар выдавецтва "Кнігазбор" Генадзь Вінярскі. — У 2009 годзе выдавецтву самому давялося браць крэдыт на выданне трох кніг заяўленай 200-томнай серыі "Беларускі кнігазбор".

З аднаго боку, "Рыжыку" дакладна пашанцавала. Бо калі прыватнае выдавецтва ўкладае свае грошы ў выданне, яго мэта — максімальна знізіць затраты, а рэалізаваць кніжку з вялікім прыбыткам. Але атрымліваецца, як той казаў, "хацелі, як лепей…" Тысячным тыражом выдадзеныя ў "Зорным верасні" казкі Святланы Хорсун "Котенок Бантя в Долине экопузиков", цікавыя і сучасныя па змесце, нікога не прывабілі ні таннай паперай, ні чорна-белымі малюнкамі.

Ці атрымаецца ў невядомага аўтара прасунуцца праз натоўп пастаянных аўтараў буйнога выдавецтва, адзначаных рознымі рэгаліямі і членствам у Саюзе пісьменнікаў? Па-другое, быў бы спонсар — і на мастацкую вартасць твора ніхто не зверне ўвагі?

Што маем пры такім раскладзе? Багаценькія дзеткі імкнуцца ашчасліваць кнігарні вершамі таты-графамана, каб даказаць маці, што яна недаацэньвае бацькавы творы... Экзальтаваная жанчына, нядрэнны, дарэчы, празаік, уяўляе сябе паэтэсай і мастачкай — і псуе выдатную кніжку гарнірам уласнай вытворчасці. Драматург адмаўляецца ад паслуг прафесіяналаў — і ў тэкстах насуперак усім правілам арфаграфіі дыялогі герояў аздабляюць разам і двукоссі, і працяжнікі… Лёс гэтых выданняў незайздросны. Адзін з гора-аўтараў "губляў" іх, дзе толькі можна, — у аддзелах прыёму рэкламных аб'яў, напрыклад.

### А тым часам…

"Рыжык" завітае да нас у госці з экранаў, магчыма, паселіцца ў нашых відэатэках. А вось перагарнуць папяровыя старонкі, уважліва разглядаючы рознакаляровыя малюнкі, нам не пашчасціць. Колькі яшчэ добрых кніжак застаюцца праектамі?

А тым часам "Российская газета" паведамляе: за апошнія 20 гадоў выгадаваліся два пакаленні грамадзян, якія не маюць звычкі чытаць, бо ў бацькоў, якія не бяруць у рукі кнігу, падрастаюць не прывучаныя да кнігі дзеці. Не шмат якія сем'і могуць пахваліцца наяўнасцю хатняй бібліятэкі. Нічога сур'ёзнага, скажаце?

Даследчыкі з Інстытута сацыялогіі РАН сцвярджаюць, што толькі 13—14 працэнтаў дарослых чытачоў і гледачоў разумеюць сутнасць грамадска-палітычных публікацый прэсы і сюжэтаў тэлебачання.

Не дадаюць аптымізму і дадзеныя расійскіх навукоўцаў, што ўдзельнічалі ў даследаванні ў межах Міжнароднай праграмы ацэнкі якасці адукацыі 15-гадовых школьнікаў. Адной яго з мэтаў было вызначэнне ў падлеткаў навыкаў чытання і карыстання атрыманай інфармацыяй. З самымі складанымі заданнямі здолелі разабрацца толькі 1,7 працэнта юных расіян, амаль у шэсць разоў меней за сваіх аднагодкаў з астатніх 39 краін.

Такая вось казачка з сумным фіналам…

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



# Ігар Лапцёнак:

# «У выдавецкім бізнесе заўсёды элемент спантаннасці»

**Намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Мікалаевіч Лапцёнак у колах кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў вядомы як прафесіянал-практык, які выдатна ведае сферу. Тое, што спрычынены да гуманітарнага кірунку, лічыць досыць лагічным. Кнігі любіў чытаць з дзяцінства, у бацькоў-інтэлігентаў была багатая хатняя бібліятэка. Сваю бібліятэку пачаў збіраць у школьныя і студэнцкія гады. Нейкі час працаваў перакладчыкам, і цяпер, з'яўляючыся членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, шчыруе ў секцыі перакладаў. Працаваў у выдавецтвах "Вышэйшая школа", "Беларусь", дырэктарам выдавецтва "Народная асвета". Адзначаны медалём Францыска Скарыны — за выданне падручнікаў. Тады, сцвярджае, па выданні падручнікаў яны пачалі ствараць менавіта нацыянальную школу. Цяпер у кабінеце намесніка міністра незлічоная колькасць кніг — ва ўстанову прыходзяць сігнальныя экземпляры з выдавецтваў. У гэтым, застаўленым кнігамі кабінеце, мы і вялі нашу гутарку.**

— Ігар Мікалаевіч, звычайна ў сярэдзіне года падводзяцца вынікі кнігавыдання за паўгода. Сярэдзіна пройдзена. Як мы выглядаем у параўнанні з мінулым годам — вытрымліваем тэмпы? Якія тэндэнцыі пазначыліся ў гэтым годзе?

— Крыху менш зараз выдадзена па назвах. Калі б у першым паўгоддзі сёлета мы выдалі, скажам, шэсць з палову тысяч назваў, тады б усё было правільна. Але мы зрабілі каля пяці тысяч. Гэта крыху менш, чым летась, калі за год мы выдалі амаль трынаццаць тысяч назваў кніг. Але можа стацца так, што ў другім паўгоддзі становішча выправіцца...

— Што можа стымуляваць кнігавыданне, каб у тым жа чацвёртым квартале мы маглі назіраць усплеск выдавецкай справы?

— Штучна тут нічога не зробіш. Трэба, каб існаваў устойлівы попыт. Чытач заўсёды сваёй кішэняй галасуе за тое ці іншае выданне. Таму выдаўцам трэба выбіраць тыя напрамкі, якія цікавяць людзей. Між іншым, апошнім часам мы назіраем змены ў паводзінах выдаўцоў і пакупнікоў. Дзяржаўныя выдавецтвы навучыліся рабіць невялікія тыражы — тысячу, дзве, тры тысячы асобнікаў. Але ў такім разе кнігі павінны разысціся на працягу года, каб быў абарот сродкаў. Хаця раней кніга тры-чатыры гады ляжала на паліцах кнігарань і знаходзіла свайго пакупніка. А цяпер выданне, скажам, 2007 года чытача ўжо не цікавіць.

...А што рабіць, каб быў усплёск, гаварыць вельмі складана. Патрэбны пошук цікавых аўтараў, новых тэм і каб тэмы супадалі з патрэбамі чытача. Што да першага, то зараз з'яўляецца вельмі шмат новых імёнаў у літаратуры...

— Прычым, нашы творцы часта шукаюць не беларускага, а расійскага выдаўца...

— Ёсць эканамічнае абгрунтаванне таго, чаму нашы аўтары друкуюцца ў Расіі. Там тыраж амаль заўсёды рыхтуецца большы, а калі па дамове з выдавецтвам ты атрымліваеш 8 працэнтаў ад агульнага кошту тыражу, то вельмі лёгка палічыць выгоды! Дапусцім, колькі чалавек можа атрымаць ад нашага тыражу ў паўтары тысячы, альбо ад 5-8 тысяч у Расіі: лічбы непараўнальныя! Едуць туды аўтары, друкуюцца і там жа раскручваюцца. А каб пачаткоўцу раскруціцца, трэба вельмі многа. Ён можа быць геніяльным пісьменнікам, але не заўважаным. Трэба, каб усё супала: каб яго нехта ўдумліва прачытаў, каб пра яго напісалі. Раней у нашых сродках масавай інфармацыі было шмат крытычна-публіцыстычных артыкулаў. Спецыяліст чытаў аўтара, рабіў выснову і потым прапагандаваў і твор, і аўтара. Цяпер такіх магчымасцей вельмі мала.

Але ў нас больш як 800 суб'ектаў гаспадарання, якія могуць выдаваць кнігі. І мы назіраем парадаксальную карціну: прыходзяць да такога выдаўца аўтары, друкуюць 50 экземпляраў свайго верша, які не мае ніякіх мастацкіх вартасцей. А потым пачынаецца стагнанне: трэба ж, каб нехта выдадзенае купіў. Ну, адчуў нехта неабходнасць напісаць. Калі ласка! Але каб тое, што напісана, было надрукавана, яно павінна адпавядаць жыццёвым патрабаванням, пэўным літаратурным крытэрыям.

— Вы, як чалавек, які займаецца стварэннем дзяржаўнай палітыкі ў галіне кнігавыдання, можаце сказаць, што погляд аўтарскі, пісьменніцкі і погляд выдаўца, распаўсюджвальніка друку супадаюць? Ці, наадварот, кожны з суб'ектаў дзейнічае паасобку?

— Ствараючы дзяржаўную палітыку, мы ўсё ж лічым, што выхоўваць трэба на лепшых творах. Таму ў нас ёсць і праграма выдання сацыяльна-значнай літаратуры, і выдаткоўваюцца для гэтага сродкі. Але ў выдавецкім, як і ва ўсякім іншым бізнесе, заўсёды ёсць і элемент спантаннасці. Я вяду курсы майстэрства сярод студэнтаў, яны прыносяць на абмеркаванне свае творы. І часта аргументам для таго, каб іх надрукавалі, з'яўляецца меркаванне сяброў, маўляў, "твор" ім падабаецца. Але важна, каб чалавек сам адчуў, што ён патрэбны людзям. Хаця, зразумела, можна раскручваць аўтара і твор штучна. Можна зрабіць вялікі тыраж і арганізаваць рэкламу. І з'явіцца новы пісьменнік. Як у Расіі Пелевін, альбо дэтэктыўшчыкі Марыніна і Данцова.

— Вось так і выходзіць, што цяпер прасцей звярнуцца ў недзяржаўнае выдавецтва і знайсці там падтрымку…

— Стартавыя ўмовы надрукавацца аднолькавыя і ў дзяржаўных, і ў недзяржаўных выдавецтвах. Але ў камерцыйных структур больш магчымасцей змянення напрамкаў выкарыстання капітала. Напэўна, мы маглі б пусціць на "вольны хлеб" нашых выдаўцоў, і яны знайшлі б магчымасці падтрымліваць сваю дзейнасць — выдаць папулярны дэтэктыў ці любоўны раман, і зарабіць на гэтым грошы. Але мы не ставім гэта на мэце. Дастаткова тых, хто гэта робіць цяпер. А вось вытрыманая, класічная, навуковая, выхаваўчая літаратура не дае імгненнага прыбытку, але наколькі яна патрэбная!

Зразумела, трэба, каб у пісьменніка былі ўмовы, каб ён звярнуўся ў літаратурны часопіс, а, напісаўшы кнігу, мог аднесці рукапіс у выдавецтва...

— І пачуць тое, на што ніяк не спадзяваўся: прынясі заказы на сваю кнігу... А ці блізкі час, калі выдаўцы пачнуць змагацца за аўтара, шукаць яго?

— Сёння выдаўцы вымушаны шукаць не проста аўтара. Трэба шукаць і знаходзіць нейкі кірунак. Дапусцім, сёння актуальна ўсё пра Грунвальдскую бітву. А выданняў пра яе няшмат. Павінны быць і выданні да пэўных дат. Яшчэ варыянт. Вы ведаеце, што Уладзімір Гніламёдаў, дапусцім, піша на пэўную тэму. Запрасілі яго, заключылі з ім дамову, ведаючы яго магчымасці і стыль. Альбо Язэп Янушкевіч. Людзі, вядомыя працай па тым ці іншым кірунку, могуць на заказ нешта напісаць. Але трэба шукаць і новых аўтараў.

— Мы згадвалі ўжо пра тое, што ў Беларусі каля 800 суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца выдавецкай справай. Але з іх на слыху — не больш ста…

— І толькі пяцьдзесят — тых, хто стала працуе. Я ж сам праводжу ліцэнзаванне. І кажу пачаткоўцам: калі берацеся за справу, шукайце добрыя творы. Але пачынаць заўсёды цяжка, і ў іх, зразумела, не тыя магчымасці, як, да прыкладу, у "Харвеста", які з'яўляецца ў Беларусі прадстаўніком АСТ і ў якога агромністыя магчымасці для рэалізацыі кніг. Яны могуць дапамагчы і па выданні серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". І кнігі запатрабаваныя. Аказваецца, калі выдаваць серыі на беларускай мове, яны таксама добра ідуць, згадайма "Беларускі кнігазбор".

Выдатна было б, каб мы, дапусцім, калі выдаём наклад у 2000, з яго 1500 пайшло ў бібліятэкі і 500 — у свабодны продаж. Раскупілі — можна дадаткова выдаваць. Гэтак жа ўвесь свет працуе. Ніхто не выдае адразу наклад 100 тысяч ці мільён. 3 — 5 тысяч, а калі справа пайшла добра, давайце выдадзім яшчэ пяць і так далей.

Але трэба, каб быў якасны прадукт. Самае, здавалася б, простае: каб кнігі выходзілі без памылак. Пераносы цяпер — увогуле праблема праблем, іх выконвае камп'ютэр па сваіх "правілах". Няправільна ставяцца коскі, або пішуцца складаныя словы. Возьму кнігу — знаходжу па 5 — 10 памылак на адной старонцы. У свой час існавала жорсткае патрабаванне: 5 памылак на аркуш, на 24 старонкі. А што маем зараз? Карэктараў увогуле не стала ў выдавецтвах. Кажуць, я добра ведаю мову (скончыла радыётэхнічны!), сама выдаю. Як так можа быць?! На камп'ютэры можна набраць абракадабру, але ў правільнай граматычнай форме, і ён не знойдзе памылак!

— І ўсё ж, як мы можам гаварыць, што кніжны бізнес у Беларусі прыбытковы?

— Цяпер менш прыбытковы, чым быў раней, хаця магчымасці рынку вялікія. Цяпер колькасць назваў выдадзеных кніг вялікая, і выбраць сабе нешта вартае вельмі складана. Тут і выпадковасць часам адыгрывае ролю, і, зноў жа, многае залежыць ад рэкламы. Згадваю: іду ў сярэдзіне 1990 гадоў па Маскве, стаіць каля пераходу натоўп, а хлопец пасярэдзіне размахвае кнігамі і крычыць: "Загадочные появления и исчезновения!". Апантаны народ расхоплівае, пытаюся: "А што ж прадаеш?". Аказваецца, фізіка для аматараў! Вось удалы ход: калі навінка цікава падаецца, гэта спрацоўвае.

— Так бы мовіць, па "шчыльнасці выдаўцоў" на адзінку тэрыторыі мы годна выглядаем на фоне іншых краін?

— Здавалася б, у нас 800 выдаўцоў, калі б кожны хаця па адной вартай кніжцы выдаў, і па тры сярэдніх — гэта колькі б атрымалася! Але сёння ў нас "Харвест" выдае палову ўсяго, што выдаецца ў Беларусі, асабліва па тыражу. І ёсць выдавецтваў 15 яшчэ, якія спраўна працуюць. Праўда, у Расіі прыкладна такая ж сітуацыя. У іх там выдаўцоў процьма. Але яны вылучаюць з усёй колькасці 125 найбольш значных і з іх 15 — вельмі значных. І два — выбітных: АСТ і ЭКСМО. Гэта ўжо вялікія кніжныя канцэрны. І ў іх неабмежаваныя магчымасці.

— А мы падыходзім да стварэння такіх?

— Я сказаў бы так: мы ўносім змены ў дзяржаўныя падыходы. Фінансавы крызіс пазамінулага года вельмі шмат дробных прадпрыемстваў "пазачыняў", яны не змаглі выжыць. Але і тут ёсць нюансы. Калі выдавецкае прадпрыемства маленькае, то можа вельмі хутка адрэагаваць на тыя ці іншыя змены. У Расіі некаторыя з іх змаглі ўпісацца ў гэтую прастору, а некаторая частка падпала пад АСТ. Канцэрны, на мой погляд, больш жывучыя. І яны таксама мабільныя. Вялікія канцэрны маюць шмат напрамкаў дзейнасці, на нейкі момант яны могуць адзін з напрамкаў прыпыніць, а сваю дзейнасць засяродзіць на нечым іншым.

— Каб неяк выжыць, трэба аб'ядноўваць намаганні. І ў Беларусі многія гавораць пра неабходнасць стварэння дзяржаўнай праграмы кнігавыдання. На ваш погляд, яна неабходная?

— Пры ўсім рынкачным падыходзе дзяржава мае сваю ідэалогію і палітыку, сваё бачанне гістарычнага развіцця. І думаю, краіна павінна мець сваю нацыянальную праграму кнігавыдання. Вось зараз мы выдаём 23 тамы Максіма Танка ці зборы Янкі Купалы і Якуба Коласа — гэта павінна адбывацца ў рамках дзяржаўнай палітыкі. Гэта тое, што з'яўляецца асноўнай нашай спадчынай. І такія кнігі павінны прысутнічаць у бібліятэках. Зрабілі — накіравалі ў бібліятэкі. Лічу, што і энцыклапедычная літаратура павінна быць у кожным доме. Вось, эстонцы зрабілі сваю энцыклапедыю — вялікі адзін том эстонскай энцыклапедыі ёсць у кожнай сям'і. Яны змаглі стварыць такую кнігу! Наша мара — стварыць нешта падобнае. Было б добра, каб і ў кожнай нашай сям'і была такая энцыклапедыя.

— Як мы цяпер упісваемся ў еўрапейскую сусветную прастору? Немагчыма дбаць пра сваё, не ведаючы, што робіцца наўкола…

— Зразумела, калі мы жывём у свеце, які патрабуе інтэграцыі, то мы нікуды не дзенемся. Найперш у аснове культурнага абмену — кніга! Залішне, відаць, ужо гаварыць, што кніга вучыць, гэта спадчына аднаго пакалення іншаму. Хто не чытае кніг, той спыняецца ў сваім развіцці! Чалавек жа праз кнігу атрымлівае веды… Таму мы ініцыіруем шырокую размову аб абмене друкаванай прадукцыяй. І вось чаму мы прымаем удзел у міжнародных кніжных выставах. Наведваюць нашыя стэнды найперш прадстаўнікі дыяспары. Іх цікавіць усё. Потым прыходзяць людзі, якія вывучаюць нашу беларускую мову і краіну. На прасторах СНД ведаюць нашых Быкава, Караткевіча. Пытаюцца пра іх кнігі. А новых не ведаюць. Мы прывозім і прапануем новае: з серыі паэзіі і прозы XX стагоддзя, XXI стагоддзя і г.д. Відаць, нямногія ведаюць, што Бібліятэка кангрэса ЗША атрымлівае па адным экземпляры кожнай кнігі, выдадзенай у нас на Беларусі. Таксама маюць усе акадэмічныя часопісы. І было гэта здаўна.

Добра, каб можна было прадаваць нашу кнігу за мяжой. Але столькі перашкод — мытных, паштовых… Мы можам накіраваць кнігу ў любую краіну. Але кошт яе ў параўнанні з адпускным павялічваецца ў 10 разоў і болей. Нейкім чынам далучаем Міністэрства замежных спраў Беларусі. Была ідэя адкрыць у Маскве на парытэтных пачатках кнігарню. Але ім гэта не трэба. Маскоўскія выдавецтвы і без кнігарні распаўсюджваюць у нас сваю прадукцыю. А нам — цяжка. Таму мы і выступаем за тое, каб не было абмежаванняў па абмене літаратурай паміж краінамі. Тут і Балонскі працэс, і Фларэнтыйскі, і Бернскі, якія даюць магчымасці пашырэння культурнай спадчыны. Краіны ЕС даўно ў сябе гэта прынялі і маюць льготы, кнігі вызваляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць і свабодна перамяшчаюцца праз межы. І нездарма наш Міждзяржаўны савет СНД па кнігавыданні, паліграфіі і сродках масавай інфармацыі даўно займаецца адпаведнымі пагадненнямі.

Гутарыла Ірына ТУЛУПАВА
Фота Кастуся Дробава

# “Чайка”. Новыя формы



Прэм’ерны паказ чэхаўскай “Чайкі” Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі наладзіў на прыродзе. Хрэстаматыйныя запаветы яе героя Трэплева наконт пошуку новых формаў спраўджваліся на слынным тэатральным лецішчы мастацкага кіраўніка тэатра (рэжысёра-пастаноўшчыка і выканаўцы ролі Сорына) Валерыя Анісенкі. Спектакль стаў падзеяй для тэатральнага свету Беларусі.



Вось табе і тэатр.
Заслона, потым першая куліса,
потым другая і далей
пустая прастора.
Дэкарацый ніякіх. Адкрываецца від
акурат на возера і на далягляд.
А. Чэхаў “Чайка”

Да гэтага варыянта пастаноўкі найбольш пасуе жывапісны тэрмін “пленэр”. Дзеянне разгортваецца на адкрытым паветры ў летнім тэатры, у натуральных умовах, пры натуральным вечаровым святле, якое па змярканні, вядома ж, замяняецца штучным, але толькі дзеля таго, каб глядач бачыў дзеянне.

Святло, паветра, наваколле — актыўныя ўдзельнікі пастаноўкі. Яны мінімалізуюць умоўнасць, праводзяць вельмі дзіўную для гледача, прызвычаенага да залаў і штучнасці, мяжу паміж рэальнымі падзеямі і падзеямі спектакля. У дзеянне ўрываюцца гукі наваколля (брэх сабак, грукат цягніка, шапаценне лісця), на трэцім плане, звычайнай вясковай дарозе (сцэна не мае задніку, яе другі план — возера і альтанка) час ад часу праходзяць сапраўдныя дачнікі. Асноўнае дзеянне, зразумела, адбываецца перад гледачом, але мяжа паміж сцэнічнай і несцэнічнай прасторамі вельмі хісткая.

Незвычайная ўмоўнасць дзеяння абвастрае і выводзіць як асноўны канфлікт паміж сапраўдным і ўяўным, жыццём, якое яно ёсць і якім павінна быць. Ён прасочваецца на ўсіх узроўнях (унутрыасабовым, міжасабовым і надасабовым), і асноўны яго выразнік, безумоўна, — Канстанцін Трэплеў (Дзяніс Паршын). Для развязкі канфлікту, кульмінацыйнай падзеі — самагубства Канстанціна — знойдзена вельмі добрае сцэнічнае вырашэнне. Пасля размовы з Нінай Зарэчнай Трэплеў, знясілены, са зніякавелым тварам, хістаючыся, сыходзіць са сцэны летняга тэатра ўглыб, на другі план, на бераг возера. Спыняецца. Паварочваецца да гледачоў — на імгненне гасне святло, усе раптоўна апынаюцца недзе побач з той самай сусветнай душой, у цемры, пад зорамі. Чуецца стрэл (магчыма, лішні ў гэтай сцэне, бо сэнсава перагружае яе — усё зразумела і без гэтага гуку). Святло запальваюць, а Трэплева, які секунду таму стаяў ля возера, няма…

Дарэчы, Трэплеў — адна з самых цікавых акцёрскіх работ у спектаклі. Дзяніс Паршын адмовіўся ад усіх тыповых рысаў, якімі звычайна надзяляюць гэты персанаж. У малюнку ролі няма інфантыльнасці, юнацкага максімалізму, нервовасці. Трэплеў Паршына — гэта мужчына, гэта асоба, якая здзіўляе самадастатковасцю, спакоем, мудрасцю. Ён проста шукае адказ на вельмі важнае для сябе пытанне: “Якім павінна быць жыццё?”, а калі знаходзіць, то разумее, што гэтае веданне з жыццём несумяшчальнае.

Цікава раскрыты вобраз Машы (Юлія Шаўчук). Актрыса вельмі ўдала выкарыстала характэрную рысу сучасных жанчын — мужчынскі пачатак. Яна па-мужчынску суне рукі ў кішэні і бязлітасна вырашае свой лёс, але праз яе рэзкую хаду, грубаватасць, надламанасць рухаў на гледача сыходзіць бездапаможнасць і неверагодная прага кахання.

Яшчэ адна асаблівасць пленэрнай “Чайкі” — увага да дробязей. Сюжэтна прабудаваныя, абжытыя, характарныя камедыйныя эпізоды з Якавам і пакаёўкай. Надзвычайная ўвага да аўтарскіх рэмарак і тлумачэнняў: Аркадзіна пачынае паліць менавіта там, дзе гэта пазначыў Чэхаў, летні тэатр і яго сцэнаграфія вырашаныя адпаведна з апісаннямі драматурга.

Але нягледзячы на пільную ўвагу да дэталяў, у цэлым пастаноўка ўяўляе сабой накід, эскіз, “сюжэт для невялікага апавядання”. Там шмат павярхоўнасці, незавершанасці. Невызначанасць галоўнага героя, напрыклад. Глядацкая ўвага не канцэнтруецца на Трэплеве, шмат месца ў прасторы спектакля пакінута для Ніны (Вераніка Буслаева), вобраз якой у акцёрскім увасабленні атрымаўся значна слабейшы за вобраз Трэплева, яе маналогам не хапае напружанасці, яны не выяўляюць усёй моцы перажыванняў. Ніна застаецца незразумелай гледачу, не становіцца гераіняй. І на вольнае месца часам выходзіць Аркадзіна (Галіна Чарнабаева), што, з аднаго боку, выглядае натуральна, як яшчэ адзін спосаб прыцягнуць да сябе ўвагу актрысы ва ўзросце, з другога — не вельмі, бо ў рэжысёрскай трактоўцы не надаецца значнай увагі паралелям Трыгорын — Трэплеў, Аркадзіна — Ніна.

Але гэтая незавершанасць не сапсавала “Чайку”, бо не праліčанасць і дакладнасць у ёй галоўнае (гэтым рэжысёр і акцёры, пэўна ж, заняліся, калі пераносілі пастаноўку на стацыянарную сцэну). Як і для ўсялякага пленэрнага малюнка, тут важна было ўхапіць настрой, стварыць атмасферу, спыніць імгненне, знайсці нечаканае ў звычайным, абудзіць у гледача абвостраныя пачуцці ўсемагутнасці і адкрытасці. І гэта атрымалася.

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ



Хрэстаматыйная п’еса Антона Чэхава “Чайка” ў Рэспубліканскім тэатры Беларускай драматургіі: адна пастаноўка, два спектаклі, два погляды. І розныя ўражанні.



Спектакль “Чайка” А. Чэхава ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі — сучасны па сваім гучанні, па рэжысуры. Яго героі ўспрымаюцца і як чэхаўскія персанажы, і як людзі сучасныя. Рэжысёр В. Анісенка нібы набліжае іх да нас. Камерная ўтульная сцэна тэатра дазваляе прадставіць гледачу кожнага героя буйным планам і як мага больш ярка. Усе персанажы ўвесь час амаль побач, гэтаксама, як і чароўнае бяздоннае возера, у якім адлюстроўваюцца недасяжныя зоркі і спакуслівы месяц.

# Паўжыцця за глыток кахання

Драўлянае рыпучае збудаванне на сцэне часам нібы замінае “жыццю чалавечага духу”, здаецца грубавата выкананым і непатрэбным. Тым не менш, і масток ля возера, і імправізаваная сцэна, пастаўленыя на круг, прыцягваюць персанажаў, аб’ядноўваюць іх у адным часе і адной таямнічай прасторы (сцэнаграфія В. Праўдзінай). Прафесійна сканструяваныя і выкананыя гэтай жа мастачкай стыльныя касцюмы: у іх удала прачытваюцца і вобраз, і характар, у іх ёсць водар далёкай рамантычнай эпохі ды імклівая плынь нашага часу.

У Ніне Зарэчнай — В. Буслаевай, якая з’яўляецца ўпершыню перад гледачом у лёгкай чырвонай сукенцы, прыцягваюць такая ж лёгкасць паставы, непасрэднасць, жаночая абаяльнасць, шчырасць існавання. І ўжо крыху пазней у вобразе прачытваюцца глыбіня пачуццяў і мэтанакіраванасць, якія з’яўляюцца стрыжнем гэтай неардынарнай асобы. У самой істоце Ніны жыве няспыннае імкненне да сапраўдных пачуццяў і вялікага прызначэння на зямлі, да звычайнага кахання і служэння сцэне. Ужо ў першых карцінах гераіня В. Буслаевай прыцягвае сваёй ўзнёсласцю і здольнасцю быць рознай у кожным новым эпізодзе. Менавіта дзякуючы яе самаадданаму чытанню раскрываецца таленавітасць п’есы Трэплева (Д. Паршын), які побач з ёю паўстае юным і летуценным. Нават у нязграбнай вопратцы, часам з няўклюднымі і нейкімі дзіцячымі манерамі, ён выклікае сімпатыю, прыцягвае душэўнай цеплынёй і нейкім патаемным болем, які немагчыма выкінуць з сябе, як непатрэбную рэч. Свае адносіны да навакольных ён не выстаўляе напаказ, трымае глыбока ўнутры. Бадай, толькі каханне да Ніны выдае змены яго настрою. Адсутнасць Ніны, яе абыякавасць да яго Трэплеў не можа нічым замяніць — ні літаратурнымі поспехамі, ні памкненнем у сваіх творах да новых тэатральных форм. Акцёр дакладна іграе стан свайго героя ў пэўных сітуацыях, на фоне заўсёднай сціпласці і стрыманасці. У такім Трэплеве адчуваецца асоба разумная і нешараговая, здольная на шчырыя пачуцці і ўласныя адкрыцці.

Са з’яўленнем Аркадзінай у выкананні Г. Чарнабаевай у пабудаваным Трэплевым летнім тэатры пачынаецца сцэнічнае дзеянне, дзе галоўная роля належыць не ёй. Але нават у якасці глядачкі спектакля свайго сына Аркадзіна застаецца актрысай — экстравагантнай, шыкоўнай — і сваімі рэплікамі з залы прыцягвае ўвагу прысутных. Безумоўна ж, яна любіць Канстанціна, але ў яго няўдачах бачыць свае. У п’есе Трэплева яна знаходзіць толькі нешта дэкадэнцкае, непрымальнае ёю, што раздражняе прымадонну. Аркадзіна Г. Чарнабаевай на працягу ўсяго спектакля ўспрымаецца як вельмі сучасная жанчына і ў большай ступені за ўсе іншыя персанажы належыць сённяшнім дням і сучаснай сцэне. Побач з яе прывабнасцю нельга не прыкмеціць уладарныя, агрэсіўныя рысы характару, без якіх, магчыма, гэтай моцнай асобе не ўдалося б зрабіцца той, якой яна і паўстае перад гледачом. І побач з ёю вытанчаны і элегантны Трыгорын у выканані І. Сігава з’яўляецца не масцітым, стомленым ад жыцця і ўласных творчых перамог, пісьменнікам, а, хутчэй, маладым таленавітым акцёрам з ёю ж, Аркадзінай, зрэжысіраванага тэатра. Ужо ад пачатку іх з’яўлення на сцэне відавочна, што як бы ні разгортваліся падзеі, яны заўсёды будуць разам, бо Аркадзіна і Трыгорын — гэта не проста свецкая пара, але адзіны свет: поспеху, апладысментаў, пакланення і захаплення публікі.

Пётр Мікалаевіч Сорын, якога выконвае В. Анісенка, стварае ў спектаклі свой свет, вельмі адрозны ад свету Аркадзінай і Трыгорына. Мяккі, інтэлігентны, выхаваны герой В. Анісенкі заўсёды ў добрым настроі, нягледзячы на хваробы, на недарэчнасці лёсу. Ён зычлівы і спагадлівы да навакольных, і ў яго жыццёвай філасофіі ўтрымліваецца галоўная мудрасць быцця: трэба проста жыць і радавацца кожнаму новаму дню, пры гэтым не зайздросціць чужой славе і не цешыцца з чужога гора. Вобраз, створаны выканаўцам, уносіць у спектакль асаблівую атмасферу прыцішанасці і дабрыні, якая няўлоўна саграе і ў якой адчувае патрэбу кожны з прысутных у зале і на сцэне. Робіцца зразумелым, што кахання, узаемнасці, зямнога самасцвярджэння прагнуць не толькі Аркадзіна і Зарэчная, але і спакойны, разважлівы, арыстакратычны Дорн К. Воранаў); прыгожая, зграбная, сумнавата-загадкавая Паліна Андрэеўна (Г. Арыніч-Анісенка); прыстойны, сціплы і кранальны сваімі адносінамі да Машы, Медзвядзенка (С. Шымко). І ў гэтым Сусвеце, пабудаваным РТБД, невыпадковае таксама існаванне энергічнага, моцнага, заклапочанага справамі Шамраева (А. Дабравольскі), і летуценнай, прывабнай пакаёўкі (Н. Цвяткова).

У спектаклі ёсць і свае адкрыцці, новае імя, на якое нельга не звярнуць увагу. Гэта Юлія Шаўчук. Вобраз Машы вырашаны ёю цікава, нетрадыцыйна, дзякуючы яркай індывідуальнасці гэтай актрысы. Яе гераіня — знешне па-дзіцячы прывабная, з тонкімі закручанымі коскамі, у доўгай чорнай сукенцы; часам калючая, а ў асобных сцэнах нават неахайная, з кілішкам у руцэ — выклікае і сімпатыю, і спачуванне. За ўсімі экстравагантнымі ўчынкамі Машы — Ю. Шаўчук схаваная жывая чалавечая душа са сваімі пакутамі, таксама, як і іншыя персанажы, ахопленая прагай кахання і разумення.

Спектакль Валерыя Анісенкі, просты па знешняй сваёй пабудове, захоўвае паэтыку чэхаўскага тэатра, у якім усё нібыта пазнавальнае і вядомае, але ў той жа самы час — непрадказальнае, няўстойлівае, зменлівае і рухомае. Зусім як і ў нашым бясцэнным, бясконцым жыцці.

Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ

На здымках: сцэны са спектакля, якія адбыўся “ў натурных дэкарацыях”, на лецішчы, мінулай восенню.

Фота Валерыя Патапенкі



# Цымбалы: радасці і трывогі

Гэты дзень аказаўся, бадай, самы насычаны як па аб’ёме працы, так і па аб’ёме ўражанняў. Працягвалася праслухоўванне агляду-конкурсу маладых выканаўцаў. Пачалося яно з выступленняў салістаў старэйшай групы, куды ўваходзілі навучэнцы музычных вучылішчаў і каледжаў, старшакласнікі сярэдніх агульнаадукацыйных школ, гімназій і ліцэяў. Праграмы, прадстаўленыя гэтай катэгорыяй канкурсантаў, прыкметна адрозніваліся ад выступленняў малодшай групы. Нароўні з п’есамі малых формаў выконваліся творы буйной формы (санаты, сюіты, канцэрты, фантазіі), што, безумоўна, павялічвала час кожнага выступлення. Неабходна адзначыць як дастаткова высокі ўзровень усіх навучэнцаў, так і безумоўна ўзрослы ўзровень выканальніцкага майстэрства ў параўнанні з мінулым фестывалем.

(Заканчэнне. Пачатак у № 29)

## Дзень трэці

Было праслухана 19 выканаўцаў, большасць якіх, па характары свайго музычнага дару і змястоўнасці выканання праграмы, безумоўна, гатовыя ў будучым вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. Вельмі арганічна ўпісаўся ў каманду беларусаў і малдаўскі цымбаліст Іван Курцян, які паказаў у сваім выступленні мысленне і віртуознасць будучага майстра высокага класа. З беларускіх удзельнікаў найбольш яркімі і перспектыўнымі выканаўцамі паказалі сябе Раман Пост (Віцебскае музычнае вучылішча), Ірына Марозава (Гомельскі каледж мастацтваў), Кацярына Юхнова (Магілёўскі каледж), Юльяна Шырмо (Гродзенскі каледж) і некаторыя іншыя.

Агляд-конкурс завяршыўся вечарам пасля выступленняў 29 ансамбляў. Можна сказаць, што такой разнастайнасці, такіх фантазій, такіх касцюмаў у асяроддзі спаборнікаў ніколі раней не было. Атрымаўся своеасаблівы баль-маскарад нацыянальных касцюмаў, свежых сцэнічных вырашэнняў, адметных твораў, увогуле — музычнае шоу. Адзін калектыў змяняў другі, маленькія дзеці выходзілі на змену старэйшым і наадварот, паміж вялікімі складамі выступалі дуэты, трыо і г.д. Вельмі цікава выступіў дуэт кокле з Латвіі — Беатэ Анстранга ды Ліва Крузіня. З беларускіх выканаўцаў цяжка каго-небудзь вылучыць, настолькі арганічна, артыстычна, вынаходліва паказалі сябе нашы калектывы.

І пачалося самае складанае. З 90 канцэртных нумароў неабходна было адабраць 15 — 20 самых яркіх для заключнага канцэрта. Вось дык задачка: не атрымліваецца! Калі самых яркіх, дык іх не менш як 40 — 50. Кагосьці давядзецца пакрыўдзіць. І крыўдзілі... Галоўным крытэрыем журы абрала не толькі яркасць, але і адрозненне нумароў між сабою паводле розных аспектаў. Урэшце вызначылі фінальную групу з 20 нумароў, якую прыкметна асвяжылі і аздобілі чатыры нумары з Літвы, Латвіі, Украіны і Малдовы. У час абвяшчэння вынікаў даводзілася некалькі разоў тлумачыць, суцешваць і прасіць прабачэння у тых, хто не трапіў у заключны канцэрт.

Завяршыўся “Сярэбраны звон цымбал” на наступны, чацвёрты дзень, як гаворыцца, пад гукі фанфараў. Ва ўрачыстай абстаноўцы, пасля цёплых віншаванняў арганізатараў форуму, усе ўдзельнікі конкурсных праслухоўванняў былі ўзнагароджаныя дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Пад удзячныя апладысменты слухачоў прайшоў яркі запамінальны канцэрт. Безумоўна, форум здзейсніў свае задачы, форум удаўся!

Здавалася б, трэба толькі радавацца. І радасць ёсць, таму што ёсць цудоўныя дасягненні, ёсць таленавітыя дзеці, улюбёныя ў музычную творчасць, ёсць беражліва сфарміраваны папярэднімі пакаленнямі нацыянальны пласт музычнага мастацтва — цымбальны.

Але ж ёсць і душэўная трывога за будучыню гэтага унікальнага мастацтва. Прычына трывогі ўсім вядомая: закрыццё фабрыкі музычных інструментаў у г. Барысаве, якая на працягу паўстагоддзя забяспечвала музычнымі інструментамі, у тым ліку і цымбаламі, не толькі Беларусь, але і некаторыя замежныя краіны. І вось сёння абыякавыя чыноўнікі прапануюць нам сумніўны рамонт ужо непрыдатных старых цымбал, быццам нягодных старых чамаданаў. Прычым, кошт такога бязглуздага рамонту выльецца для заказчыка ў кругленькую суму — 300 долараў ЗША, пры ранейшым кошце новага інструмента ў межах 1,5 мільёна беларускіх рублёў. А як жа быць цымбалістам-пачаткоўцам (ды і піяністам)? Дзе яны змогуць набыць сабе музычны інструмент? А што будзе праз 10 — 15 год? Што будзе з прафесійнымі калектывамі і салістамі? Трывога... трывога... трывога...

Яўген ГЛАДКОЎ,
старшыня Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў,
член прэзідыума праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, народны артыст Беларусі, прафесар

На здымках: Ула Паліякайтэ (Літва); ансамбль народнай музыкі “Купіна” (Расія).





# Віктар і Viktoria

## Імпрэсіі паводле канцэрта ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі



“Старонкі музычнай спадчыны” — так называлася праграма студэнцкага аркестра беларускіх народных інструментаў БДУ культуры і мастацтваў. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Віктар Валатковіч, дырыжор Вікторыя Старыкава. Салісты — заслужаная артыстка Беларусі Ларыса Рыдлеўская і дыпламант міжнароднага конкурсу Алена Шульгоўская (цымбалы), лаўрэат міжнародных конкурсаў, артыстка Беларускай оперы Алена Сало. Што гэта была насамрэч творчая Viktoria-Перамога і паказальны вынік творчасці студэнцкага калектыву на чале з дырыжорамі-настаўнікамі, што поўная зала ў той нядзельны вечар перажыла стан, вельмі блізкі да катарсічнага, што студэнты-выканаўцы на розных інструментах, іх настаўнікі, а з імі і БДУКіМ чарговы раз пацвердзілі свой артыстычны гонар і стварылі запамінальную высокамастацкую дзею, — усё гэта засведчыла авацыя ўзрушанай публікі.

Аркестр гэты — не “звычайны студэнцкі”, а пераможца: лаўрэат І прэміі і Гран-пры V Міжнароднага фестывалю “Пятра-Паўлаўскія асамблеі” ў Санкт-Пецярбургу. Узнагарода важкая: складана сёння “проста” выехаць немаламу калектыву на замежны фестываль, а тым больш упершыню, і адразу стаць пераможцам конкурсу, у якім удзельнічалі студэнцкія аркестры і ансамблі народных інструментаў літаральна з усіх рэгіёнаў Расіі, амаль з усіх краін СНД, а таксама з краін Балтыі, Скандынавіі, з Францыі, Польшчы ды іншых. А яшчэ гэты калектыў адзначаны Гранд-прэміяй і званнем лаўрэата Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

“Аркестр беларускіх народных інструментаў існуе з першых гадоў станаўлення нашай ВНУ. Ім кіраваў напачатку Фёдар Лысянкоў. Я ж працую з аркестрам амаль 15 гадоў, — расказвае Віктар Валатковіч. — У чым праблема такога аркестра? Вось сезон прайшоў — і чарговая ратацыя, новы склад студэнтаў. Праўда, хтосьці паводле размеркавання застаецца тут, але большасць аркестрантаў-студэнтаў мяняецца. Аркестр можна параўнаць з аранжарэяй: як толькі прыпыніў за ёй догляд на нейкі час, расліны гінуць, глеба закісае, атмасфера псуецца. У нашым універсітэце нармальны навучальна-творчы працэс, ёсць разуменне унікальнасці такой формы мастацкай адукацыі, як аркестр ці іншы калектыў БДУКіМ. Яны — творчыя лакаматывы, цягнуць за сабой усю вучэбна-творчую махіну універсітэта мастацтваў. Яны – паказчыкі якасці ўсёй установы, своеасаблівая лакмусавая паперка, якая вызначае ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі ў сценах нашай ВНУ. Замяніць навучанне ў такіх мастацкіх суполках чымсьці іншым, думаю, немагчыма. Бо нейкія дробныя формы заняткаў ніколі не абудзяць у студэнтах высокія і менавіта артыстычныя пачуцці, што ўзнікаюць на вялікай сцэне.

У нас, у дырыжораў студэнцкіх аркестраў, ёсць адна радасць, якую даюць толькі маладзёжныя калектывы. Гэтыя хлопцы ды дзяўчаты ствараюць такую энергетыку, што разумееш: іншым, напрыклад, “дарослым” музыкантам, такая энергетычная канцэнтрацыя недаступная, яна унікальная сваёй шчырасцю і чысцінёй. У студэнтаў — фактар маладосці, навізны, яны гараць артыстычным жаданнем, яны мабільныя і гатовыя на бясконцае ўдасканальванне канцэртных нумароў. Яны, нарэшце, не паспелі “сцерціся” на сцэне. На рэпетыцыях бываюць такія ўсплёскі эмоцый, маладога натхнення, што разумееш: вось яно, імгненне шчырасці, дзеля якога варта жыць… А вось паездкі на міжнародныя фестывалі — гэта не толькі нейкі маладзёжны рух, арганізацыя творчага працэсу ў асяроддзі сучаснай няпростай моладзі, але яшчэ і вельмі моцная, энергетычна ёмістая прэзентацыя культуры Беларусі за мяжой. Урэшце, выступленне маладзёжнага аркестра ў іншых краінах — гэта і моцны штуршок для выхавання патрыятызму не толькі ў саміх артыстаў-пачаткоўцаў, а і ў чытачоў газет, у аўдыторыі радыё і тэлебачання, дзе расказваецца пра такія выступленні нашай музычнай моладзі. Выступленні ў сталічнай філармоніі і, канечне, за мяжой фарміруюць творчую асобу, годнае меркаванне маладых людзей пра сябе, пра беларускую зямлю”.

Вось такі “звычайны” студэнцкі аркестр. Яго выступленне ў Вялікай зале БДФ запомнілася мне і атмасферай, і праграмай, у якой былі сюрпрызы.

Першае аддзяленне канцэрта пачалося цымбальнай класікай – “Беларускімі танцамі” І. Жыновіча; тонка, рамантычна, як “вечная прыгажосць”, прагучала малавядомая “Лірычная п’еса” А. Туранкова; бліснула віртуознасцю салістка А. Шульгоўская ў часткі цымбальнага канцэрта Д. Смольскага.. Адкрыццём сталася другое нараджэнне чатырохчасткавай “Сімфаньеты” І. Ронькіна, напісаная амаль паўстагоддзя таму, партытура якой была згублена. Гонар гэтага адкрыцця належыць В. Старыкавай. Калісьці “Сімфаньета” была выканана і запісана на Беларускім радыё. Запіс той захаваўся, а партытура знікла. І вось Вікторыя здзейсніла беспрэцэдэнтны творчы ўчынак, напісаўшы грандыёзны “дыктант па сальфеджыо” — на слых аднавіла партытуру. Потым вывучыла твор з аркестрам і бліскуча ім прадырыжыравала ў сваёй тэмпераментнай, валявой і, адначасова, вельмі пачуццёвай манеры, і забытая музыка прагучала так, быццам створана яна ў XXI стагоддзі.

У другой частцы праграмы студэнцкі аркестр яшчэ раз сцвердзіў сябе як калектыў адухоўлены і прафесійны. Дырыжоры па чарзе выходзілі на подыум. Высокі выканальніцкі ўзровень музыкантаў раскрыўся і ў ансамблі з выдатнымі беларускімі салістамі: мецца-сапрана А. Сало і майстра цымбальнай ігры Л. Рыдлеўскай. Новыя выканальніцкія прыёмы і каларыстычныя магчымасці тэмбраў цымбальнага аркестра публіка пачула ў п’есах У. Кур’яна, В. Кузняцова. Фінал канцэрта атрымаўся бліскучажартоўным і вясёлым, бо студэнты на чале з маэстра В. Валатковічам выканалі свае “хіты”, якія дапамаглі ім перамагчы на конкурсе.

Доўгімі былі авацыі залы Віктару Валатковічу і Вікторыі Старыкавай, Студэнтам і Музыцы…

Данат ЯКАНЮК

На здымку: мастацкі кіраўнік аркестра беларускіх народных інструментаў Віктар Валатковіч.




## Слова краязнаўцы



Іван Ярашэвіч з Чэрвеньшчыны разважае пра краязнаўства як аснову выхавання:

— Праз краязнаўства канкрэтызуюцца глабальныя гістарычныя працэсы, яны становяцца зразумелымі, бачацца іх адценні. Так на справе ажыццяўляецца палажэнне "Гісторыя — настаўніца жыцця", робяцца высновы. Няма гісторыі вялікай і малой — яна ўся Вялікая.

Вывучэнне гісторыі родных мясцін — аснова выхавання патрыётаў, грамадзян. Любоў да Радзімы пачынаецца з ушанавання мясцін, дзе нарадзіўся, вырас, дзе знаходзяцца магілы продкаў, дзе пераняў зробленае імі. Тут пупавіна кожнага чалавека.

Школьная адукацыя сёння скіравана на падрыхтоўку грамадзяніна свядомага, актыўнага і мэтанакіраванага. Краязнаўства дапамагае ў гэтай жыццёнеабходнай справе праз адкрыццё людзей, іх спраў: з'яўляюцца канкрэтныя героі, таленты, прыклады, ідэалы, праблемы. Вучням ёсць з каго браць прыклад, на каго раўняцца. Менавіта такую функцыю выконвае краязнаўчая работа ў Смілавіцкай сярэдняй школе № 1 Чэрвеньскага раёна, цэнтрам якой з'яўляецца школьны музей.

Сам краязнаўчымі пошукамі займаюся са школьных часоў. Пачалося гэтае захапленне з цікавасці да жыцця Якуба Коласа ў вёсках Люсіна і Хатынічы. І да сённяшняга дня краязнаўства для мяне — невычэрпная крыніца натхнення, у тым ліку і ў літаратурнай творчасці. Выдаў кніжку вершаў "Ягада жыцця", і менавіта адкрыцці фактаў з гісторыі роднай вёскі ляглі ў аснову сюжэта некалькіх маіх празаічных твораў. Абагульняльнай працай аднаго з накірункаў вывучэння роднага краю з'яўляецца кніжка "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах", якая пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва" напрыканцы 2009 года. Зараз займаюся расшыфроўкай прозвішчаў Чэрвеньскага рэгіёну. Пішу вялікі нарыс пра родную вёску.

## Творчая база для рыцараў

Непадалёк ад Мінска, у Астрашыцкім гарадку, ужо пачалася праца па стварэнні першага ў Беларусі і СНД паўнавартаснага гісторыка-культурнага цэнтра "Рыцарскі замак". Ён размесціцца ў пансіянаце "Тэатральны" Беларускага саюза тэатральных дзеячаў.

Ініцыятарамі стварэння ТАА "Рыцарскі замак" (дырэктарам якога з'яўляецца Дзмітрый Нясцюк, адзін з заснавальнікаў беларускага рыцарскага руху) сталі Міжнароднае аб'яднанне "Рыцары Untremera" і клуб ваенна-гістарычнай рэканструкцыі "Ордэн Паўночнага Храма". Ужо ідзе праца па ставарэнні новага вобраза "Тэатральнага": будуюцца рыцарскае рысталішча, кузня, канюшня, карчма... Асноўная мэта "Рыцарскага замка" — сабраць усе рыцарскія клубы краіны і зрабіць тут сапраўдную творчую базу для рыцарскіх клубаў краіны.

27 жніўня абноўлены пансіянат прыме першых гасцей — тут пройдзе X Міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі "Белы замак", які раней праводзіўся на тэрыторыі Мінскага Палаца дзяцей і моладзі.

Чэслава ПАЛУЯН

## Сакральны сэнс прафесій

Пастух, Ваяр, Бортнік, Музыка, Млынар, Каваль, Ганчар... Гэтыя прафесіі прыйшлі да нас з глыбокай даўніны. З таго часу, калі беларусы верылі ў звышнатуральныя сілы прыроды. Яны абагаўлялі людзей, якія мелі справу з прыроднымі стыхіямі, валодалі таямніцай іх упарадкавання. На старонках "Зямлі пад белымі крыламі" мы распавядзём пра некаторыя віды старажытных заняткаў, якім нашы продкі надавалі сакральны сэнс. Пачнём з самага старажытнага — палявання.

Марына ВЕСЯЛУХА

# БАГІ І ДУХІ БЕЛАРУСКІХ ПАЛЯЎНІЧЫХ

Паляўнічы ў сусветнай міфалогіі, як і прадстаўнікі іншых сакральных прафесій, валодае магічнымі здольнасцямі і ведамі. Паляванне — занятак, звязаны з поспехам і спрыяннем, авалодаць ім без боскага спрыяння немагчыма.



Узгадаем старагрэчаскую і рымскую багінь палявання Артэміду і Дыяну, скандынаўскага Одына... Усіх не пералічыць. У боства — апекуна палявання, тысячы імёнаў і аблічча. Падобныя багі, або абагаўляемыя продкі ці жывёлы, з часоў неаліту з'явіліся ў розных паляўнічых народаў, у розных частках Зямлі. Так татэмістычнымі продкамі аўстралійцаў, паводле паданняў, былі першыя паляўнічыя, якія адначасова лічыліся і людзьмі, і жывёламі. А сучаснае афрыканскае племя з рэспублікі Малі лічыць сваіх паляўнічых магамі і чараўнікамі.

Дарэчы прыгадаць, што паляўнічым быў і легендарны першапродак беларусаў князь Бай, ці Бой. З дапамогай сваіх сабак Стаўры і Гаўры ён высочваў у пушчы дзікіх звяроў і цэліў у іх з лука. Тым не менш, першапачатковае імя боства палявання нашых прадзедаў дакладна невядомае. Але тое, што гэтае боства часам прымала выгляд некаторых жывёл, не выклікае сумнення. З паданняў пра заснаванне старадаўняга Турава і Вільні мы даведваемся, што гэтыя сакральныя для нашай гісторыі гарады ўзніклі, дзякуючы паляванню на тура. У першым выпадку паляваў легендарны князь Тур, у другім — Гедымін.

Беларускія чарадзейныя казкі сведчаць, што гаспадаром язычніцкага лесу быў самы моцны звер — мядзведзь. Шмат хто з паляўнічых захоўваў мядзведжую лапу як таліс-ман-абярэг. Паляўнічыя апраналіся ў скуру мядзведзя, калі палявалі на гэтага звера. Яго імем кляліся, а той паляўнічы, які парушаў клятву, знаходзіў смерць у лесе. Апроч таго на шырокім сусветным матэрыяле вядома, што мядзведзь у міфалагічных уяўленнях і рытуалах можа выступаць як божышча, родапачынальнік, татэм, дух-ахоўнік, звярыны двайнік, пярэварацень. У фальклоры беларусаў у выпадку сужыцця мядзведзя з жанчынай, або паляўнічага з мядзведзіцай нараджаюцца паўлюдзі-паўмядзведзі. Здавалася б, фальклорны вобраз мядзведзя дазваляе канчаткова разгадаць і імя старадаўняга бога палявання. З шэрага дадзеных вядома, што крывалапы быў адной з іпастасей такога вядомага і шануемага ў нашых продкаў боства, як Вялес. Хутчэй за ўсё спачатку Вялес быў боствам паляўнічай здабычы — богам мёртвага звера (Вялесам называюць дух забітага на паляванні звера), а пазней і ўсёй свойскай жывёлы. З прыняццем хрысціянства вобраз Вялеса і мядзведзя паступова пачаў набываць чалавечыя, але разам з тым, дэманічныя рысы. Гаспадаром непраходнай пушчы робіцца лесавік, або "Лясны Хазяін" — з рагамі і лапамі, але падобны да чалавека. Паляўнічыя заўсёды пакідалі яму на пні сваю першую здабычу.

Аднак, апроч мядзведзя ў нас, дый амаль ва ўсіх народаў свету, найбольш шаноўнай дзікай жывёлай лічыўся воўк. Ён — увасабленне самых выбітных прыродных паляўнічых якасцей, якія можа мець звер. Яго лоўчыя здольнасці ў спалучэнні са спрытнасцю і хуткасцю праследу здабычы заўсёды зачароўвалі людзей. Калі воўк нападаў на скаціну, нашы продкі яе, як правіла, у яго не адбівалі. Існавала павер'е, што той, хто прызначаны ў ахвяру ваўку, не пазбегне свайго лёсу. Такое меркаванне пайшло, хутчэй за ўсё, ад упэўненасці, што валадарыць ваўкамі хрысціянскі Святы Юр'я. Ён у сваю чаргу ўвабраў у сябе рысы аднаго са старажытнейшых бостваў нашага народа — Ярылы. Святы Юр'я або Георгій апроч іншых сваіх абавязкаў абараняў і паляўнічых, а сам ён на паляванні замест сабак выкарыстоўваў ваўкоў і іншых драпежных жывёл. У народзе лічылі, што Святы Юр'я едзе на белым кані і замыкае пашчы дзікім звярам, пасля чаго тыя менш нападаюць на свойскіх жывёл. Больш таго, драпежнікі маюць права з'есці толькі тую жывёлу, якую ім вызначыць гэты святы.

Напрыканцы хочацца прыгадаць вельмі распаўсюджаны некалі ва ўсёй Еўропе, у тым ліку і на захадзе Беларусі, міф пад назвай "Дзікае Паляванне". Побач з чалавекам, які заначаваў у лесе, з дзікім свістам і гаманам са зграяй сабак праносяцца на конях прывідныя паляўнічыя ў багатым адзенні. Па адным з варыянтаў легенды гэтыя лоўчыя — нячысцікі або душы тых паляўнічых, якія так любілі гэты занятак, што палявалі нават у святы і па нядзелях. Таму пасля смерці яны вымушаны насіцца па лясах, выкупляць свой грэх. А той, хто ўзначальвае "Дзікае Паляванне", з'яўляецца апоўначы ў паляўнічым адзенні і ў розных краінах завецца па-рознаму. У Брытаніі — гэта кароль Артур або Генры-паляўнічы — адна з іпастасей д'ябла. У Даніі – Одын або Вальдэмар IV Атэрдаг. У Нямеччыне — Вотан або спадарыня Холле, якая звязана з культам Месяца і атаясамліваецца з рымскай Дыянай. У Нарвегіі — багіня Фрыг, у Францыі — Роланд, у Польшчы — Дзікі Стралец або Ноцны Егер... А ў Беларусі, дзякуючы Уладзіміру Караткевічу і ягонай гатычнай аповесці "Дікае паляванне караля Стаха" — найбольш вядомы кароль Стах.

Як вы памятаеце літаратурны герой Андрэй Беларэцкі разгадаў таямніцу караткевічаўскага Дзікага Палявання. А ці разгадаем мы з вамі імя нашага найстаражытнейшага Паляўнічага і ягоны містычны сэнс? Хто ведае.

Ірына КЛІМКОВІЧ

На здымку: ілюстрацыя Георгія Паплаўскага да аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха".

# Помнік болю і смутку...

Беларусь — як ні якая іншая краіна — поўная памяццю народнай. Яна — у сэрцах, помніках, мемарыялах... З часоў Вялікай Айчыннай вайны, з дня Чарнобыля — іх, помнікаў, усё больш і больш на нашай шматпакутнай зямлі. У цэнтры Палескага краю, у Калінкавічах, устаноўлены памятны знак — у памяць пра людскую трагедыю, пра мужнасць тых, хто адстойваў жыццё, бараніў ад наступстваў ядзернай бяды на Чарнобыльскай АЭС. Аўтар помніка — гомельскі скульптар Валерый Казлоўскі.



За аснову скульптуры, якая ўвасабляе трагедыю Чарнобыля, былі ўзяты вобразы жанчыны і балотнай птушкі — бугая. Такое спалучэнне можа падацца на першы погляд незвычайным. Вядома, што птушка — адна з самых паэтычных выяў — як народнай, так і класічнай сусветнай культуры. Але чаму бугай? У тых, хто ведае беларускую прыроду, такіх пытанняў не ўзнікае. Сціплая па каляровым апярэнні, гэта птушка выдае падобны на плач, асаблівы гук, пранізлівы, шчымлівы.

Трывожныя пачуцці, насцярожанасць, роздумы — усё гэта адпавядае характару памяці-смутку пра чарнобыльскую бяду. Выява бугая, створаная скульптарам, — з паднятай у неба галавой, увасабляе драматычную інтанацыю задумы. "Птушка, — лічыць аўтар, — паўстае як пасрэднік паміж светам мёртвых і жывых, светам духоўным і матэрыяльным".

Па-іншаму выканана рэльефная постаць жанчыны на пярэдняй часткі скульптуры. У помніку вобраз журботнай жанчыны зліваецца з сілуэтам сумнай птушкі — тым самым сімвалізуючы спачуванне прыроды людскім бедам. Паліраваны граніт птушкі больш насычаны па тоне, а значыць, больш змрочны, трагічны па выглядзе.

Барэльефная постаць для захавання шурпатай светлай аўры чалавека наўмысна не падвяргалася шліфоўцы. Уражанне светласці ўзмацняе высечаная побач кветка лілеі, якая сімвалізуе чысціню і нявіннасць. У гэтым кантэксце пластычная, як сумная мелодыя, выява жанчыны паўстае як абагулены сімвал разбурэння надзеі на сямейнае шчасце...

Кіраўніцтва Калінкавіцкага райвыканкама выступіла ініцыятарам стварэння помніка і садзейнічала таму, каб праект адпавядаў задуме аўтара. Таму ў аснове пляцоўкі для пастамента — васьмікантовік. Да помніка вядуць шэсць прыступак. Гэтыя лічбы складаюць разам лічбу года, калі адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС...

Усе састаўныя часткі помніка дазваляюць бачыць у ім прыклад сучаснага манументальнага мастацтва. Зямное і ўзнёслае, сімвалы адвечных чалавечых каштоўнасцей, думы беларуса пра сённяшні час і будучыню гарманічна пераплятаюцца ў гэтым творы, падахвочваюць суперажываць, асэнсоўваць.

Алег АНАННЕЎ

На здымку: памятны знак, які ўвасабляе трагедыю Чарнобыля.

Фота аўтара

## Культура слова

### ЗАКЛАЎСЯ НА ЦВЕТ

— Ужо язьмін заклаўся на цвет.

Гэта кажа мая суседка ў Зялёнай Дуброве. 83-гадовая Вікця Шыкер.

А мой трохі старэйшы за мяне сябар Коля Карповіч, былы штурман авіяцыі, а цяпер садоўнік-аматар, заўважыў мне вясной:

— Сад яшчэ не заклаўся на цвет.

Коля вярнуўся з неба на сваю зямлю гадоў праз сорак пасля таго, як закончыў сярэднюю школу, ды от і ў завоблачных вышынях не выветрылася з яго памяці тутэйшае слова.

Заклаўся на цвет. Проста і ясна.

Я запісваю гэтае слова і, прыехаўшы ў Мінск, лезу ў слоўнікі: ці ёсць там слова закласціся ў такім значэнні?

Разгортваю «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Ёсць такое слова. Ды толькі… у іншым значэнні: «пайсці ў заклад, паспрачацца на што-небудзь». І толькі!

Не находжу выразу закласціся на цвет таксама ў двухтомавых «Беларуска-рускім слоўніку» 1988 года і ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» І. Я. Лепешава 1993 года выдання.

Няўжо толькі ў нас, на Старадарожчыне, так гавораць? Прагглядваю дыялектные слоўнікі, што ў мяне пад рукой. І от — эўрыка! У «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі» знаходжу слова залажыцца ў нашым значэнні. Да яго даецца і прыклад з гаворак Пухавіцкага раёна: «Гуркі на цвет залажыліся». Закласціся, залажыцца — сінонімы.

Значыць, жыве ў народзе гэты прыгожы выраз. Няўжо мовазнаўцы яго больш нідзе не запісалі, каб пусціць у шырокі свет?

Кастусь ЦВІРКА

# Пялёсткі з радзімы Уладзіміра Дубоўкі

Уладзімір Дубоўка нарадзіўся 2 (15) ліпеня 1900 года ў вёсцы Агароднікі. Пра гэта ён пісаў у сваіх успамінах, такія звесткі падаюцца ва ўсіх даведніках і энцыклапедыях. Аднак некаторыя мясцовыя жыхары ўпэўнена сцвярджаюць, што паэт нарадзіўся ў Манькавічах, у хаце, што стаяла амаль у цэнтры вёскі. Хто ж мае рацыю і чаму рознянца сведчанні? Відаць, справа ў тым, што сям'я Дубоўкаў у той час сапраўды жыла ў Манькавічах, дзе бацька паэта Мікалай працаваў на бровары ў князя Друцкага-Любецкага, і пачатак свайго жыцця Уладзімір Дубоўка правёў у гэтым мястэчку. А вось нарадзіўся ён на свет у Агародніках, у хаце, дзе на той час жылі ягоныя дзядуля і бабуля па бацькавай лініі.



Атрымліваецца, што і Агароднікі, і Манькавічы можна лічыць раўнапраўнымі радзімамі паэта. Калі ўважліва прачытаць кнігу успамінаў У.Дубоўкі "Пялёсткі", то можна заўважыць, што абедзве вёскі з іх ваколіцамі аказалі вялікі ўплыў на фарміраванне характару і сістэмы жыццёвых каштоўнасцей будучага паэта.

Агароднікі — вёсачка невялікая. Хаты выцягнуліся двума радамі паабапал вуліцы на пагорку, непадалёк ад рачулкі Аржоўка, якая, упадаючы ў раку Мядзелку, утварае Сутокі, пра якія паэт згадвае ў сваіх успамінах. Паўднёвы край вёскі ўпіраецца ў шашу Вільня—Полацк, паўночны — выходзіць на дарогу Паставы—Калееўцы. Гэтыя транспартныя шляхі з'явіліся адносна нядаўна, у 1970-я гады; у пачатку ж стагоддзя праз Агароднікі праходзіў бойкі гасцінец, які злучаў Паставы і Манькавічы з Груздавам і Мядзелам. У даўнейшыя часы ваколіцы вёскі былі занятыя хмызнякамі і балотамі, але пазнейшая меліярацыя ператварыла землі ў сельскагаспадарчыя палеткі. Цяпер вакол — слабаўзгорыстая раўніна, на якой летам хвалямі гайдаецца лён або жыта. Толькі бліжэй да рэчкі засталіся балоты і поплаў.

Сама вёска ўзнікла, верагодна, у Сярэднявеччы. Назва паходзіць ад гістарычнага тэрміну "агароднік" — так называлі сялян у Вялікім княстве Літоўскім, якія сялілі на невялікіх дзялянках і абавязвалі выконваць правіннасці. Паводле "Уставы на валокі" 1557 г. агароднікам давалі па 3 маргі (1 морг — 0,71 га) зямлі і ссялялі ў вёскі па 10-20 двароў паблізу фальваркаў. Гэтая акалічнасць дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што вёска ўтварылася ў XVI стагоддзі, бо ў суседніх Манькавічах маёнтак вядомы якраз з гэтага часу. У 1905 годзе Агароднікі былі даволі вялікім сельскім паселішчам, у якім пражываў 271 жыхар (131 мужчына і 140 жанчын); меласа 288 дзесяцін зямлі. Аднак самастойную ролю ў мясцовым жыцці адыгрываць вёска было цяжка, бо зусім побач, за 2,5 км на паўночны захад, знаходзіўся маёнтак князя Друцкага-Любецкага, Манькавічы з царквой, млынам, валасным праўленнем. Менавіта тут і прайшло маленства Уладзіміра Дубоўкі. У невялікіх апавяданнях-успамінах у кнізе "Пялёсткі" пісьменнік расказвае пра свае першыя жыццёвыя вопыты, а ў аўтабіяграфіі згадвае сваіх родных, жыхароў аднавяскоўцаў, вакольныя мясціны. Перад хатай Дубоўкаў раслі бярозы. У канцы 1960-х, пасля рэабілітацыі, паэт наведаў родныя мясціны, пабываў у Агародніках і Манькавічах, напісаў некалькі вершаў.

У вяскова-местачковым архіпелагу поўдня Пастаўшчыны Манькавічы займалі адметнае месца: яны адыгрывалі ролю мясцовага вузельчыка, у які завязваліся шматлікія і разнастайныя тутэйшыя духоўныя і фізічныя шляхі. Яшчэ ў мінулым стагоддзі тут ладзіліся кірмашы, меўся вялікі сядзібны дом, працавалі млын і бровар, дзейнічала некалькі цэркваў. Таму і сыходзілася да мястэчка аж шэсць дарог. З тых былых бойкіх шляхоў больш-менш цывілізаваным застаўся толькі той, што вядзе ў бок вёскі Мястэчка; астатнія ж прыйшлі ў занепад, прычым некаторыя так зараслі, што і прайсці па іх цяжка.

Упершыню ў дакументах Манькавічы сустракаюцца з XVI стагоддзя як сяло і маёнтак на рацэ Мядзелка ў Ашмянскім павеце Вялікага княства Літоўскага. Зафіксавана паселішча як вотчына Шэметаў. Канцлер Леў Сапега ў 1616 годзе выдаў Гальшцы Шэмет, народжанай Хадкевічавай, удаве Вацлава Шэмета, кашталяна смаленскага, распіску ў атрыманні ад яе "4000 копъ грошей, каковую сумму Шемет бы взялi подъ залогъ своих имений Маньковичь и Лучая…"

Пазней мястэчка належала Зяновічам, Кельпшам, Жабам. У другой палове XIX стагоддзя Манькавічы перайшлі ва ўласнасць знакамітага роду Друцкіх-Любецкіх, радавод якіх бярэ пачатак ад Барыса, сына Усяслава Чарадзея. Уладальнікам мястэчка быў Уладзімір Друцкі-Любецкі, ганаровы апякун, шталмайстар двара яго вялікасці, міністр унутраных спраў, князь герба "Друцк". Ён вядомы як адукаваны чалавек, які цікавіўся даўнінай, вёў уласныя пошукі. Увесь радавод князя знаходзіўся ў цесных сувязях з царскім дваром.

У. Друцкі-Любецкі быў сааўтарам і фундатарам адметнай працы даследчыка Аляксея Сапунова "Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні" (1896). У гэтай кнізе было запісана пра Манькавічы: "Вёска і маёнтак пры рацэ Мядзелка ў 125 вёрстах ад Вільні і 70 вёрстах ад Вілейкі належаць цяпер ганароваму апекуну, шталмейстару князю У.І. Друцкаму-Любецкаму".

У вяскова-местачковым архіпелагу поўдня Пастаўшчыны Манькавічы займалі адметнае месца: яны адыгрывалі ролю мясцовага вузельчыка, у які завязваліся шматлікія і разнастайныя тутэйшыя духоўныя і фізічныя шляхі. Яшчэ ў мінулым стагоддзі тут ладзіліся кірмашы, меўся вялікі сядзібны дом, працавалі млын і бровар, дзейнічала некалькі цэркваў. Таму і сыходзілася да мястэчка ажно шэсць дарог. З тых былых бойкіх шляхоў больш-менш цывілізаваным застаўся толькі той, што вядзе ў бок вёскі Мястэчка; астатнія ж прыйшлі ў занепад, прычым некаторыя так зараслі, што і прайсці па іх цяжка.

Уладзімір Дубоўка ў апавяданні "Незапрошаныя візіцёры" успамінае пра тое, як разам з вясковымі хлопцамі аднойчы забраўся крадком у панскі палац, каб паглядзець кнігі, якіх, па чутках, у кабінеце У.Друцкага-Любецкага была незлічоная колькасць: "... Шафы, шафы, шафы і ўсе са шклянымі дзверцамі, ды ад падлогі да самай столі... Нават паміж вокан знадворнай сцяны шафы, шафы… і ва ўсіх жа шафах — кнігі, кнігі, кнігі…

... І мы ўсе кінуліся да кніг. Бралі адну, гарталі, разглядвалі малюнкі, на якіх былі ніколі не бачаныя намі краявіды, людзі, убранні, бралі другую, трэцюю…"

У.Друцкі-Любецкі памёр у сакавіку 1905 года. У навакольных вёсках была абʼяўлена жалоба. Пахаванне было пышным. Цела князя везлі на чацвёрцы коней, з духавым аркестрам. Ён быў пахаваны ў радавой капліцы за ставам. Каб ушанаваць памяць любімага мужа, праз пяць гадоў княгіня пабудавала каля возера Варанец яшчэ адну капліцу з чорнага базальту, аздобленую золатам і срэбрам. У 1910 годзе пры вялікім натоўпе народа цела князя ўрачыста было перавезена з Манькавічаў у Варанец. Цела У.Друцкага-Любецкага было забальзамiравана, знаходзілася ў сярэбранай труне з дубовым футлярам. Падчас Першай сусветнай вайны немцы разбурылі капліцу, а труну з целам князя разрабавалі і скінулі ў возера Доўжа.

Летам 1905 года з-за сенакосу на паплавах узнік канфлікт паміж сялянамі і панскім адміністратарам: сялянам забаранілі касіць сена на пойме ракі, дзе яны гэта спрадвек рабілі. А паколькі сяляне не падпарадкаваліся і скасілі паплавы, у маёнтак былі выкліканы вайскоўцы. Пасля таго, як бунтаўшчыкі былі ўціхаміраны, для карнікаў у маёнтку наладзілі гульбу-папойку. Падчас гэтага балявання здарыўся пажар, у полымі якога згарэлі амаль усе гаспадарчыя пабудовы. Ацалеў толькі палац і некалькі камяніц. Пра гэта здарэнне Уладзімір Дубоўка напісаў у апавяданні "Пажар": "Эскадрон карнікаў паехаў з вясёлай песняй у маёнтак. Там такім "ваякам" выкацілі бочкі гарэлкі, — бровар у князя свой! — а на закуску і кілбасы, і вяндліна...

І вось апаўночы ўзняўся ў маёнтку пажар. Вялізны пажар. Знялося адразу ў дванаццаці месцах...

…Ад вялікага маёнтка, можна сказаць — гарадка, застаўся быў адзін палац ды некалькі камяніц".

У час Першай сусветнай вайны мястэчка моцна пацярпела, бо знаходзілася на лініі фронту. Частка будынкаў была разбурана ў час абстрэлу з гармат. Падчас Другой сусветнай вайны быў знішчаны і сядзібны дом. Адны людзі сцвярджаюць, што яго спалілі партызаны, другія — што немцы, але факт застаецца фактам: на сённяшні дзень ад былога прыгожага сядзіба-паркавага ансамбля засталося толькі некалькі старых дрэў, рэшткі падмурку гаспадарчай пабудовы, стаў ды напаўразбураная капліца княгіні Элеаноры Друцкай-Любецкай.

У 1996 і 1999 гадах Манькавічы сталі месцам правядзення літаратурных семінараў "Даўжанскія вечары", якія былі прысвечаны жыццю і творчасці Уладзіміра Дубоўкі. Удзел у семінары бралі літаратары Уладзімір Арлоў, Валянціна Аксак, Міхась Кенька, Янусь Малец, Генадзь Шупенька, Алесь Жыгуноў, Марыя Баравік, Франц Сіўко, Аркадзь Нафрановіч, Алесь Касцень і іншыя.

Як жа выглядаюць Манькавічы цяпер? На ўездзе ў вёску пададрожнік пабачыць вялікія могілкі. Бліжэй да вёскі, на даўнейшым цвінтары, магілкі старыя, урослыя ў зямлю. На многіх толькі камяні-валуны сведчаць пра тое, што тут хтосьці пахаваны. Сустракаюцца помнікі пачатку XX стагоддзя з надпісамі на рускай мове, бо Манькавічы, у адрозненне ад некаторых вакольных каталіцкіх вёсак, былі мястэчкам праваслаўным.

За могільнікам направа ад дарогі адгаліноўваецца зарослая і ўжо слабапрыкметная сцежка-дарожка, якая ў ранейшыя часы злучала мястэчка з Ліпнікамі ды Паставамі, а зараз яна заводзіць у лес і там губляецца ў хмызах.

З гэтага перакрыжавання, па сутнасці, і пачынаецца сама вёска, бо з'яўляюцца першыя жылыя хаты ды сады з агародамі. І таму тут, як і ў даўнейшыя часы на ростанях-раздарожжах, каб не дазволіць падысці да чалавечага жытла нячыстай сіле, пастаўлены вялікі драўляны крыж-абярог.

Праз некалькі двароў на правым баку вуліцы ўзвышаецца, патанаючы ў зеляніне высокіх дрэў, праваслаўны храм Успення Прасвятой Багародзіцы. Унушальная агароджа, вымураваная вялізнымі валунамі, каваныя вароты і брамка, якая адчыняецца толькі ў сувязі на службу, надаюць храму, які таксама змураваны большай часткай з валуноў, важкі і сур'ёзны выгляд. Царква стаіць алтаром да вуліцы, а ўваход знаходзіцца з боку поля. Раней з паўночнага боку была плошча, на якую і выходзілі вароты храма, аднак зараз ніякіх прыкмет той плошчы няма.

Сучасная вясковая плошча знаходзіцца далей па вуліцы за храмам. У гэтым месцы дарога раздвойваецца: адна вядзе проста да месца былой сядзібы, другая — да запруды на рацэ Мядзелка. У цэнтры плошчы пастаўлены помнік вайскоўцам і партызанам, якія тут пахаваны. Вакол помніка пасаджаны маладыя дрэўцы, якія ўтвараюць невялічкі сквер.

З левага боку плошчы знаходзіцца будынак былога сельскага магазіна. Шыльда "Товары повседневного спроса" сведчыць пра тое, што ў 1970—1980 гады тут яшчэ ладзіўся актыўны гандаль. Побач з крамай на месцы, дзе раней стаяла хата Дубоўкаў, да сярэдзіны 1980 гадоў знаходзілася школа. Аднак зменшэнне колькасці дзяцей прывяло да таго, што школу зачынілі. Паступова, з дапамогай людзей, будынак пачаў разбурацца. На сённяшні дзень ад школы нічога не засталося, а на тым месцы, дзе яна стаяла, знаходзіцца лецішча.

Калі ад плошчы пайсці па левай вуліцы, то мінуўшы некалькі хат, можна ўбачыць высокі каменны падмурак — рэшткі свірна, які быў пабудаваны ў пачатку XIX стагоддзя ў стылі ампір. Гэта, па сутнасці, усё, што засталося ад сядзібных пабудоў, бо далей, на ўзгорку, дзе ў XVIII—XX стагоддзях знаходзіўся сядзібны дом, зараз месціцца будынкі дачнікаў. Толькі вялікія волаты-дрэвы даюць магчымасць упэўніцца ў тым, што тут калісьці было культурна-гістарычнае месца.

Каля рэшткаў свірна вуліца расшчапляецца на тры дарогі: левая, спускаючыся ўніз, вядзе ў лес да старых могілак і потым далей каля Гарэлага балота, пра якое згадвае У.Дубоўка ў "Пялёстках", на Агароднікі; цэнтральная падымаецца на ўзгорак да месца, дзе быў сядзібны дом; правая, нібыта праз тунель, што ўтвараюць над ёй старыя ліпы і зараснікі бэзу, выводзіць да пляцiны на рэчцы Мядзелка, дзе злучаецца з вуліцай, што ідзе ад вясковай плошчы.

Кожны, хто пабывае ў Манькавічах, абавязкова зверне ўвагу на ставы-запруды. Вышэй плаціны калісьці было ладнае па памерах вадасховішча, але цяпер яно ператварылася ў балота з вялікімі запасамі торфу і сапрапелю, у густой балотнай расліннасці з цяжкасцю можна ўгледзець рачулку. Ніжэй плаціны знаходзіцца яшчэ адзін стаў. Ён значна меншы па памерах, але ў атачэнні даволі высокіх берагоў і навіслых дрэў, у шуме пеннай вады, што падае, ён выглядае вельмі прывабна.

У дамбе зроблены дзве пратокі для вады. Па першай, праз якую перакінуты лёгкі масток з жэрдак, водны паток раней ішоў на млын і, падаючы, круціў жорны. Але зараз тут суха, а на месцы млына — гурба друзу з цэглы, гнілога дрэва ды рэштак металічных канструкцый.

Прайшоўшы трохі па насыпу, можна апынуцца каля другой пратокі, па якой увесь час цячэ вада, ды не проста цячэ, а падае ўніз на каменне ды старыя палі, разбіваючыся на тысячы пырскаў, утвараючы шумлівы і вясёлы вадаспад. Мясцовыя жыхары нацягнулі над пратокай параўнальна вузкі масток, якім карыстаюцца ў асноўным пешаходы ды веласіпедысты.

За мостам направа даволі шырокай паласой працягнулася ўзвышаная пойма — месца, якое аблюбавалі турысты і аматары адпачынку на прыродзе. Кожны год тут адбываюцца спаборніцтвы па турызме і арыентаванні, гарацьь вогнішчы і спяваюцца песні.

За дамбай дарога зноў разлучаецца на тры: левая вядзе да капліцы Элеаноры Друцкай-Любецкай і далей на Сарочына, цэнтральная — на Дзераўнянкі і старамядзельскі шлях, правая — на Кашыцы ды Паставы. І ўсе яны ідуць праз прыгожы, маляўнічы і загадкавы Манькавіцкі лес, які хавае ў сваіх нетрах шмат якіх таямніц пра гісторыю Манькавічаў і яе ваколіц.

Ігар ПРАКАПОВІЧ
г. Паставы

На здымку: мост і стаў на Мядзелцы, 1960-я.

# Вясёлак столькі, колькі нас!



Рэспубліканскі фестываль мастацтваў "Арт-сегмент" стаўся адной з найбольш прыцягальных творчых падзей сталічнага лета. Без малога месяц у выставачных залах Палаца мастацтва і вакол яго віравала нармальная для арт-асяроддзя атмасфера: жвавая, перапоўненая эстэтычнымі ды філасофскімі парадоксамі, працятая маланкамі палемікі. Шырокую ўвагу выклікалі як работы экспанентаў, так і фестывальныя акцыі (перформансы, музычныя праекты, правядзенне пленэру).

Усё, да чаго здатная творчая фантазія. Тое, што, не пабачыўшы на ўласныя вочы, уявіць немагчыма... Такая стракатая, правакацыйна дзёрзкая разнастайнасць, разгорнутая ў выставачнай прасторы палаца, упарадкоўвалася ў некалькіх арт-сегментах. Куратары ды ўдзельнікі гэтых сегментаў — мастацкіх праектаў, — можна сказаць, на парозе вялікага калектыўнага вернісажа сур'ёзна, проста і з гумарам тлумачылі шматлікім гасцям свае намеры. Галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі А. Зіменка падчас адкрыцця "Арт-сегмента" зазначыў: міністэрства падтрымлівае самыя розныя выставачныя праекты Беларускага саюза мастакоў. А намеснік старшыні БСМ С. Цімохаў, павіншаваўшы прысутных з ажыццяўленнем новага праекта, выказаў упэўненасць, што такія эксперыментальныя выстаўкі будуць праводзіцца і ў далейшым, незалежна ад выніку выбараў новага кіраўніцтва саюза, якія маюць адбыцца пры канцы года.

"Сегментарнае" свята творчасці вызначалася ў кожнай зале палаца сваімі канцэптуальнымі адметнасцямі. У зале графікі спалучыліся, дапаўняючы адзін аднаго, два праекты: "Сучасная скульптура: іншы погляд" (куратар В. Дзмітрыева) ды "Фотавымярэнне" (куратар Г. Самарская). Праз гэты мудрагелісты дыялог фотавыяў гарадскога ландшафтнага дызайну і станковай пластыкі раскрываўся крэатыўны патэнцыял сучаснай беларускай скульптуры. А непадалёк месціўся праект "Just now-3" (яго куратар і ўдзельнік Г. Васільева) — працяг знаёмства з невычэрпнымі магчымасцямі віцебскіх мастакоў, чый "незалежны сегмент" складаўся з вынаходлівых работ 10 аўтараў (арт-кніга, неамінімалістыка, неасупрэматызм, аўтарская ручная папера, калаж...).



Пэўна, захапляльным творчым актам стаўся сам працэс усталявання двух нетрадыцыйных аўтарскіх праектаў у зале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Апошнія штрыхі ў сваю экспазіцыю А. Клінаў дадаваў за колькі хвілін да вернісажа. Майстар постмадэрнісцкага эпатажу гэтым разам выявіў... "Патаемнае жыцьцё саломы". Захапіўшыся самым беларускім з прыродных матэрыялаў, мастак распачаў цыкл твораў, дзе праз натуральную, звычайную салому інтэрпрэтуе сусветна вядомыя ўзоры арт-класікі. У аб'ёмнай і фактурнай саламянай кампазіцыі, паказанай на выстаўцы, выразна "чыталася" крыніца натхнення: кананічная "Тайная вячэра". І пацвярджалася слушнасць знаўцаў творчасці А. Клінава ў трактоўцы яго саламянага свету як гульні сэнсаў на мяжы залатой велічы цывілізацыі і распаду матэрыі, вабнасці і тхліны, біблейскага напаміну пра хуткаплыннасць ды хісткасць усяго зямнога. І матыў вечнага руху, упартасці адраджэння жыцця прабіваўся ў кволых свежых парастках пасярод бяседнага стала, "накрытага" вільготным пажыўным грунтам.

У лагічным суседстве з гэтай маштабнай работай апынуўся своеадметны дэкаратыўна-прыкладны арт-аб'ект "Зеляніна прэ!!!" В. Сазыкінай. Пра свой праект мастачка выказалася так: "У дынаміцы росту, рэальна прадстаўленай у экспазіцыі, і ўсюдыіснага зялёнага колеру хацелася б зафіксаваць сувязь у сістэме тоеснасці з'явы і яе вобразу ў душы. Зеляніна ўзрывае асфальт. Займае прастору кватэр. Прарастае праз дахі дамоў. Расліннае жыццё паглынае, як акіян... Зямля, перамешваючыся з вадой і ветрам, прымае семя і нараджае — стыхію зялёнага...". У працяг аўтарскіх разваг — і звычайнае трумо, з шуфлядаў якога сапраўды прэ, няўгледна працягваючы свой рост, "пер'е" жывой зеляніны; і стандартныя драўляныя тумбачкі, з якіх вырываецца тая самая стыхія зялёнага; і пара дамскіх туфляў, пераўтвораных у вазон. А побач з трумо ўражвала спантаннымі зялёнымі акцэнтамі шматколерная людская плынь — зменлівы адбітак выставачнай рэальнасці ў аб'ектыўным люстэрку арт-аб'екта...



"Людзі павінны быць удзячныя прыродзе, што яна стварыла іх усіх рознымі. Рознымі не толькі вонкава, але і па здольнасцях да ўспрымання гуку, колеру, святла, смаку і г.д. Гэтая розніца ўспрымання адных і тых жа рэчаў з'яўляецца асноўнай, якая абапіраецца на адукацыю, выхаванне, "нагледжанасць", "наслуханасць", начытанасць... Без разумення ўсіх гэтых умоў нельга ўразумець такі роскід у ацэнках адной і той жа з'явы рознымі людзьмі, групамі або грамадскасцю... Асабліва гэта датычыць ацэнкі твораў мастацтва..." — сцвярджаюць арганізатары праекта "Mageia cerebrum ("Цёмныя таямніцы мозгу")", які ладзіўся ў самай вялікай зале палаца. Па сутнасці тут ладзіўся міжнародны фестываль ненеэксперыментальнага мастацтва "Дах-11". І сам праект, які дэбютаваў 9 гадоў таму ў знаным берлінскім кунстхаўзе "Тахелес", і яго куратара жывапісца А. Родзіна чытачам "ЛіМа" прадстаўляць не трэба. Аднак варта патлумачыць, што пасля леташняга мінскага "Даху-9", вакол якога гуртаваліся арт-асобы з 11 краін, быў яшчэ фэст у Берліне — "Дах-10", дзе ў асяроддзі візуальнага мастацтва выступіў яркі шэраг музычных гуртоў.

Пад сёлетнім "Дахам" сабраліся творцы, якія эксперыментуюць са словам, гукам, жэстам, фарбамі, а таксама іх прыхільнікі ды апаненты. Тэма праекта прагучала для ўсіх прапановаю: не спяшацца раздаваць ацэначныя цэтлікі, а паразважаць пра, здавалася б, невытлумачальныя таямніцы мозгу, памеркаваць пра тое, што ён сабою ўяўляе, і чаму кожны з нас, успрымаючы творы мастацтва, бачыць, чуе, думае не так, як іншы, нават блізкі па духу і ўзроўню адукацыі, чалавек... Прэзентацыя "Цёмных таямніц..." нагадвала блуканне па лабірынтах падсвядомасці, бо адбывалася ў амаль абсалютнай цемры; фотаўспышкі ды хаатычныя промні кішэнных ліхтарыкаў адвольна выхоплівалі з яе фрагменты экспазіцыі — нейкія выявы, якія інтрыгавалі, палохалі, выклікалі смех ці замілаванасць, жаданне ўбачыць твор цалкам. Сям-там высвечваліся тэксты: афарыстычная занатоўка, цытата з класіка, безыменныя мастакоўскія развагі...

На папяровых палосках, прымацаваных да лесвіцы, прачытала: "Існуе столькі ж вясёлак, колькі назіральнікаў".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Артур Клінаў "Патаемнае жыццё саломы"; Кастусь Касцючэнка "Эцюд ню. Віка"; праект Вольгі Сазыкінай "Зеляніна прэ!!!".

Фота Віктара Кавалёва

# Знітаванне несумяшчальнага

У незвычайным месцы — у будынку офіса вытворчага прадпрыемства "Алютэх" — адкрылася персанальная выстаўка карцін мастака-графіка, акварэліста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Генадзя Шутава. Паводле слоў дырэктара па маркетынгу кампаніі "Алютэх" Уладзіміра Рыбакова, на першы погляд мала чаго агульнага паміж мастацтвам і вытворчасцю алюмініевага профілю.

Аднак бізнес, як і мастацтва, патрабуе не толькі ведаў, але і творчага патэнцыялу для развіцця. Менавіта таму група кампаній "Алютэх" вырашыла аб'яднаць два, здавалася б, несумяшчальныя віды дзейнасці і паказаць, наколькі яны на самай справе блізкія па сваёй сутнасці. Бо ўсё, што ні робіць чалавек, з'яўляецца насамрэч творчасцю.

Ідэя наладзіць выстаўку ва урбаністычным інтэр'еры офіса нарадзілася ва Уладзіміра Рыбакова пасля таго, як ён азнаёміўся з творчасцю Генадзя Шутава і зразумеў, што яна значна больш вядомая за межамі нашай краіны. Генадзь Фёдаравіч — прадстаўнік знакамітай Віцебскай мастацкай школы — валодае унікальнай манерай пісьма, якая заключаецца ў шматслойным накладванні дробных мазкоў, у выніку чаго нараджаюцца дэталёва прапісаныя работы. Творчасці Генадзя Фёдаравіча ўласцівыя сузіральнасць і імкненне да цішыні, яго прыглушаныя тоны зачароўваюць, у кожнай карціне адчуваецца нябачная прысутнасць чалавека. Работы аўтара перадаюць увесь патэнцыял акварэлі — лёгкасць, празрыстасць колераў, цеплыню і спакой.



Генадзь Шутаў — аўтар серый работ "Стары Віцебск", "Зямля беларуская", "Беларускі нацюрморт", "Помнікі архітэктуры Віцебшчыны", "Выцягнутыя маўчаннем", лістоў "Жоўты нацюрморт", "Дахі старога Віцебска", "На краі вечнасці", "Настальгія па леце", "Раўнавага. Гармонія спакою"... Яго творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Траццякоўскай галерэі ў Маскве, фондах Беларускага саюза мастакоў, Метраполітэн-музеі (Нью-Йорк, ЗША), мастацкіх музеях Кіева, Ашгабада, Смаленска, Віцебска, Магілёва, Полацка...

Да слова, пры афармленні сваіх офісаў кампанія карыстаецца паслугамі толькі мастакоў і афарміцеляў менавіта Віцебскай школы, пра што ні разу не пашкадавала. "Алютэх" і надалей мае намер падтрымліваць беларускіх мастакоў, а таксама сваіх супрацоўнікаў, якія імкнуцца да прыгожага. Падобныя мерапрыемствы здольныя ўдыхнуць у супрацоўнікаў вытворчага прадпрыемства новыя ідэі і раскрыць іх творчы патэнцыял. У бліжэйшых планах кампаніі — арганізацыя своеасаблівай экспартнай фотагалерэі. Бо экспартная геаграфія кампаніі вельмі разнастайная, супрацоўнікі шмат ездзяць у камандзіроўкі, дзе робяць фотаздымкі. Сярод гэтых "экспартных" фатаграфій ёсць даволі цікавыя, якія кіраўніцтва кампаніі мяркуе выставіць у фотагалерэі і тым самым далучыць супрацоўнікаў да свету мастацтва.



Віктар ЗАЯЦ

На здымках: акварэлі Генадзя Шутава "Пурпурны букет настурак" і "Белая канюшына".

Фота аўтара

# Натхнёны Нёманам

**Яўген Шунейка, вядомы прадстаўнік айчыннага мастацтвазнаўства, актыўны дзеяч беларускай культуры, аўтарытэтны педагог — дацэнт кафедры гісторыі і тэорыі выяўленчага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, — асоба творча універсальная. Навуковец і крытык, ён ужо неаднойчы здзіўляў калег паказам сваіх экспрэсіўна-маляўнічых карцін і эцюдаў, дзе праз фарбы выказвае ўласнае светаадчуванне, апявае разнастайныя прыгожыя імгненні-“перліны” навакольнага, поўнага кантрастаў, імклівага жыцця. Безумоўна, выклікае пэўную цікавасць тое, што Шунейка-тэарэтык яшчэ з юнацкіх гадоў (падчас вучобы ў Мінскім дзяржаўным мастацкім вучылішчы імя А. Глебава, а потым — на аддзяленні мастацкага тэкстылю Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, цяперашняй БДАМ) няспынна працуе ў вольны час і як мастак (што, вядома ж, толькі ўзбагачае апантанага, захопленага Прыгажосцю, даследчыка). Такім чынам, у персоне абазнанага эстэта арганічна спалучаюцца два самастойныя кірункі мастацкай дзейнасці: асэнсаванне-даследаванне і творчая практыка.**






Ці не кожная значная выстаўка, арганізаваная Беларускім саюзам мастакоў, не абыходзіцца без слушных, змястоўных заўваг ды эмацыйна-“пафасных” меркаванняў гэтага таленавітага крытыка. Часам побач з творамі слынных айчынных майстроў пэндзля ў экспазіцыйных залах можна заўважыць і арыгінальныя кампазіцыі самога Яўгена Феліксавіча. А курс яго вучэбна-метадычных лекцый-семінараў у БДАМ студэнты, будучыя мастацтвазнаўцы і мастакі, успрымаюць “на ўра”. І дзе б ні з’яўляўся Я. Шунейка, вакол яго прыкметнай, запамінальнай, артыстычна-няўрымслівай постаці нібы лунае светлы, добры, мудры дух, ствараецца атмасфера агульнага паразумення, рамантызаванай “сусветнай гармоніі”, аптымізму, гуманізму.

З нядаўняга часу Яўген Шунейка мае намер ажыццявіць (разам з калегамі-аднадумцамі) доўгатэрміновы дабрачынны мастацка-асветніцкі праект — рэйд сталічных мастацкіх сіл у беларускую глыбінку. Напачатку плануецца аб’ездзіць з персанальнымі і арыгінальнымі групавымі аглядна-тэматычнымі выстаўкамі Міншчыну (у



перспектыве ж — ахапіць усю Беларусь), праводзячы ў раённых музеях і карцінных галерэях, палацах культуры аўтарскія экскурсіі, лекцыі-дыспуты, творчыях вечарыны-сустрэчы для мясцовых жыхароў. Пры гэтым наладжваць, па магчымасці, рэгулярныя ці сезонныя лакальныя майстар-пленэры ў знакамітых гісторыка-культурных мясцінах пэўнага рэгіёна, з нагоды памятных падзей і адметных асоб, спалучаючы самастойную даследчыцка-пошукавую этнаграфічна-краязнаўчую працу са сваёй творчасцю і да т. п.

Адным словам, ёсць імкненне праз рэгіянальныя асаблівасці больш пабачыць, адчуць, зразумець сваю мілую Бацькаўшчыну, стваральны імпэт, духоўную моц, эстэтычныя каштоўнасці землякоў-беларусаў. Без гарачага, яскравага патрыятызму, мяркуе Я. Шунейка, сёння не можа быць добрасумленнага, адукаванага айчыннага інтэлігента-творцы. Аднак, на яго думку, большасць сучасных сталічных прафесійных мастакоў (не толькі маладых, але і знаных, “заслужаных”), на жаль, амаль бессэнсоўна “таўкуць ваду ў ступе”, марнуюць свой каштоўны прыродны талент і асабісты час, няшчыра працуючы на карысць камерцыйных інтарэсаў, “гламурных” салонаў, таннай спажывецка-абывацельскай поп-культуры “не першай свежасці”. Гэтыя псеўдамастацкія кітчавыя аднадзёнкі — усё ж не для нас, не маюць ні значнай каштоўнасці, ні будучыні, не спрыяюць ні глабальнаму, ні нацыянальнаму адраджэнню духоўнасці... Мастацтва ж найперш павінна служыць свайму народу, Айчыне! На роднай глебе, з родных каранёў і крыніц піць жыватворны нектар натхнення, каб шчодра квітнець...

І вось “першай ластаўкай” у прасторы такой перспектыўнай дзейнасці з’явілася сёлетняя персанальная выстаўка твораў мастака Яўгена Шунейкі пад назвай “Ля Нёманскіх вытокаў” у гісторыка-краязнаўчым музеі ва Уздзе. Экспазіцыя складалася з 15 работ у розных тэхніках (акварэль, пастэль, акрыл, набіванка), створаных спецыяльна для вуздзенцаў, і мела поспех, атрымала добры розгалас сярод мясцовай грамадскасці і аматараў мастацтваў.

Разглядаючы-аналізуючы яго творчасць, безумоўна, варта ўлічваць, што Шунейка-жывапісец (па “тэхнічным”, кампазіцыйным майстэрстве, грунтоўнасці трактоўкі вобразаў, напрыклад) усё ж не роўня славутым айчынным віртуозам пэндзля, такім, як Міхась Савіцкі, Леанід Шчамялёў, Гаўрыла Вашчанка, Май Данцыг ці больш маладых “жывых класікаў”, якія ўсё свядомае жыццё “эксперыментавалі” ды “штудзіравалі”, стоячы ля мальберта. Ды ён ніколі і не імкнуўся да ўсеахопнай фармальна-каларыстычнай распрацоўкі сваіх палотнаў. Яго “аператыўны”, звычайны “працоўны” жанр — беглыя аўтарскія эскізы-замалёўкі, мастацка-філасофскія “эсэ-абразкі”, якія, тым не менш, адметныя моцнай уражлівасцю, змястоўнай дасканаласцю, ідэйна-аналітычным кшталтам. Творы Я. Шунейкі заўсёды вымушаюць гледачоў думаць, супастаўляць, пільна назіраць, слухаць, успамінаць і запамінаць — і ў гэтым своеасаблівым лірычна-паэтычным “інтэлектуалізме”, здаецца, галоўная іх эстэтычная вартасць і сэнс.

Што больш за ўсё запомнілася на выстаўцы Я. Шунейкі ва Уздзе? Цікавых сюжэтаў і знаходак было там прадстаўлена нямала.

Да 100-годдзя з часу вяртання неўвядальных мошчаў прападобнай святой праведніцы Еўфрасінні Полацкай на Беларусь, якое адзначаецца сёлета, створана “Асветніца-Падзвіжніца сярод крывіцкіх дзетак” (пастэль). Легкія, празрыстыя, цёпла-прамяністыя тоны, як на абразах… Асабліва прыцягваюць увагу твары, больш дакладна — вочы, “люстэркі душы”, святой Настаўніцы, нябеснай заступніцы зямлі беларускай, і яе ўдзячных вучняў-паствы … “Веды, Асвета, Беларусь” — гэтыя словы-дэвіз, накрэсленыя на пергаменце старажытнай рукапіснай кнігі, як на штандары, успрымаеш як лозунг-запавет суайчыннікам-нашчадкам.

Прыгожы кампазіцыйны калаж “Спатканне ў Геранёнах” выкананы паводле тэхналогіі і ўзораў традыцыйнага беларускага народнага мастацтва, г.зв. “набіванкі”. У аснове — гістарычнае паданне пра рамантычнае каханне караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта Аўгуста і князёўны Барбары Радзівіл, але, апроч іх партрэтных выяў — адмысловага штучнага штампу на тканіне, падаецца вельмі дарэчным з вялікім густам падабраны, бліскуча выкананы іншы кампанент карціны — фон-дэкор, шыкоўная “шляхетная” барочная набіванка-шпалера, узнёслыя, мудрагелістыя ўзоры якой можна гадзінамі з захапленнем, і не стамляючыся, разглядаць (напрыклад, рэканструкцыю “магнацкага” арнаменту ажно XVI стагоддзя!).

Самым удалым жывапісным творам, які проста ўпрыгожваў уздзенскую экспазіцыю, падаўся вялікі па памерах, узрушальна-пачуццёвы, з разняволенай і смелай гульнёй-буйствам колеру, вельмі “музычны”, са складаным метафарычным падтэкстам, выкананы ва ўвесь рост кампазіцыйны партрэт Чэслава Немана — выдатнага польскага эстраднага спевака XX стагоддзя, нашага земляка (родам з Гродзеншчыны, адкуль, дарэчы, і Я. Шунейка). Гэтая “Песня над Неманам” мае некалькі варыянтаў, асабліва ж чаруе той, дзе музыкант-самародак (які валодаў фенаменальнымі вакальнымі дадзенамі, мог імітаваць спевы птушак, гоман лесу, шум марскога пры-




бою, — наогул усялякія гукі жывых і “нежывых” прыродных праяў, рэчаў, істот) увасоблены праз вобраз павольнага, ціхамірнага і зіхоткага руху плыні вечаровага Нёмана-ракі… Напэўна, у кожнага гэтае палатно выклікае асабістыя асацыяцыі, фантазіі, пачуцці, успаміны… Мне ж здаецца, што мастак намагаўся, між іншым, даследаваць выключнасць самабытнага народнага таленту, які (як і кожны “сярэднестатыстычны” чалавек) непарыўна, ад нараджэння, зніталаваны нязлічонымі бясконцымі праменьчыкамі з навакольнай прыродай, зямлёй, спрадвечным жыццём на ёй... І яшчэ думаецца, што ў гэтай загадкава прыцягальнай, я сказаў бы — інтравертнай, карціне адбіліся і нейкія падсвядомыя, далёкія “радаводныя” мастакоўскія алюзіі. Бо словы Неман (Нёман), Шунейма (Шунейка) — яцвяжскія тапонімы. Судова-яцвязь — старажытнае заходнебалцкае племя, знішчанае і асіміляванае больш ваяўнічымі і моцнымі суседзямі ў сярэднявеччы. Гэты прыгожы народ жыў, як “друіды”-кельты, у Белавежскай пушчы, упарта бараніў сваю незалежнасць, пакуль не загінуў у бойцы з ворагам апошні яцвяжскі ваяр... Дык пра што ШУ-міш, няспешна, ладна спяваеш, старажытны НЕма-нскі край, беларускае Панямонне? Можа, КА-рціць табе людзей перасцерагчы ад гвалту бяспамяцтва, забыцця, знішчэння? Можа, хочаш распавесці пра лёсавызначальныя падзеі, што некалі адбываліся тут, ці пра выбітныя постаці айчыннай навукі і культуры, якія крочылі па тваіх узгорках-пералесках, па берагах тутэйшых рэчак і азёраў?..

Дарэчы, мастак, чыё прозвішча пасля такіх лінгвістычна-гістарычных экскурсаў складваецца ў маім уяўленні ў нечаканы каламбур — “ШуНЕМАНейка”, стварыў цікавы цыкл карцін — своеадметных асэнсаванняў вядомых, даследаваных у навуцы, грамадскіх з’яў і падзей, выбітных асоб. Гэта акварэль “Уздзянка — рэчка і жыхарка славянка-дрыгавічанка”, набіванка “Сымон Будны на Уздзеншчыне. Кухцічы, 1572г.”, пастэль “Пераемнасць. Максім Багдановіч і Алаіза Пашкевіч (Цётка) у Гародні”, маштабнае палатно (акрыл) “Над-Нёман (вёска ва Уздзенскім раёне). Малая радзіма Якуба Наркевіча-Ёдкі”...

І, магчыма, самы нечаканы сярод іх твор “Адам і Канстанцін Міхайлавіч (Якуб Колас) Міцкевічы”. Нават у вонкавым абліччы Адама Міцкевіча і Якуба Коласа мастак здолеў знайсці, убачыць нейкае падабенства, агульныя рысы, але яшчэ большае “сваяцтва” выявіць праз унутраны, натхнёны стан творчых душ, чые радзінныя мясціны, дарэчы, паяднаныя... Нёманам!

Алесь РУНЕЦ

На здымках: Яўген Шунейка і яго работы “Асветніца-падзвіжніца сярод крывіцкіх дзетак”; “Адам і Канстанцін Міхайлавіч (Якуб Колас) Міцкевічы”; “Паліна, Гражына і Стась”.

---

РВУ «Літаратура і Мастацтва” глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага фотакарэспандэнта Вячаслава ДУБІНКІ і выказвае сваё спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

РВУ «Літаратура і Мастацтва” выказвае шчырае спачуванне дырэктару выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” Бяловай Таццяне Уладзіміраўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку, сакратару праўлення СПБ Сяргею Аляксандравічу Трахімёнку з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

